УДК
ББК
Д

Мастачка Дар'я Бунеева

Пад вокладкай кнігі «Святая ноч» Эдуард Акулін сабраў свае лепшыя творы, напісаныя цягам трыццаці трох гадоў творчай працы. Тут жа змешчаны паэтычны зборнік «Радно», наклад якога быў знішчаны ў 2000 годзе... Друкуюцца таксама пераклады з украінскай, балгарскай, славенскай, македонскай, літоўскай і польскай моў.

ISBN

Эдуард Акулін — паэт, перакладчык, бард. Нарадзіўся 7 студзеня 1963 года ў вёсцы Вялікія Нямкі на Веткаўшчыне. Скончыў Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт і аспірантуру НАН Беларусі. Працаваў настаўнікам, загадчыкам філіі Літаратурнага музея Максіма Багдановіча «Беларуская хатка», намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Першацвет», загадчыкам аддзела паэзіі часопіса «Полымя». Цяпер — галоўны рэдактар часопіса «Верасень».

Аўтар кніг паэзіі: «Лес дзённага асвятлення» (1988), «Пяшчота ліўня» (1990), «Крыло анёла» (1995), «Радно» (2000), «Непрычалены човен» (2003), «Вітражы» (2009), «Малітва воч» (2012), драматычнай містэрыі «На Каляды» (1996) а таксама двух песенных магнітальбомаў: «Мая Крывія» (1995), «Як яна і я» (2000) і кампакт-дыскаў «Напачатку была Песьня» (2003), «Песьні залатой Крывіі» (2008).

Вершы перакладаліся на ангельскую, французскую, італьянскую, украінскую, расейскую, польскую, балгарскую, славенскую, сербскую, харвацкую, літоўскую і латышскую мовы.

Лаўрэат Першага нацыянальнага фестывалю беларускай бардаўскай песні (1993).

# І Слова робіцца Малітвай…

«Дон Кіхот беларускай паэзіі», «Кароль пачуццёвай лірыкі», «сярэбраны голас Беларусі» — за ўсімі гэтымі вызначэннямі, якімі ён па праву ўганараваны літаратурнымі і музычнымі крытыкамі, стаіць яркая асоба паэта і барда Эдуарда Акуліна. «Лес дзённага асвятлення», «Пяшчота ліўня», «Крыло анёла», «Радно», «Непрычалены човен»,— а гэта ўжо няпоўны пералік вершаваных зборнікаў, якія цягам трыццаці гадоў напісаў і выдаў паэт. У лёсе кожнага творцы аднойчы надыходзіць самы адказны момант, калі, кажучы словамі Якуба Коласа, жыццёвы і творчы шлях хочацца пачаць спачатку: «Сабраць з дарог каменні тыя, што губяць сілы маладыя...» Вось і Эдуард Акулін дажыў да таго ўзросту, калі трэба падавацца з «вучняў у настаўнікі», збіраць назапашаны за жыццё творчы вопыт пад адной вокладкай. Што ён і зрабіў, аб'яднаўшы свае паэтычныя набыткі агульнай назвай «Святая ноч». У свой час адзін з вершаў ён пачаў радком: «Мае вершы сумуюць па кнізе...». Відавочна, што на гэты раз яны, вершаваныя стварэнні Эдуарда Акуліна, засумавалі па іншай, больш ёмістай кнізе і захацелі стаць выбранымі творамі, а аўтар пайшоў насустрач іх пажаданню. Ну, а я, са свайго боку, ахвотна пагадзіўся іх прачытаць, сабраныя разам, і напісаць прадмову да аднатомніка.

Адразу адзначу, што назва кнігі «Святая ноч» мне вельмі спадабалася, бо яна зусім невыпад-

ковая для яе аўтара. Справа ў тым, што Эдуард Акулін нарадзіўся ў адну ноч з самім Госпадам, толькі на 1963 гады пазней за нашага Збаўцу. Таму, мушу ў гэтым прызнацца шчыра, чытанне рукапісу для мяне было няпростым. Чытанне — суперажыванне. Чытанне — сумоўе. Чытанне — пытанне... Напачатку для мяне Эдуарда Акуліна-паэта засланяў Эдуард Акулін-бард, непаўторны выканаўца сваіх цудоўных песень. Між паэтычнымі радкамі ён праступаў, як музычны палімпсест, узнікаў ва ўяўленні з гітараю ў руках, ажывалі звонкія струны, чуліся чароўныя мелодыі такіх ягоных песень, як «Мая крывія», «Зорка Максіма», «Пагоня», «Пяшчота ліўня», «Страцім — Лебедзь», «Жоўтая вяргіня» , «Янка Купала»... Міжволі прыходзілі на памяць, гучалі ў душы ўрачыстым рэфрэнам песенныя радкі:

*...Запытайся у родных нябёс,*
*у анёлаў, што спяць на аблоках,*
*беларускі хто выплакаў лёс,*
*хто пражыў і памёр так высока...*

*Многа ці мала дзён мінавала,*
*гаснуць Знічы на вадзе.*
*Янка Купала, Янка Купала,*
*Янка Купала ідзе!..*
(«Янка Купала», 1997)

Вось так, на хвалі эмацыйнага ўздыму пачыналася знаёмства з кнігай «Святая ноч». Няпростым было і далейшае чытанне. Але ўжо па іншых, так

бы мовіць, эзатэрычных прычынах. Найпершая — магутная ўнутраная энергетыка вершаваных радкоў, з асабістай інтэрпрэтацыяй навакольнага свету, са сваёй псіха-духоўнай трактоўкай рэчаіснасці. Адсюль — тонкі лірызм, пачуццёвая глыбіня вершаваных твораў паэта. Справа ў тым, што для большасці з іх не вельмі стасуюцца такія звыклыя паняткі, як вершаскладанне, «гарбенне» над радком, прыналежнасць да нейкай усталяванай рытмічнай сістэмы... «Я хацеў бы пісаць, як жыву», — прызнаецца паэт у адным са сваіх вершаў. Такімі радкамі не раскідваюцца, яны пішуцца не дзеля паэтычнай бравады ці прыгожага слоўца. Эдуард Акулін насамрэч піша так, як жыве, як думае, як адчувае. Ці, лепей сказаць, не столькі піша, колькі жывапісуе, не выдушвае, а выдыхае з сябе вершы. Гэта значыць — слова*творыць*. Словатворыць натхнёна, узнёсла, згодна са сваім унутраным «Я», па сваім вобразе і падабенстве. Для Акуліна-лірыка сэнс паэзіі той жа, што і сэнс жыцця, а кожны новы твор — момант ісціны. Адсюль — яго такія нечакана-смелыя, арыгінальныя азначэнні паэтычнага слова, як: *«Паэзія — луста хлеба... Паэзія — вена вербы... Паэзія — келіх неба»*. Гэта радкі з верша, у якім паэт абагаўляе Паэзію і абяцае маліцца на яе...

Пра паэзію, як пра з'яву адначасна экзістэнцыйную і духоўную, пра прызначэнне прыгожага пісьменства Эдуард Акулін гаворыць у шмат якіх вершах, у тым ліку, — і ў творах, прысвечаных Максіму Багдановічу, сваім су-

часнікам-сябрам, творчым пабрацімам. І што характэрна, міжволі адзначаеш: гэтая тэма неаддзельная ў яго ад тэмы Радзімы, мае, так бы мовіць, патрыятычнае вымярэнне. Маленне за Паэзію гучыць суладна з маленнем за родны край. Не выпадкова ж кніга адкрываецца праграмным вершам, з якога васямнаццацігадовы паэт пачынаў свой шлях у літаратуру, а праз яе і свой шлях да Беларусі:

*Помні гэтыя словы:*
*Радзіма,*
*Народ,*
*Мова!*
*Як ісціну помні адзіную:*
*Мова,*
*Народ,*
*Радзіма!*
*Помні, як запавет —*
*спасцігнуць яе аднойчы*
*з'явіўся і ты на свет.*
(«Мая ісціна», 1981)

Паэту не ўласціва пустая дыдактычная траскатня, сваю «ісціну» ён адрасуе найперш самому сабе і, што вельмі важна, застаецца верным ёй і ў творчасці, і ў жыцці. Адсюль — ягоны чарговы зварот да біблейскай формы вершавання. Вось яшчэ адзін ягоны малітваслоў:

*Божа літасны, трыадзіны,*
*Ты літанне маё — пачуй.*

*Не пакінь у бядзе радзімы —*
*Уратуй.*

*Уратуй мой народ пакутны,*
*Зберажы ад ліхога край,*
*пасяліцца ў душы Іудзе*
*мне і сыну майму — не дай...*

*Барані ад спакусы грэшных,*
*Абміні сваёй карай злых...*
*Божа праведны — хай бязмежнай*
*будзе ласка ад слоў тваіх.*
(«Малітва», 1993)

З малітоўнай пранікнёнасцю і ўзнёслым нацыянальна-патрыятычным пафасам гучаць, у той альбо іншай танальнасці, шмат якія творы з кнігі «Святая ноч», у прыватнасці: «Беларусь», «Месячнай цёплай ноччу...», «Паэт», «Патрэбны», «Мова», «Балада пра Краіну-мару» і інш. Лірычнае «Я» Эдуарда Акуліна, зазначу яшчэ раз, непарыўна звязана з яго глыбока ўсвядомленым пачуццём любові да роднай зямлі, сыноўскай трывогай за лёс Маці-Радзімы. І гэтая якасць паэзіі родніць яго з Максімам Багдановічам. Эдуард Акулін, як і Максім Багдановіч, глядзіць на свой «забраны край» з вышыні палёту Страціма-Лебедзя і завоблачнай высі гучання беларускай песні.

Не магу, у гэтым кантэксце, не звярнуць увагу на раздзел кнігі пад назвай «Радно». Так, так, паважаны чытач. Ты не памыліўся. У свой вы-

браны том паэзіі Эдуард Акулін вырашыў уключыць вершаваны зборнік «Радно». І гэта цалкам апраўданае рашэнне аўтара. Бо ў 2000 годзе ўвесь наклад «Радна» (цудам ацалела толькі 10 паасобнікаў) быў знішчаны ў выдавецтве «Полібіг». Як трапна напісаў пра гэту трагічную падзею ў творчым лёсе Эдуарда Акуліна ягоны сябра Міхась Скобла: «Кнігу кінулі на гільяцціну, пад сляпыя вострыя нажы»... Дык вось, у гэтай выдатнай кнізе змяшчаецца вершаваны цыкл «Памяць дзяцінства майго», у прыватнасці такія, прысвечаныя вясковаму побыту, творы, як: «Іскрыпка», «Журавель», «Човен», «Пачына», «Дзябла», «Нерат», «Загнет», «Услон», «Страха», «Гужы» і інш. Уражвае жывая экспрэсія і «матыльковая» лёгкасць іх гучання, (якая сама па сабе і ёсць адзнакай паэтычнага майстэрства) з якімі аўтар паказвае тут рэальную, прадметную, увасобленую ў канкрэтныя рэчы Беларусь... Як у наступным вершы са згаданага цыкла:

**Пачына**

*Плыткі човен з ракой лучыла.*
*Мазалямі смылела ў снах...*
*Падпаветны прамень — Пачына,*
*недасяжна-віровы страх.*
*Ты — драўляны плыўнік для лодкі.*
*Ты — крыло для маёй душы...*
*Пах аеравы, дух салодкі,*
*вадамер залатых вышынь.*
*Стан твой тонкі — амаль дзявочы.*
*Строй твой — ясеневы, густы.*

*Помніш поўню купальскай ночы,*
*што разбіла на яскі ты?*
*Не вяслом, а пачынай лёгкай*
*праўлю човен свайго жыцця...*
*Ці уздых, ці узмах высокі—*
*прага новага — адкрыцця!*

Адной з галоўных тэмаў у кнізе «Святая ноч», асабліва ў творах са зборніка «Непрычалены човен», з'яўляецца тэма Слова. Як вырашае яе аўтар? Для якога:

*Слова — мой шлях да Бога.*
*Слова — мая дарога.*
*Слова — мой крыж у жыццёвы...*
*Бог уваскрэс у Слове.*

Мова — душа народа. Слова — сэрца мовы. У сэрцы мовы жыве лірычны герой Эдуарда Акуліна. Праўда, ён можа сказаць, што яно, Слова, не толькі для малітвы, не толькі для песні, а і для крыўды, для абурэння... І будзе мець рацыю. Я маю на ўвазе вершы, прасякнутыя выкрывальным грамадзянскім пафасам, абвостраным пачуццём болю за родную Беларусь. Гэта такія творы, як «Максім, не вяртайся...», «Кроў Хрыста», «Балада сустрэчы з Купалам»... З такімі балюча-роспачнымі радкамі:

*...Воч не стала ў Купалы,*
*Ці не хоча глядзець*
*на нашчадкаў-вандалаў,*
*тых, хто сёння ідзе...*

*Бо няма Беларусаў —*
*колькі іх не шукай,*
*тых, хто пойдзе хаўрусам*
*бараніць родны Край*

*ад ганебнага змусу,*
*ад чужога ярма.*
*Нас няма, беларусы!*
*Не было і няма!..*

— Сапраўды няма? — пытаемся мы ў аўтара. — Сапраўды мы — *«народ аблудны — сваёй радзімай не ганарымся?», «На храмах нашых маўчаць званіцы, нямая веры — як нам маліцца?»* Сапраўды так? — пытаемся мы. — Як жа тады нам быць? Як нам увогуле жыць, калі нас няма?.. Адказ знаходзім у заключных радках «Балады пра Краіну-мару»:

*...Мы, беларусы, сваёй крывёю*
*Сабе здабудзем Краіну-мару.*
*Краіну-мару, дзе мы ўваскрэснем —*
*Як сонца з хмары, як мова — з песні.*
*Краіну-мару сабе здабудзем*
*Мы, Беларусы.*
*Мы — ёсць! Мы — будзем!*

Што паэт толькі гіпербалізуе ў першым і другім выпадку, ці, можа, супярэчыць сам сабе, не мае пэўнай пазіцыі?

Не, рэч у іншым. У тым, што яго духоўна-эстэтычнае і маральнае крэда вызначаюць, па вя-

лікім рахунку, гэтыя вось святыя, Боскія цноты: Вера, Надзея і Любоў. Музычны крытык Анатоль Мяльгуй у адной са сваіх публікацый назваў Эдуарда Акуліна «крывіцкім Арфеем» — «Песняром Залатой Крывіі». Гэтыя параўнанні можна дапоўніць. Эдуард Акулін яшчэ й — Пясняр жаночага Хараства, Пясняр Кахання, Пясняр адвечнай Красы...

Ці не палова з усяго, што напісаў Эдуард Акулін, гэта вершы пра каханне. Не магу ўстрымацца, каб не працытаваць хоць адзін з іх:

**Два пярсцёнкі і завушніцы**

*Мне сягоння зусім не спіцца...*
*Сэрца поўнае яснаты.*
*Два пярсцёнкі і завушніцы —*
*гэта ўсё ў чым адзета ты.*

*Пазірае раўніва поўня.*
*Вецер шыбу крануў рукой.*
*Хоча ён да твайго улоння*
*прытуліцца хаця б шчакой...*

*Бессаромна глядзіш мне ў вочы*
*прамайляючы з хрыпліцой:*
*— Ты мяне распранаць не хочаш,*
*давядзецца ізноў самой...*

*Вось такой мне і будзеш сніцца,*
*як збяруцца у гай гады.*
*Два пярсцёнкі і завушніцы —*
*гэта ўсё ў чым адзета ты...*

У паэзіі Эдуарда Акуліна гарманічна сумяшчаюцца, дапаўняючы адно адное, зямное і нябёснае, асабістае і грамадскае, рацыянальнае і пачуццёвае... Бо Слова для яго — паэта, барда і грамадскага дзеяча — нішто іншае, як Малітва. Нездарма ж заключны раздзел кнігі з бліскучымі перакладамі украінскіх, літоўскіх, балгарскіх, славенскіх, македонскіх і польскіх творцаў Эдуард Акулін заканчвае вершам польскага паэта Яцэка Любарта Кшысіцы:

**Слова**

*Не прарасце пустое слова*
*чым не паліць — слязой ці потам,*
*не столькі жарсці ў нашай мове —*
*каб адкладаць жыццё на потым!*

*Мы не аратары, не барды,*
*нас вера не вядзе на бітву...*
*Ды выпадае часам карта —*
*і слова робіцца Малітвай...*

Малітвай — да Бога. Малітвай — да Сонца. Малітвай — да Беларусі.

Лістапад 2012 г. **Анатоль Вярцінскі**

# Лес дзённага асвятлення...

Помні гэтыя словы:
Радзіма,
Народ,
Мова!



## Мая ісціна

Помні гэтыя словы:
Радзіма,
Народ,
Мова!
Як ісціну помні адзінаю:
Мова,
Народ,
Радзіма!
Помні, як запавет —
спасцігнуць яе аднойчы
з'явіўся і ты на свет.

***

Пасталенне — тое ж прыцягненне
да сяброў, да справы, да зямлі.
Сталасць дрэва бачна па камлі,
чалавека сталасць — па сумленні.

Пасталенне — тое ж прыцягненне,
мо таму бывае час, калі
позірк наш ад хісткіх летуценняў
мы звяртаем да сваёй зямлі.

## Беларусь

З крыніцаў тваіх вадзіцай
ніколі не наталіцца.
Губляцца ў тваіх імшарах, —
згубіцца, —
пра літасць марыць.
Усе,
хто душой парожні,
перад табою вінны...

Бусел, распнуты над пожняй, —
гаючыя успаміны.

## Арган

Ўрачысты страх перад прыгожым.
Калі Ты ёсць? Памілуй, Божа!
Дай сілы слухаць, дыхаць, жыць...
Гарачы воск слязой дрыжыць
і капае на складзеныя рукі,
што марна мкнуцца вызваліць уздых...

Бездапаможна разбіюцца гукі
аб фрэскавыя позіркі святых.

***

Ёсць памяць генаў, памяць роду —
у нашых душах дзівасілам
жыве з пары, калі прырода
нас гэтым дарам надзяліла.

І я адчуў сягоння крэўна
сябе лістком на кроне дрэва.
Хоць голле аж трымціць ад ветру,
ды страх малы — карэнне ў нетрах.

А прыйдзе восень — лісцік згіне,
ды не засохне роду дрэва...
Як колісь ува мне — у сыне
вясной прачнецца памяць генаў!

***

Я вольны адвеку
на слова і звычай,
бо родам з Радзімы,
мой прадзед — радзіміч...

Як бераг над Сожам
акрые туман,
прабрацца мы зможам
у стан зарачан.

Чужацкія воі
не ўсе з палахліўцаў,
ды кінулі вокліч:
«Прынёс чорт радзімцаў!»

Я вольны адвеку
на слова і звычай,
бо родам з радзімы,
мой прадзед — радзіміч!

## Мірскі замак

Рэтра-стыль сягоння ў модзе.
Да муроў тваіх штодзень
паасобку, групай ходзяць,
каб пакратаць, паглядзець.

Пастаянна пад прыцэлам,
толькі ўжо не жэрлаў дымных,
ты пазіруеш нясмела
бессаромным аб'ектывам.

У турысцкай акупацыі
на стагоддзяў рубяжы
камень просіць рэстаўрацыі,
каб не знік агонь душы.

## Памяці Уладзіміра Караткевіча

**1**

Караткевіч — кароткі век,
накановаsuccessful жорсткім лёсам.
Мора поўніцца болем рэк.
Трансфармуецца гора ў слёзы.

Караткевіч — бясконцы век.
Чорны ветах павіс над краем...
А па венах ускрытых рэк
ценем лёгкім — ладдзя Адчаю.

**2**

Цяжкі пошчак імшары поўніць,
ды злавесна праміж аблокаў
загарэлася раптам поўня,
нібы зрэнка ў дрыкганта воку.

Гэта памяці нашай спраты
хтось нарэшце разрынуць здужаў.
Цяжкі пошчак. Спяваюць латы.
Паляванне на нашы душы!..

## На кургане Адама Міцкевіча

Дзівосны свет лясоў і гоняў
перад вачыма разамкнуўся.
Чытаў паляк: «О, Літва моя!»
Шапталі вусны: «Беларусь...»

## Дзесяцікласніца

Шторанак у школу спяшаецца,
са страхам глядзіць на гадзіннік.
Ёй сонца прыветна ўсміхаецца —
ужо не дзяўчынцы, яшчэ не жанчыне.

Чакае, бы свята, змяркання,
дакучліва лічыць хвіліны.
Прызначана сёння спатканне —
ужо не дзяўчынцы, яшчэ не жанчыне.

Дадому прыходзіць пад ранне,
не стрэціцца б з маці вачыма...
І месяц вісіць, як пытальнік, —
ужо не дзяўчынка, яшчэ не жанчына?

## Скрыпач

Бліснуў у руцэ рашуча смык.
Скрыпка захлынулася ад болю.
Раздзірае слых нясцерпны крык
жорава, што рвецца з рук на волю.

## Вуж

З лаўжа — астыглага цяпельца —
ледзь сонца весняе прыпаліць,
шурпаты вуж паўзе паграэцца
на цёплую чарэнь асфальту.

Нібыта кабелю кавалак
манцёру выпала згубіць...
У кола скруціцца памалу
і ціхамарна, мірна спіць.

Я сёння сон яго парушу,
бо зварухнулася ў душы:
як ні салодка спіцца вужу —
машыны ходзяць па шашы.

***

Зноў выходзіць поўня перыць
Млечны Шлях у зорных ночвах.
Хто сказаў, што ў Беларусі
не бывае белых ночаў?

Нам карой бярозка свеціць,
паказаць сцяжынку хоча.
Хто сказаў, што ў Беларусі
не бывае белых ночаў?

Як агеньчык на дасвецці
ззяюць бляскам твае вочы.
Хто сказаў, што ў Беларусі
не бывае белых ночаў?

***

У плойме дзён пустых і безаблічных,
у мітуслівым хаосе падзей
усё часцей становіцца прывычным:
не згадваць пра адданых нам людзей.

Усё часцей нас будзяць тэлеграмы,
якія немагчыма дачытаць...
Тады, калі не стане болей мамы,
яе нам пачынае неставаць.

## Месяц

Неба з глыбі высвечвае
зорак пяском іскрыстым.
Сіняю гладдзю вечара
месяц плыве празрысты.

Стомленым працай, сонным,
ён нагадае нам
асколак, забыты сонцам,
з пражытага сёння дня.

## Дзень

Па нябёс веснавым разліве,
дзе вясло па макушку тоне,
нетаропка дзядок Ярыла
залачоны свой човен гоніць.

Стане вечара бераг блізка,
човен знікне ў трысці аблокаў,
прамянямі апошніх пырскаў
асвятляючы ўсё навокал.

## Жыццё

Станіўся з гадамі Сож
рукацца з вясковым млынам.
А час, хоць яго трыкож,
імкне за ракой няўпынна.

Бабуліна слова «нёж»
з дзяцінства плыве паромам...
Мялее паволі Сож.
Глыбее туга па дому.

## Вечнасць

Прымаючы ад сумных дрэў адзенне,
прыдзвернік-вецер зразумець не ў стане,
што волкі ліст за хвілю да падзення
задумаўся аб сэнсе існавання.

## На могілках

Маркота у цішы
застыла камянямі...
Чыесьці дзве душы
віліся матылямі.

## Ліпень

Калі яшчэ спяць пад павеццю косы,
і ў вокнах, як кажа бабуля «зерае»,
ужо бярозка нагою босай
нясмела пойму туману мерае.

Няма найбольшай асалоды,
як перабрысці луг папашкі,
дзе крок у кветках — густы і цяжкі,
і кожны след твой, як студня з мёдам..

## Восень

Апалых лісцяў пах.
Туманныя світанкі.
Гугнявы дождж у дах
бубніць без перастанку:

што змоўкнуў птушак спеў,
што лета ў копы склалі...
Пажары ў кронах дрэў
пажарнікі праспалі.

## Зімовая асацыяцыя

На полюсе сцюжным,
такім далёкім,
пінгвін на льдзіне
паправіў смокінг.

## Начное возера

Акрэсленасць цёмных ліній.
Завершанасць белых лілій.
Срэбнае зерне поўні
лебедзям не здзяўбаць...
У пяшчоце абвіўшы шыі,
яны спяць.

## Шкельцы ў вітраж *«Каханне»*

*

Над змялелаю ракою
млела поўня кожны вечар, —
я разгубленай рукою
з кос тваіх выблытваў вецер.

*

Адна, зусім маленькая падушка,
ды на дваіх якраз хапіла...
Ты заўсёды марыла стаць птушкай,
спі, і хай табе прысняцца крылы.

*

Знікала ты адна — у ноч,
і я прамоўчаў наўздагон.
А дождж ішоў,
і горад плакаў
усімі праймамі вакон.

*

Наўзбоч тваіх сненняў знічкай
я мільгануў і знікнуў.
О, як жахліва звыкнуць —
не бачыць твайго аблічча.

***

Чамусьці сягоння ізноў
мінулае ярка ўзгадалася:
спатканне, палёт кажаноў,
якіх ты да смерці баялася...

Калі гэта толькі было?
Здаецца, пара ўжо забыцца,
ды свеціць кажан мне крылом
у снах, што плывуць Мілавіцай.

## Знаёмай танцоўшчыцы

Самыя прыгожыя на свеце
рухі ўсе прыручаны табою.
Самая прыгожая ў балеце,
самая ласкавая са мною.

Калі сціхнуць выбухі авацый,
калі лівень кветак ападзе,
як мне трэба ў вочы паглядзець,
стомленыя поспехам і працай.

***

За міг, кароткі, як і ўсе,
мы пераўжыць здалелі вечнасць.
Твой позірк у траве расеў,
і дрэвы падалі ў сінечу.

З гадамі смутак адтае,
а узыду на ўзмежак лета —
ізноў ляцяць у сны мае
бяроз зялёныя каметы...

## Гістарычны эцюд

Ад раптоўнага руху рук,
нібы чмель у вялізнай кветцы,
зварухнуўся у звоне гук
і на волю штосілы рвецца.

А званар не шкадуе рук,
аж званіцы сцябло трасецца...
І злуе, і не хоча гук
заставацца у меднай кветцы.

Вось чужынец ускінуў лук,
на стралу нанізаўшы сэрца...
Ды гудзе, не змаўкае гук,
і ад страху дрыжаць няверцы.

## Акраверш

Ніколі восень не шкадуе
Асін задзірыстых прычоскі,
Таму што лета адгалоскі
Асіны ў шатах захавалі...
Шумяць лістоў апалых хвалі,
Асуджана па іх іду я.

## Меліярацыя

Птушкі колеру Радзімы,
з толькі ім уласцівай грацыяй,
праплылі роднай вёскі міма —
эміграцыя.

# Пяшчота ліўня...

Прыземістыя коні
іржцуь пад седакамі,
трапеча сцяг з «Пагоняй»
над Вітаўта палкамі...



***

А буслы белы гонар маюць...
У гняздо не кладзіце хлеба.
Птушкі гэтыя не паміраюць.
Іх сабе забірае неба.

На змярканні над роснай пожняй
высакосны свой круг азначаць.
І найменне яму — апошні,
і ніхто болей іх не ўбачыць.

***

Жыццё паходкай грандыёзнай
аднойчы перагоніць нас
І знікнуць — быццам бы не час.
І існаванне — невыносна.

Нам застанецца толькі марыць,
замольваць даўнія грахі...
А скульптар-час кладзе на твары
як дзень — дык новыя штрыхі.

## Перад Грунвальдскай бітвай

Прыземістыя коні
іржуць пад седакамі.
Трапеча сцяг з «Пагоняй»
над Вітаўта палкамі.

Яшчэ забралы ўзняты
і меч не затупелы...
Патрапіць праміж латаў
яшчэ не мецяць стрэлы.

А ў сонечным бязмежжы
лунае горда бусел,
як сімвал незалежнай,
свабоднай Белай Русі.

## Нясвіжскі замак

Дах, як бок старога язя,
да абеду, што на стол,
падавалі слугі князю —
шмат азёраў навакол.
На валах — турысты валам.
Вежаў гожых незалежнасць.
Пагражаючы скандалам,
беларусу госць з Літвы
штосьці крычыць пра прыналежнасць...
Параслі быллём равы.
З цыгарэтаў модны пачак
хтось на мосце загубіў.
Радзівіла здзівіла б, пабачыў каб:
— Чаму не палююць на качак?
Развялося што тых жаб!

## Мір

Мірскі замак—
замок дарог.
Праз стагоддзі сябе збярог.
Шмат за век свой чаго пачулі
ваяўнічыя машыкулі.
Зацярушваліся байніцы
камянямі —
траплялі кулі...
Час — няўмольны.
Ён нявечыць, разбурае, паліць,
лечыць.
Замак Мірскі, ты, як нацыя,
трапіў у рэанімацыю.

## Ішкалдзь

Спічастыя дзверы.
Спічастыя словы.
Спічастага даху
палёт адмысловы.

Увысь, дзе яснеецца
неба палоска,
над хмурым імшарам,
над сцішанай вёскай.

Уровень з пакрова-на-нерльскім імпэтам
касцёл беларускі лунае над светам.

## Памяці музыканта

*Раяль цалуе тонкая рука...*
М. Багдановіч

Гукі таней, чым пальцы,
што пацалункі клалі
на чуйныя вусны клавіш
стомленага раяля
колеру развітання.

У кожным руху ззяла грацыя.
Пустая зала сніць авацыі.

## Сляпы

Тонкі бліскучы скальпель
стаў першым промнем свету,
якога ён не бачыў...
Зашклёны позірк.
Ноч бясконца.
Павек фіранкі
плавіць сонца.

## Ронда

Калі сячэ — маўчыць сякера,
ды не засне да ранку кат.
Самотных душ бясконцы верад
вяртае грэшніка назад.
Дзе аксамітныя прыступкі
яго вядуць на эшафот.
Там смерці юнай прастытуткі,
якой ці ёсць шаснаццаць год,
чакае моўчкі—хутка суткі—
Народ.
Там у парваных апранахах,
хоць на калюжах першы лёд,
дзяўчо зялёнае на плаху
ўзыходзіць, тоячы жывот...
І туліць голавы ад страху —
Народ.

## Дзяцінства

Там рукі пахнуць верасам.
Там птушкам сніцца вырай.
Там белагруды верасень
з усмешкай самай шчырай.

Прырода, як натуршчыца,
прыгожая і голая...
І я букет настуркавы
нясу шчаслівы ў школу.

## Экспромт

Неба маланкай расшпілена.
Спалі
з тонкіх шыяў шпіляў
птушыныя каралі.
Поруч мне, поруч мне,
мне поруч —
поручні, поручні, поручні.
Паспець ці?
Мост за руку праз раку
перавесці.
Родны як, родны як,
як родны
зараз я з прыродай.
Моцна так, моцна так,
так моцна —
дождж — у дах,
у грудзі — сэрца...
Горад труб вадасцёчных горлам,
здаецца, вось-вось захлынецца.

## Вячэрні эцюд

Мёрзкае, халоднае акно.
Церпкае гарачае віно.
Келіх у руках гарыць,
падобна неонавай трубцы.
Кельнер-пінгвін
з разлікам марудзіць —
красуецца.
У шаліках, як самазагубцы,
спяшаюцца людзі па вуліцы.

## Фігурнае катанне

Бы цырульнікі-віртуозы,
стадыёну голяць твар
фігурысты грацыёзна
паасобку і па парах.
Лёду сінь.
Куды ні кінь
пагляд —
канькі, канькі, канькі.
Нібы крылы анёлаў
выдаў бог у арэнду...
Ног маланкі.
Гром апладысментаў.

## Тэатр

Пакуль касірка спаганяла
за прыгажосць скупую рэнту,
пустая зала прыгадала
злавесны смех апладысментаў.

## Захад

Туды не патрэбна візы.
Там лётае бусел нізам.
Пад хмарным крылом абвіслым,
там на абгарэлых выспах
дзядоўнік праменняў высах.
І сонца патылак лысы
у зорны хавае прысак.

## Шкельцы ў вітраж *«Поры года»*

**З і м а**
Дзесьці граюць на белым раялі,
і ніводнай фальшывай ноты...
Пакінутыя з лета граблі
псуюць экстэр'ер сумёта.

**В я с н а**
Мароз пад вечар раскідаў
цяпельца дзённага галоўні.
Бязгучна клён лямантаваў
іртом разяўленым шпакоўні

**Л е т а**
Улагодзіў ліпень ліпу
падарункам сціплым —
завушніцы цэлы дзень
чмель чапляў асіплы.

**В о с е н ь**
У сінія асінамі гаі
вогненная конніца ўляцела...
Павуціння звесіўшы сцягі,
лета адыходзіць не хацела.

***

Нехта ў зорным садзе
ноччу збівае дзічкі...
Грушка ў Сусвет упадзе.
Скажуць — згарэла знічка.

## Дуб

Стаяў як гіганцкі молат.
Кавадлам ляжала поле.
Здавалася: гэткі волат —
зваліць чалавек не здольны.

Як падаў — ніводнай хмары
на небе ў той бок не стала.
Калі па зямлі ударыў —
ад болю зямля стагнала.

А я пра дуброву марыў,
пра клёкат буслоў наўкола...
Зялёнай слязой па твары
скаціўся няспелы жолуд.

## Лісічкі

Іх цяжка прыкмеціць,
тым больш з непрывычкі.
Пад хлудам з налецця
вандруюць лісічкі.

У лісці жаўтлявым,
бы зыркія знічкі,
мігцяць і знікаюць
хітрушкі лісічкі.

## Чэрвень

Ледзь сонечны промень слізгнуць
паспеў па астылым ганку,
туманы, нібы бялізну,
развесіў сушыцца Ранак.

Завостраны позірк косаў
зарэчны лужок абраў,
дзе белае срэбра росаў
апраўлена ў зелень траў.

## Навальніца

Нібы перад выцвярэзнікам
вецер прайшоў бярэзнікам...
Ластаўка вейкам мулкім
трапіла ў вока хаце —
праслязіла.
Гулка ў садзе
яблыкам не вісіцца.
Як у траву каса —
першая бліскавіца.
Чык-чырык-чык-чык-чык-чык —
пад страху ад страху —
верабейчык.
Па рацэ,
вяслу,
шчацэ —
дожджык колкі.
Сонца тчэ
у мільён нітоў вясёлку.
Бессаромна пузам голым
бліснуў човен —
чым не дах нам?..
Свечкамі ў пустым касцёле
дзьмухаўцы вакол ачахлі.

## Актава

Калі адшугае зялёны пажар
у кронах бярозаў, асін і акацый,
калі з павуціння павыткуцца хмары
і выйдзе настаўнік нарэшце на працу,
тады лістабой аглушае папар
раскацістай хваляй асенніх авацый...

Закончаны лета гастрольны сезон.
З шуфляды пара даставаць парасон.

## Акварэль

Руды сітнік. Сіні глей.
Сонца, нібы язь паджары.
Зелень раскі. Бель лілей.
Блякла-шэры колер хмары.

Восень, нібы лагапед,
вымаўленню вучыць ветра...
Топчуць лісцяў жоўты плед
качкі у чырвоных гетрах.

***

Я ў юнацтве ныраў — ого!
Кожны вір, бы кішэня, змераны...
Ды заўжды, Беларусь, твайго
не губляў з відавоку берага.

І тапіўся, не раз было.
Толькі сэрцам, нібыта пеленгам,
я лавіў, Беларусь, твайго
каардынаты святога берага.

Адалею хоць сто валоў,
пазайздросціўшы лёсу Берынга,
ды не зблытаю век твайго
з чужаземным, Радзіма, берага.

***

Ад паўтарэнняў, Божа, збаў нас!
Калі ўжо суджана адбыцца,
нібы сапёру памыліцца,—
паэту паўтарыцца раз.

Як лісцік кожны па галіне
ці слова кожнае санета,
не паўтарыцца ты павінен,
бо непаўторныя паэты!

## Згадка аб дзяцінстве

Ля кабетаў, скупых на слова,
часам тым, што бліжэй да вечара,
пахнуць рукі дзятвы вясковай
горкім дымам і бульбай печанай.

Дзень на полі амаль бясконцы.
Ад бабуль і матуль крыёма
паглядаем з мальбой на сонца:
сядзе — можна ісці дадому.

Там у засені саду ветлай,
на імгненне стаіўшы дух,
б'юцца вобзем наўспрах ранеты,
замыкаючы дзённы круг.

## Пяшчота ліўня

На зямлі двое нас шчаслівых,
бо ніводнай душы наўкола...
Нас кранула пяшчота ліўня
таямнічым крылом анёла.

Называеш мяне ты — мілым.
Я цалую твае павекі.
Нас кранула пяшчота ліўня
з гэтай летняй начы навекі.

Час ішоў, ці у ім плылі мы —
не згадаецца нават потым.
Толькі будзе — удзячнасць ліўню
за бясконцасць яго пяшчоты.

## Гомель

Там, дзе хваля цалуе водмель
і аеру па пахі тоні,
бурлакі пракрычалі: «Го-мель!»
так, што рэха чуваць і сёння.

Вецер рэха па хвалях гоніць,
яно ў грудзі прычалаў б'ецца.
Чайка згубіць на лёце: «Го-мель»,
і адчайна той крык сарвецца.

Там, дзе хваля цалуе водмель
і палац на пагорку гожы,
усміхаецца сумна Гомель
людзям, чайцы, сівому Сожу.

***

Раскладу пад вечар
у двары касцёр.
З думаю аб вечным
дым плыве да зор.

Яскі залацяцца,
мкнуць у высі смела.
А камусь прыдасца —
знічка праляцела.

Прасяджу ўвесь вечар,
покуль хопіць дроў...
Колькі у Сусвеце
гэтакіх кастроў!

***

Празрыстая далеч.
Сутонлівы шлях.
Адвечныя мары.
Прытоены страх.

Куды мы? Куды мы?
Куды мы пасля?
За марай, за дымам
ці будзе працяг?

Празрыстая далеч.
Сутонлівы шлях...
О колькі пытала!
Адказу няма.

## Пагост

Мы жывыя.
Ходзім,
глядзім,
гаворым...
Хтось стаміўся —
прысеў
на чужое гора.

***

Агонь учэпістай рукою
палена загрудкі схапіў:
і паплылі ўслед за ракою
слядоў пунсовых языкі.

І ноч пусцілася наўцёкі,
і блізкай явай стаўся сон.
І хваляй пачуцця высокай
два сэрцы біліся ўнісон.

Быў сведкам толькі Усявышні,
мільёнам воч міргаўшы ледзь.
Агонь зрабіўся трэцім лішнім
і ўжо саромеўся гарэць...

## Трыялет

Каб толькі бачыць Вашы вочы,
Каб толькі Вас адну любіць.
Гатоў ахвяраю я быць,
Каб толькі бачыць Вашы вочы.
Каб толькі іх бяздонне піць,
Я прачынаюся штоночы.
Каб толькі бачыць Вашы вочы,
Каб толькі Вас адну любіць...

## Тэрцыны

Каб я аднойчы не спаткаў Вас,
ці так бы прагнуў зараз жыць...
Ці так бы іншую кахаў я?..
У беззвароцце час бяжыць.
Што марна варушыць былое
і над нішчымным варажыць...
Магло б ці здарыцца такое?
Ці меў бы шчасце кожны з нас,
калі б асенняю парою
аднойчы не спаткаў я Вас?

## Вечар

Столік на дзве персоны.
Позірк бы два цвікі.
Плывуць па руках гарсонаў
разносы, як чаўнакі.

На Вашым плячы лілея
белая, нібы вальс...
Чахол парасона — змеем,
які не спакусіў нас.

***

Тухнуць доўга адгалоскам
тваіх крокаў у вушах.
Аплыве, бы свечка воскам,
успамінамі душа.

Колькі будзе розных сцежак,
покуль знойдзем шлях адзіны.
Сонца мне — мільён усмешак.
Дождж — мільён тваіх слязінак.

## Жонцы

Усе нашы звадкі-спрэчкі
сплывуць, як з вадой снягі.
Не ў полымі цьмяным свечкі,
каханне — ў святле вяргінь.

Каханне — пакуль мы разам.
Каханне — дакуль жывём.
Не дзеля высокай фразы,
каб сын меў бацькоўскі дом.

Ты звадкі усе і спрэчкі
забудзь, а ў душы пакінь —
не цьмяны пялёстак свечкі,
а светлы букет вяргінь.

***

— Ад чаго ты самотны, бусел,
у гняздзе над знямелай вёскай?
— Я сумую па Белай Русі,
дачарнобыльскай, чыстаросай.

— Ад чаго пачарнеў ты, бусел,
у палескім бары атрутным?
— Ад жалобы па Белай Русі,
зганьбаванай і шматпакутнай.

— Ад чаго пасівеў ты, бусел,
і чаму не ляціш у вырай?
— Лепш памерці на Белай Русі,
чым чужыну назваць Радзімай.

## Інсульт

Зажураны позірк рання...
Адчайная выжыць спроба.
Жахлівае супрацьстаянне
розуму і хваробы.

Ад могілак крук налётам
на даху свой цень пакінуў.
Па венах калючым дротам
паўзе ад шпрыца вакцына.

Ды рэчкі нябачнай плёскат
усхліпам гучыць жаночым...
І човен пусты за вёскай
насупраць апошняй ночы.

## Шлях да Радзімы

(Акрапаэма)

*Светлай памяці*
*Максіма Багдановіча*

### I

Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі,
Задоўга да народзінаў падання,
Народ, каб выжыць, не спыняў бадзяння, —
Гады наўслед барханамі плылі.
У іх пясках расталі міражамі
Усе, хто да ідэі не дарос,
Хто наракаць прывык на лёс —
Паўсталі ля аазісаў крыжамі...
І толькі смелыя не запынялі рух,
Таму што вера ім гаіла Дух.
Праз сотні год пакутаў і блукання
ім давялося ісціну спазнаць —
Род немагчыма вынішчыць дазвання,
Што мову продкаў здолеў захаваць.

### II

Над хвалямі сінеючага Ніла
Мая душа пакутвала ў суцьмені.
Змяніліся кагорты пакаленняў,
А веліч пірамідаў зноў дзівіла,

І мімаволі думкі варушыла
Аб людзях тых, што гэтае стварылі.
Даўно на плітах іх сляды астылі,
І пыл стагоддзяў іх зацерушыў.
Маўкліва сфінкс задумаўся аб нечым...
У зрэнках скамянелых дрэмле вечнасць.
Краса і сіла злітыя ў адно?..
Прыступкі для раптоўнага знікнення?..
Таго ў вачах нашчадкаў не відно,
Хто перад лёсам кленчыў на каленях.

**III**

Ўжо колькі тысяч год стаіць магіла,
Там, дзе калісьці працвітаў народ,
Што вечнасці раку хацеў уброд
Пераадолець — сілы не хапіла.
Ён бедным быў на дабрыню,
Каханне, літасць, гнеў і ласку,
Затое моцна верыў казцы
Пра ідэалаў вышыню....
І памяць загубіў ён, нібы звер.
Што з тым народам сталася цяпер?
Галіны адракліся каранёў,
Наіўна парадніўшыся з лістотай...
Гнеў боскі — д'яблавы праклён,
Не пакарай сляпы народ мой!

**IV**

Ў гаршку насення жменю там знайшлі
Два гурганы, і бойка пачалася...
І ў час той кожны з іх здаваўся
Сабе гаспадаром тае зямлі.
Вось глюга трэснула ў аднога,
З другога пер'е абляцела.
Яны ж мірыцца не хацелі,
Нат кіпцюры рвучы з жывога.
Хто першы выйграе двубой —
Той для гісторыі — герой.
А зерне што — яно стаяла
На паўдарозе да раллі...
А навакол вясна буяла,
Зачаццем мроілі палі.

**V**

Хоць зернейкі засохшымі былі,
На першы погляд скамянелі,
Ды душы праведныя мелі,
І сэрцы поўныя любві.
Братазабойства не хацелі,
Сябе дазволілі дзяліць.
Каб бой смяротны супыніць,
У нівы розныя ляцелі...
Там прараслі для другіх,
Кармілі, радавалі іх.

А Край радзімы стаў пустэчай,
А Край у роспачы канаў,
Ды не прыняў акцэнту *Рэчы*
І *окаць* голасна не стаў.

**VI**

Усё ж такі жыццёвая іх сіла
Вяла туды, дзе думкамі луналі,
Дзе іх аднойчы рукі адкапалі...
— Назад у цемру, зноўку у магілу?
Іх галасы гугнявыя пыталі.
Каб супыніць адвечны рух,
На скразняках выветрывалі Дух,
Але дашчэнту памяць не аднялі.
Тады народ лічы аблудным,
Калі народзіцца Іуда.
І стане спрытна, бы штукар,
І метадычна год за годам
Чужынцам прадаваць тавар —
За медны грош — душу Народа.

**VII**

Збудзілася і буйна ўскаласіла
Спачатку думка, справа — потым.
Як сонца гнеўна на куродым
Палеткі ў полі спапяліла,
А касінераў грамада

Няшчадна ворагаў касіла...
Ото народ — калі ёсць сіла...
Калі няма — тады бяда.
І блізкі дзень жаданы, судны,
Але жывы хадзіў Іуда...
Лукішкі. Пляц. Сіло і Воля.
— Бывай здароў, мужыцкі люд!
Я не дажыў да лепшай долі,
Нашчадкі вынесуць прысуд.

## VIII

Парой вясенняй збожжа на раллі
Ізноў чужыя грэлі рукі,
Ізноў каханне з-пад прынукі,
Ізноў самотныя палі.
І цені чорныя над пожняй
Ад крылаў чорных груганоў.
І гронка полацкіх званоў
Без языкоў — душой парожніх.
Ды ўжо з глыбінь зямных, памалу
Цягнуўся парастак — Купала.
Слабенькі, кволы, малады
Пераадольваў глыбы друзу...
Мігцелі знічкамі гады.
Блукалі ў цемры Беларусы.

## IX

Вось сімвал твой, забыты краю родны —
На ўзмежку жытнім сіні васілёк.
Чаму ж ён да сябе здалёк
Паэта вабіў, ад усіх гаротней...
Якая сіла ў ім, якія чары?
На выгляд — дык звычайная былінка.
Ды ў той былінцы — сэрца палавінка
І аб Радзіме вольнай мары.
Зірні на слуцкія пасы...
Адкуль у іх бязмеж красы?
Рука нярушная на кроснах.
Узор разрэзаў шэры змрок.
Такі звычайны і дзівосны
Радзімы сімвал — васілёк.

## X

Зварушаны нарэшце дух народны...
Ён як вясновы крыгаход,
Свой пачынаючы паход,
Спярша павольны і лагодны.
Ды нарастае пакрысе,
Аж покуль гром неверагодны
У дзень маёвы і пагодны
Мастоў стальных не затрасе.
Нібы запалкі, трэснуць палі,

І панясе ён гнеў свой далей.
Нарэшце выйдзе з берагоў,
Апошні раз у вал саб'ецца...
А там памкне разліў яго
Туды, куды ён сам імкнецца.

**XI**

Я верую, бясплодна не засне
Ні зерне ў глебе, ні ў народзе слова.
Ад зерня — колас, а ад слова — мова
Народзіцца аднойчы, калі грэць
Ля сэрца самага жаданую надзею
Не на чужынца-дабрадзея,
А на сябе, самому спалымнець.
Згарэць наўспрах, аддаўшы цеплыню,
Світаннем ненароджанаму дню.
Табе не жаць, але здалей пасеяць.
Калоссе пад сярпамі зазвініць...
Жніво ў разгары. Ветах. Караткевіч.
У небе зорка зыркая гарыць.

**XII**

А ўперад рынецца, маўляў, крыніца,
Калі рачулкі разам аб'яднаць,
І рэчышча нанова пракапаць.
Чысцейшай зробіцца тады вадзіца,

І рыбы будзе процьма, і лугоў,
Лягчэй намнога стане касавіца...
Але шкада, ёсць верагоднасць памыліцца, —
І рэчку незаўважыш з берагоў.
І перасохнуць, назаўжды прычым,
І словы мовы, і крынічныя ключы.
Зямля палеская зажурана маўчыць,
Спавітая ў жалобныя туманы,
А гнюс сваё — усё крычыць,
І крык той — соль на сэрца раны.

**XIII**

Каторая магутна, гучна мкне —
Не самая галоўная дарога.
Яна прыводзіць часта да знямогі
Ці да святла, але ў чужым акне.
А іншы шлях забыты, непыхлівы,
А пойдзеш — і згадаеш, што знаёмы
І гэтыя ваконныя праёмы,
І позірк недаверліва-шчаслівы.
Здзіўлення перасіліўшы наіў,
Сябе ў наступніку пазнаеш ты сваім.
Завершан круг, ды не закончан рух,
І там, дзе мы знікаем для Сусвету,
Аднойчы нараджаецца наш Дух
У вершах найгаротнага з паэтаў.

## XIV

Здалеўшы з глебы на прастор прабіцца,
Нібыта зноў прыйшоўшы з небыцця,
Народжаны, прыкуты да жыцця,
Быццам да вобаду у коле спіца.
І колькі жыць яму — круціцца,
І доўжыць распачаты некім шлях,
Мінаць лаўжы, стаіўшы страх,
І лёсам пакручастым ганарыцца.
Які адкрыў нязведаныя сховы:
Зямлю бацькоў, зярняты роднай мовы.
Што падказаў той шлях адзіны,
Які змагчы — не поле перайсці...
Той шлях вяртання да Радзімы
Дай сілы, Бог, усім дайсці!

*1987*

# Крыло анёла

Не змазолелі ў кроў калені,
не прадалі душу ў ярмо…
Спакон веку свабоду мелі
і сягоння не аддамо!..



***

Пачатак, радзіны, корань.
Зярнятка, сцяблінка, гай.
Пярынка, крыло, гайворан.
Крывіч, крывічане, Край.

## Францішак Скарына

Полацк поўны саборным звонам.
Душы поўніць нябесным страхам.
Ад Сафійкі плывуць іконы,
люд на неба глядзіць у жаху.

Хтось спяшаўся грахі замольваць,
хтось зграшыць напаслед крыху...
А ўгары на вачах паволі
сонца тухла на паўшляху.

Цэлы горад схіліў калені,
калі голас пачуўся Твой...
Ты з'явіўся ў пару зацьмення,
каб народ асвяціць сабой.

## Слова Паўлюка Багрыма

З сэрцам, скрухай наўспрах збалелым,
і душой, што спаліў агмень,
мой народ, пілігрым аслеплы,
што не выйдзе з начы на дзень.

Вецер торбай махае зрэбнай.
Ні маленнем, ні скаргай-словам
не папросіць сабе збавення:
рот нішчымны — аднялі мову.

Безгалосы, як свет магілаў,
цягне крыж на сабе пакутны.
Сэрца прысак раздзьмуць у сілах
толькі горана ўздых магутны.

## Францішку Багушэвічу

Якая за праўду плата,
ці можаш, Мацей, сказаць?
А хіба бывае праўда у краі,
дзе душы спяць?

Якая за волю плата,
ці можаш, Мацей, сказаць?
За волю крывёй адплата,
не шкода й жыцця аддаць.

Якая за мову плата,
ці можаш, Мацей, сказаць?
Жывуць у ёй воля й праўда,
іх нельга у нас адняць!

## Музыка

### I

А потым, пасля як-небудзь
памяць па складу рэха
азавецца раптоўна ў нас.
Ні раз,
          ні два
                    і ні тры...
Слёзы не варты твару.
Трэба умець спатоліць —
нават калі ад болю.
Прыгожае не знікае,—
яго забірае вечар...
Неадольнае нас нявечыць.

### II

У лесе свечак жыў туман...
Чаўном у вечнасць сплыў арган.

## Май

Той май быў шчодрым на дарункі:
на цеплыню і на каханне,
і на працягласць пацалункаў—
ад Мілавіцы да світання.
Яшчэ на смутак паланэзны
і на гартанны голас твой...
На мяккі водар сініх бэзаў,
якім прапах увесь пакой.

## Вясна

Зялёная паводка.
Прысадаў берагі.
Вяртаецца Прырода
на даўнія кругі.

## Жораў

Сівая адзінота.
Нязмога адляцець...
Кругамі ля балота
уночы ходзіць Смерць
А досвіткам асеннім,
як сцішыцца імжа, —
зноў крыламі успеніць
нябёсаў вір душа.

## Ліс

Пунсовы ветразь плыў па лесе...
Нібыта свечка па сутонні.
Пунсовы ветразь — ліс на снезе,
агонь блукання на прыволлі.

Плыві, прыгожы, покуль вецер
тваіх слядоў не пакідае,
і абмінуць здалей дасвецце,
дзе лёс-ганчак цябе чакае.

## Майстра

Тут усё прапахла лесам:
пілы, гэблікі, сякера...
Пад касым крысом павеці —
дзеда летняя кватэра.

Куфар, вулей ці кубельца —
не адмовіць ён нікому.
У старых руках умельцы
праца йдзе па-маладому.

А сягоння, хоць і рана,
адпачыць надумаў трошкі...
Прытуліў шчаку рубанак
да асінавае дошкі.

## Калодзеж

А цэбар улюбіўся
у дно, дзе зорак ззянне.
Стары ланцуг хваліўся —
мацней ён за каханне.

Адзін пусціць не хоча,
другі на дно імкнецца...
Я веру, што аднойчы
стары ланцуг парвецца.

***

Падзялілі шлюбныя фоткі.
Разабралі з паліцаў кнігі.
І два лёсы жыцця паводка
развяла, як увесну крыгі.

Мо змялела кахання рэчка,
мо заціхлі пачуццяў хвалі?
Ціхамірна, без сцэн і спрэчак
мы сям'ю напалам ламалі.

Раздзялілі пароўну крыўды
і збіраемся далей жыць...
Толькі сынавы смех, скажы мне,
як мы будзем на двух дзяліць?

## Жанчына

Па меры таго як памалу
з глыбі яна йшла на мель,
я бачыў: ад футарала
вызвалялася віяланчэль.

А пляж быў пусты і дзікі...
О, як бы хацеў я стаць
у момант той раптам смыкам,
каб струны яе кранаць.

## Мадонна

Я твой партрэт пісаць баюся:
ты кожны момант — рух бясконцы.
Ад зайздрасці цьмянее сонца
перад мадоннай з Белай Русі.
Я твой партрэт пісаць баюся,
хоць кожны рух твой п'ю вачыма...
Што мёртвыя мадонны Рыма
перад жывою з Беларусі?!

## Паўднёвы ўспамін

Вінаваты паўднёвы вечар...
Проста так, без якой прычыны,
абдымаю чужыя плечы,
пешчу косы чужой жанчыны.

Гэта проста на момант хвалі
аглушылі прыбоя шумам.
Гэта вусны дазвол давалі,
гэта вочы світалі сумам.

Гэта проста залётны вецер
дзве рукі у вянок з'яднаў...
Люстраваліся у Сусвеце
нашы постаці,  як адна.

## Вольны верш

Ты — мой сум.
Пасярод ночы ўспамінаю твае вочы.
Не хочаш?
Але. Так і павінна стацца.
Сустракаемся, каб развітацца.
Засынаем, каб прачнуцца.
Нараджаемся, каб памерці...
Для смерці
нараджаемся мы аднойчы.
Двойчы, тройчы
да цябе прыйду.
Сумам — узрушу. Жартам —
прымушу ўсміхнуцца.
Засынаем, каб не прачнуцца.
Нараджаемся, каб не памерці...
Аддзерці
ад памяці некалькі брудных лістоў,
каб зноў
пасярод ночы ўспамінаць
пра твае вочы.

## Бэз

Фіялетавым воблакам
ты прыплыў пад акно на світанні.
Фіялетавым сном, фіялетавым
сумам туманным.
Ты вісеў, ты квітнеў,
ты чакаў з першым промнем спаткання.
Зварухнуў, абудзіў, адагрэў
першаквецце кахання.
Майскі ранішні бэз —
фіялету разліў на паркане...

Быццам свежы парэз,
што раптоўна ў душы закрываніў.

## Сустрэча

За дзень нерыбацкі — прэміяй
была мне гадзіна позняя.
У сціплым убранні Евіным
цябе сустракала возера...

І вёслы, і голаў страціўшы,
не помню да гэтых дзён
цябе я спаймаў ці трапіў сам
у чараў тваіх палон.

Блукаю здзічэлым берагам,
зарослай сцяжынай памяці,
упарта ў падман не верачы
разгубленых слоў русалчыных.

## Наталлі

Ці пакліча за далеч дарога,
ці пра восень згадаю ў журбе,
аб табе мае боль і трывога,
мая любая, аб табе.

Пражылі мы ні мала, ні многа:
першы сын, першы подых завей...
Аб табе мае боль і трывога,
мая любая, аб табе.

У маленні адчайным да Бога
не прашу паратунку сабе,—
аб табе мае боль і трывога,
аб табе, аб табе, аб табе.

## Адчай

На балконе паліў лісты...
Пазіраў не сваймі вачыма.
Думаў паліць назад масты.
Думаў — памяць спаліць магчыма.

Варушыў папяровы прах,
што нядаўна каханнем зваўся.
Адшугаў, адкурэў, ачах:
толькі чорны нагар застаўся.

Не аддзерці яго нічым:
ён — таўром на душы хлапечай.
Усё бліжай адчай начы.
Усё ніжай пралёт парэнчаў...

***

Калі сціхнуць адгалоскі
тваіх крокаў у вушах,
аплыве, бы свечка воскам,
успамінамі душа.

Колькі будзе розных сцежак,
покуль знойдзем шлях адзіны.
Сонца мне — мільён усмешак.
Дождж — мільён тваіх слязінак.

## Міньён памяці

*Не замятай маіх слядоў,*
*я шчэ вярнуся...*
Памяць

Пакладзі мне далонь на вусны...
Развітальна і беспрымусна.
Смутак мой, успамін спакусны
пакладзі мне на вусны.

Ціхі журлівы гук
блукаў жаралом жалейкі...
Гаючая памяць рук —
збалелай душы лекі.

Перад каханнем, як перад Богам,
няма апраўдання аніякога.
Будуць сустрэчы, дарогі, людзі...
Цябе не будзе.
Цябе не будзе?!

Крыкну наўслед лету я:
— Даруй мне за ўсё, светлая!
Даруй мне за ўсё, першая, —
збалела душа грэшная.
Каханая мая, клянуся:
— Не замятай маіх слядоў,
я шчэ вярнуся...

***

Туман у снежні —
варажба...
Ці насланнё,
ці адзінота?
Ён першы снег не зневажаў.
Ён проста быў, як я, маркотны.

Ён проста крочыў наўздагад
і пераблытаў поры ў годзе...
Туман, табе я сёння рад —
ты мой таварыш па самоце.

## Санька

Ён жыў каля рэчкі, ля самага моста,
што вёску адвеку дзяліла з пагостам.
Худы і маўклівы, не выцягнеш слоўка,
свой хлеб здабываў за ракою — рыдлёўкай.
Вяскоўцы лічылі яго дурнаватым,
бо гора чужое было яму святам.
Нябожчык у хаце — за ім пасылаюць,
бо лепей магілы ніхто не капае...

Ён сёння мне ўслед паглядзеў падазрона,
затым усміхнуўся — усмешкай Харона.

## Дым Айчыны

*И дым Отечества нам сладок и приятен...*
А. С. Грыбаедаў

Дым Айчыны — чарнобыльскі дым.
Не салодкі ён, а гаркавы.
О, як часта яго мы снім —
чорны дым, нібы чорны саван.

Ён па небе Радзімы плыў
смертаноснай, злавеснай хмарай.
Ён аблуднаму люду быў
і прычасцем святым і карай.

Дым Айчыны... Жахлівы сон.
Ад якога прачнуцца страшна...
Бераг Сожа. Сівы Харон
рук не можа адмыць ад сажы.

***

Журавіны бяруць жанчыны,
паслухмяныя студзяць пальцы.
Не баяцца слядоў ваўчыных,—
на чарнобыльскі вецер скардзяцца.

Журавіны бяруць жанчыны,
імі ўсыпана ўсё Палессе...
Нібы кроў па слядах ваўчыных
палымнее на першым снезе.

## Эскіз

Жыццё за ваконным шклом:
сціхотна трапечуць клёны,
нібыта ў нямым кіно,
бязгучна крычаць вароны.

Нячутна праплыў цягнік,
зліваючыся з блакітам...
Жыццё за вакном — эскіз
накрэслены і забыты.

***

Я стаміўся на свеце жыць,
я аб смерці стаміўся думаць...
Ліст на ветры ўгары дрыжыць
і на дол пазірае з сумам.

Ён прывык да птушыных дум,
звыкся быць ён крылом для дрэва.
Лістапад — яснавокі сум,
залатога лісця залева.

Я стаміўся на свеце жыць,
адпачыну істота просіць.
І душа, як лісток, дрыжыць,
а за вокнамі восень. Восень...

## Жыццёзварот

І жыццё, як рака, мялее..
Так мінаюць дзяцінства, сталасць.
А наперадзе плёс бялее
ціхаплынны, нібыта старасць.

Плынь за плёсам агорне вечар.
Расхінуўшы глыбіняў сховы,
акіян прыме нас, як Вечнасць,
і паўторыцца ўсё нанова.

***

Я ўрастаю ў чарговы дзень,
як у лёд урастае рыба.
Саркафага шкляная глыба
размяжуе святло і цень.

Я ўрастаю ў чарговы год
непазбежна і незваротна,
не шкадуючы дзён самотных,
што згарэлі, нібы бікфорд.

Я ўрастаю ў чарговы век,
ахвяруючы ўсім Учора...
Так блакітныя вены рэк
урастаюць у сэрца мора.

***

Восень прыйшла раптоўна.
Вецер лісты скамечыў...
Восень — і плед шыкоўны
лёг на імшарын плечы.

Восень прыйшла знянацку,
як тэлеграма ноччу.
Восень — і час збірацца
шляхам птушыным крочыць.

Восень прыйшла, і дзякуй,
што прычакаць прыйшлося.
Засцерагальным знакам —
хутка зіма! — мне восень.

## Дзікі качар

Чарот прачысціўся цішай.
Зайшлася душа не плачам...
Каханне гукала ўвысі.
Даверлівы дзікі качар.

Забыта дарога смерці,
якой праляцеў дадому.
Асвенчаны сэнс дасвецця —
пазнання нямая стома.

А стрэл быў амаль бясконцы,
як рэха ў даліне горнай.
Прастрэленым сэрцам — сонца
кіпела ў крыві азёрнай.

## Горад

Я адвык ад тваіх камяніц,
ад патрэсканай скуры вуліц.
Мне бліжэй цішыня старыц,
што падсвечваюць спеў зязюлін.

Я адвык ад тваіх вітрын,
сумятні і людскога тлуму.
Мне радней светлыня калін
з іх адвечна дзявочым сумам.

Я адвык, я адвык, адвык...
Хоць ты быў мне прыёмным бацькам.
А ў душы, нібы востры цвік,
вобраз вёскі — мой боль за маці.

## Ікар

Гэта сам я Ікарам быў
і збіраў па імшарах пер'е...
Недаверу атруту піў
і сяброўскіх вачэй бязвер'е.

Гэта сам я сябе распнуў
на няшчаднага лёсу пяльцах.
Стаў над безданню — і сігануў,
нат забыўшы, што воск плавіцца.

Гэта сам я сябе пракляў,
сярод неба — не стала сілы...
Воск на пальцах — крывёю ззяў
ад зламаных маіх крылаў.

***

У жніўні збяруся ў поле,
там жытні загон вятрыска
кідае мне ў твар прыбоем,
узняўшы зярнятаў пыркі.

З узмежжа, нібы з парога,
я крыкну насустрач хвалям:
— Вазьміце маю трывогу,
што сэрца няшчадна паліць.

А потым, калі паспею,
услед ім шапну з мальбою:
— Вярніце ў душу надзею,
счарнела душа журбою.

***

Без ценю шкадобы, без кроплі адчаю
жыву і жыцця свайго не прыкмячаю...

Год вып'ю, як кубак гаркавага чаю...
Жыву і жыцця свайго не прыкмячаю...

Жыццёвы экватар будзённа страчаю.
Жыву і жыцця свайго не прыкмячаю...

Няўжо і тады, як адкрыецца Вечнасць,
сігну за мяжу і жыцця не прыкмечу?

***

Месячнай цёплай ноччу
шляхам апошнім, Млечным,
ціха ў Сусвет пакрочу,
буду сабе свяціць...
Каб і адтуль, з вышыняў,
каб і адтуль, з далечы,
бачыць цябе, Радзіма,
і, як цяпер, любіць.

***

Забяры мяне ў неба, маланка!
І хоць шчасце з табою — на міг...
Я клянуся быць шчырым каханкам
у пякельных абдымках тваіх.

Лепей знікнуць у сіняй прасторы,
абудзіўшы залевай раллю,
чымся жыць у маўклівай пакоры —
і аднойчы сысці пад зямлю.

## Травень

Зялёны месяц травень
мільгнуў і тут жа знік.
Нібыта за дарджамі
прагледжаны цягнік.

Здаецца толькі вось як
яго быў чутны рух...
Стаю — навокал восень,
і семафор патух.

## Смутак

Мой погляд размылі туманы.
Мой гнеў, як загублены нож.
Мой смутак, нібы несціханы
кастрычніцкі, помслівы дождж.

Твой погляд — зялёная зорка.
Твой гнеў — ненароджаны сын.
Твой смутак — пранізліва-горкі,
як смак недаспелых ажын.

## Тупік

Здавалася — шлях невыцечны,
а сталася — вечнасць, як міг.
І вось ужо фарамі стрэчны
міргнуў — асцярожна, тупік...

Не скінуўшы ходу — навошта,
з надзеяй кудысьці паспець
душа — галубінаю поштай,
якой зачакалася Смерць.

## Крыж

Вось — зямля. Гэта — неба, а між,
затаіўшы жалобу сваю,
пачарнелы, як прадзедаў крыж,
на раскрэсах Радзімы стаю.

А шляхі — у чатыры бакі
перасохлымі рэкамі мкнуць...
А сляза — на абедзве шчакі.
А бяда — як разлітая ртуць.

## Пазнанне

Як зморыцца ноч ад кахання,
настыне ў тумане язмін
і неба даспее світаннем,
ты мовіш сціхотна: — Вазьмі,

вазьмі маё цела, каханы,
і боль мой, і слёзы мае...
і сонца ўзаўецца фантанам
рассыпаных кос па траве.

## Берагіня

Зеленакосая мая!
Ці гэта толькі сон падманны?..
З лілеяй чорнай у руках
выходзіш з завадзі туману.

Стаю, вачэй не вольны ўзняць
на прыгажосць, што не схавана —
Вазьмі лілею, мой каханы,—
і слоў няма, каб адказаць.

## Самота

Заімгліла туманам, пакрыла слатой
восень нашага лета каханне.
Я зрабіўся інакшым, ты стала не той,
як належнае стрэлі растанне.

Ды аднойчы — хутчэй безвыходнай зімой,
не здалею пазбегнуць напасці —
каб званком тэлефонным у спальні тваёй
хоць імгненне пабыць каля шчасця.

## Адлюстраванне

Усе пуцявіны прыводзяць у неба.
Для грэшнай душы сваёй крылы гадую.
Калі адыходзіш — адзінае трэба:
на свечцы заўважыць слязу залатую.

На свечцы заўважыць слязу залатую —
адзінае трэба, калі адыходзіш.
Для грэшнай душы сваёй крылы гадую.
Усе пуцявіны ў нябёсы прыводзяць.

## Туюгі

*

Паўднёвае сонца лавінай з гары
сцякала. Ты мовіла: — Любы, згарым,
і першай сігнула насустрач абвалу
снапоў залатых, што ліліся згары.

*

Нялюбай цела — вабнасць-чары —
я піў да дна світальнай чарай...
Ды дзень падкраўся, нібы кара,
за грэх астатні янычара.

*

Слодыч слоў не бяру на веру.
Словы — рэха нязбытных сноў...
Хоць каханне — нішто без Веры,
ды я ў шчасце наноў — не веру.

*

У абдымках цябе не душу...
Не дару пацалункаў каралі.
А парфумай пачуццяў душу
я тваю незмушона душу.

## Віланэль

Забытых гусляў гукі.
Салодкі напамін.
Плылі стамлёна рукі.

Над безданню разлукі
зацвіў зімой язмін.
Забытых гусляў гукі.

Гучалі без прынукі
у квецені галін.
Плылі стамлёна рукі.

З гадамі сэрца мукі
гарчэюць, як палын.
Забытых гусляў гукі.

Плывуць стамлёна рукі...

## Рытурнэль

Скруха
загарыцца ў сэрцы і патухне
памяці ссівелай завірухай.

Памяць
адгукнецца рэхам у тумане
і неразгаданая растане.

Сэрца
на самоту болем адзавецца,
ды не скамянее ў паняверцы.

## Я вас любіў…

*Памяці А. С. Грачанікава*

Я вас люблю, мае палешукі...
Гучыць радок пранізліва і горка.
Я вас люблю, цяпер — ужо любіў
да самага расстайнага пагорка...

Як чаіца, над сцішаным Сажом
душа прычаліцца крылом да неба.
Няўжо апошні раз гляджу на вас?
Няўжо? Развітвацца з Радзімаю патрэбна?

На займішчы самотнае вясны
рака жыцця застыла ў пойме лета...
Я вас любіў аддана, нібы сын.
Палессе, памяні душу Паэта.

## Аднойчы

Аднойчы ўвесну, нібы лёд,
ад плёсаў-плошчаў непрытульных
асфальт пачне свой крыгаход
між берагоў прыціхлых вуліц.

І людзі выйдуць паглядзець
на небывалае здарэнне,
і стануць душамі святлець,
і прагнуць самаачышчэння.

І разняволены праспект
ва ўсёй сваёй красе шырокай
блакіт пралесак панясе,
адлюстраваны ў сотнях вокан.

## Асенні рытурнэль

Верасень
залеў самлелых верадам
тушыць лета жар, рассыпаны па
верасе

На кастрах
з бульбоўніку і лісця
грэе пальцы золкія кастрычнік.

Лістапад
птушыную блакаду
сіліцца прарваць паміж прысадаў.

## Элегія

Залачае... Гэта восень
вераснёвым свеціць лісцем.
І душа адпачывае
між Наступным і Калісьці.

У супольнасці з Сусветам
бусел, шчыры служка Бога,
адпусціў грахі ўсе Лету
з купала рудога стога.

## Канцона

Там, дзе ранеты на золку
свой пачынаюць «дэсант»,
росніцай Верасень золка
мерае крокамі сад.
Ціха ступае, няспешліва
паміж падпорак з арэшніку.

Падаюць сонцы асеннія,
яснасцю поўнячы след,
мудрасцю добрага Генія
падаюць проста ў Сусвет.
Без шкадавання і роспачы,
адтэрміноўкі не просячы.

Як бы хацеў навучыцца я
мудрасці іхняй спрадвечнае,
промнямі год асвяціць сваіх
пройдзены шлях перад Вечнасцю...
Літасці ў лета не просячы,
рушыць у сад сваёй Восені.

## Газэля

Галінка бэзу, траўнем надламаная,
мая Каханая.
Ты лёсам мне, напэўна, звыш наканаваная,
мая Каханая.
Дзе б я ні быў, вяртаюся хутчэй туды,
дзе мне павек адданая,
мая Каханая.
У слоту лістападаўскіх начэй са мной яна
і восень не падманная,
мая Каханая.
Над безданню даверлівых вачэй
мая маркота ў белы строй прыбраная,
мая Каханая.
І рэха вечаровае званчэй, калі шапчу
да зорак апантана я —
мая Каханая!
І смехам тваім поўніцца ручэй,
як ад мяне за далеч ты схаваная,
мая Каханая.
Лісцёвы водсвет ззяе залацей пад раніцу,
што разам прычаканая,
мая Каханая.
І сэрца спеліць кволую надзею —
па-за жыццём чужым табе не стану я,
мая Каханая.

## Слёзы сліваў

Стаяць скалелыя сады.
Сутонне сцішана сівее.
Самлела сон сышоў сюды
святлом сумлівым санцавея.

Стаяць скалелыя сады.
Спакусай свецяцца сузор'і.
Сцюдзёна сеюцца сляды...
Самота скрушнага спакою.

Стаяць скалелыя сады
саромна, сціпла, сіратліва...
Струменем слодчынай слаты
сцякаюць слёзы сініх сліваў.

## Ты так хацела

Выйду ў туман і стану
сам, як туман, самотны.
Сее слату падману
погляд вачэй халодных.

Цешся сваёй красою,
восень — твая стыхія.
Покуль каса пятлёю
не дакранецца шыі.

Стане туман расою.
Ад перапёлак слёзы?..
Выгнецца стан лазою
супраць віровых лёзаў.

Вось я і стаў туманам,
як ты таго хацела.
Пацерам знік парваным,
плачам душы бясцелай.

## Мае вершы

Мае вершы сумуюць па кнізе...
Ім нясцерпна апрыкла бадзянне
па газетна-зімовай адлізе
з правам дзённага лёсайснавання.

Мае вершы блукаюць па свеце
у лістах да сяброў і каханай...
Яны быццам заблудныя дзеці,
што згубілі шляхі да Нірваны.

Мае вершы, жывіце надзеяй
мо тады, калі я вас не ўбачу,
вам шумець папяровай завеяй
у руках закаханай чытачкі.

## Плач

Анёл самотны падаў з неба
над Беларуссю незаўважна...
Адно крыло — бялей ад снегу.
Другое — чорнае, бы сажа.

Упаў — гучалі трубы громна,
і бачыў гэта ледзь не кожны:
адно крыло — у водах Нёмна,
другое — знікла ў плыні Сожа.

О літургіі Херувімы!
Чаму не плачаце — спіцё вы?
Анёл згубіў маю Радзіму,
а без яе — нашто жыццё мне?

## Душа

Палова чацвёртай ночы, —
палова маёй тугі...
Вяртацца душа не хоча
назад, на «свая кругі».

І целу майму пустому
балесна на сподзе сноў.
Вярніся, душа, дадому, —
прашу і не чую слоў.

Даруй мне, як скрозь бывала,
за безліч маіх грахоў...
Вярніся — я гэтак мала
яшчэ гадаваў сыноў.

Палова чацвёртай ночы, —
палова маёй тугі...
Не хоча душа, не хоча
пакінуць сваіх вышынь.

## Зайздрасць

Ах, якія могілкі прыгожыя
на радзіме Толіка Сыса!
Дзе бярозай стала ледзь не кожная,
у Дняпро схаваная душа...

Хараша пры бацькавай магіле
тут пачуць на Радаўніцу гром...
І не страшна, нават ні на хвілю,
прычакаць апошні свой паром.

## Крыўда

*Жонцы*

Не папросіш мілоснай свечкі,
не адкажаш хлуснёй на здзек...
Толькі дзве перасохлыя рэчкі
уваскрэснуць з тваіх павек.

Толькі срэбныя дзве маланкі
перакрэсляць мне шлях наперад...
І ў адной з іх — заплача Янка,
а ў другой — засмяецца Верас.

***

О як ты, грэшная душа
мая, імкнулася да Бога!
А Бог сказаў: — Не спакушай
сябе святлом агню чужога...

А я лячу на твой агонь
і без астачы ў ім згараю,
і рай дарованы губляю,
цябе цалуючы у скронь.

***

Жанчына з сумнымі вачыма,
табе пасуе колер здрады...
Ад кос світальных вадаспадаў
пагляд адвесці немагчыма.

Ты усміхаешся скрозь сон мне
у промнях ранішніх вяргіняў...
Хацеў сказаць: — Мая мадонна!
А прашаптаў: — Мая багіня!

## На беразе

Сарамліва ў люстэрка ракі
ты сама на сябе паглядзела...
І каса паслухмяна з рукі
Вадаспадам ахутала цела.

Покуль сон не раскрыў парасон,
захінаючы нас ад спакусы,
забяры мяне ў дождж валасоў
і ў пяшчоту расчуленых вуснаў.

***

Лістапад за астатняй лістотай
шле паўночных вятроў чараду.
Я па снезе, што выпаў употай,
да цябе на спатканне іду.

У чаканні чуллівай пяшчоты
знерухомеў разгублены сад...
І каханне, і снег гэты ўпотай
нам з табой падарыў лістапад.

— Ты на снезе кахаць не ўмееш?..
Шлюбным ложкам хай стане нам ён...
А прачнуся і ўсё зразумею —
гэта сон, гэта восеньскі сон.

## Ронда

Да рук гарачых ліпне гліна,
здаецца, пальцы сочаць кроў...
А ён нагою зноў і зноў
ганяе ўвішны круг няўпынна.
І вырастае прыгажосць
у таямніцы рухаў-чараў,
нібы вяртае маладосць
майстэрства боскага ўладар —
Ганчар.
Напэўна, так калісьці Творца
на адзіноце сярод хмар,
натхнёны духам сваёй моцы,
ствараў Адама — сына мар,
не склаўшы рук да самай ночы,
як той Ганчар.

## Трыялет

Не вернецца назад Учора.
Прыбой аціх. Ачахлі зоры...
І не глядзі мне ўслед з дакорам.
Была зіма — астыгла мора.
Не вернецца назад Учора.
Дзе ложак — яхта. Хвалі — шторы...
Не вернецца назад Учора.
Прыбой аціх. Ачахлі зоры.

## Надзея

Мае сны без цябе — пустыя.
Спаць кладуся, нібы ўміраю...
Сам спаліў за сабой масты я,
калі вымавіў: — Не кахаю.

Ды з надзеяй аб новай стрэчы
ад самога сябе наўпотай —
непатушанай кіну свечку
я ў забытай царкве пяшчоты.

## Малітва

Божа літасны, трыадзіны,
Ты літанне маё — пачуй.
Не пакінь у бядзе Радзімы —
уратуй.

Уратуй мой народ пакутны,
зберажы ад ліхога Край,
пасяліцца ў душы Іудзе
мне і сыну майму — не дай.

Барані ад спакусы грэшных,
абміні сваёй карай злых...
Божа праведны — хай бязмежнай
будзе ласка ад слоў Тваіх.

# Радно

Валошку тваю, Беларусь,
нашу мару,
вось-вось янычарскія
скосяць мячы...



***

Чакаю цішыні.
Як скрыпка першай ноты.
Баюся вышыні —
стаміўся ад палёту...

Шукаю дабрыні,
а сам з сябрамі хцівы...
Жыву назад, калі
быў, як анёл, шчаслівы.

І шчыра верыў — гром
не здольны здрадзіць хмары...
Анёл з адным крылом,
але якім — гітарным!

***

Я хацеў бы пісаць, як жыву, —
так, як піша Мікола Купрэеў.
Пра аблокі, што скрозь плывуць
праз душу і, як дым, чарнеюць...

Я хацеў бы пісаць, але
так пішу, як я сам умею.
Бо мой сон, нібы Сож змялеў,
а на сподзе душы — лілея...

Гэта здрада — мая віна,
хоць пра здраду пісаць нягожа.
А заплачу — гарчэй віна
смутак — згублены колісь нож мой.

І слязіна мая — як кроў,
што падсочана з роду Дрэва,
дзе ўпадзе яна — там Любоў,
там світальных валос залева...

Там Чарнобыль — матулін боль,
што жыцця разарваў аорту...
Там Радзіма — мая Юдоль,
пекла з Богам і вырай з чортам.

***

Паэты пачынаюцца з любові
да страчанай, зняважанай Айчыны.
Паэты пачынаюцца са слова
з таемным сэнсам першае прычыны.

Паэты пачынаюцца з жанчыны,
якая здрадай плаціць за каханне.
Паэты пачынаюцца з хвіліны,
калі нябёсы клічуць на спатканне...

Паэты пачынаюцца са славы,
з якою не самотна ім памерці.
Пачатак для паэта — гэта права
законны шлюб да трыццаці узяць
са Смерцю.

***

О Беларусь — абліччам Божай маці —
сыноў сваіх, што прадалі Агмень,
дзе моц бярэш, каб гнеўна не праклясці,
дзе слёз бярэш, каб баслаўляць з калень.

У ценю ад чарнобыльскага крыжа
іудаў крык параніў цішыню...
Даруй, Радзіма, слова «ненавіджу»,
што сёння прамаўляю ўпершыню.

## Агонь

Хто сказаў, што агонь нежывы,
той не бачыў агню жывога.
Зніч алтарны — заўжды жывіць
мне душу чысцінёю Бога.

Дакараем, што часам злым
ён бывае, а самі злыя...
Хай агонь, што гарыць двaім,
будзе добрым, павек не дыміць...

Калі час, нібы воск, збяжыць
на апошняга дня імшы,
не спяшайце агонь тушыць,
ён — маяк на шляху душы.

## Шлях

Шукаю Радзіму
скрозь леты і зімы —
нідзе яе не знаходжу.
Слухмяны, бунтоўны,
святы і грахоўны
іду, але не выходжу...
А шлях не зыначыць,
хоць часам не бачна
і птушкам свайго тору...
Вяртацца адвеку
зажураным рэкам
назад — у палон мора.
Шукаю Радзіму —
хай нават знайсці мне —
слязіну на дне гора.

## Скруха

Бровы хатаў снег ахутаў.
Завіруха вые глуха.
Адзіхацела і патухла
лязо ракі у похвах луга.
А да вясны яшчэ так многа —
як граху да веры ў Бога.

## Мара

Восень вымошчвае высі
золатам зорнай лістоты.
Сядзем удвух, як калісьці,
пад небасхілам самоты.

Гэтак мінаецца лета.
З мрояў адроіцца мара —
разам у бездань Сусвету
рушыць насустрач пажарам...

## Спаліць масты…

*Палю масты,*
*Ды пакідаю палі,*
*Каб новы мост*
*Наслаць на чым было...*
Рыгор Барадулін

Паліць масты — для дужых духам праца.
Паліць масты — няпростая забава.
Паліць масты — з самім сабой застацца
па розныя бакі ад пераправы.

Паліць масты — душы патрабаванне.
Паліць масты — не кожнаму пад сілу.
Паліць масты, каб здраду і каханне
рачная плынь навекі раздзяліла.

Палю масты, але з адной умовай,
як ведаю, што болей не вярнуся...
Палю датла, а толькі на палову —
наўрад ці і з гадамі навучуся.

## Зіма

Рукі, як адхуканыя птушкі,
для якіх кішэні сталі гнёзды.
Вецер рой сняжынкавы загушкаў.
Вуллі хат — мішэні для Марозу.

Нібы ў лёд, у высі ўмерзлі зоркі.
Заўтра Богу доўга высякаць
Панядзелка крыгу, каб Аўторак
сваё месца ў небе змог заняць.

## Брахікалан

Змрок.
Зор
жвір.
Ноч.
Воч
вір.
Рань.
Рунь
мрой.
Дзень.
Дум
рой.

## Голас галінавых глосаў…

Губляюць гоні грэбні-грывы,
галосяць глосамі галінаў.
Гугнявы гром грыміць гняўліва...
Гаротна гронкі гукаў гінуць.

Гул галатурыяў гітарных.
Глісенда градзінак гардзінных...
Гаёвых галерэяў галы.
Грыбных галераў гільяціны...

Гадоў грахоўнае гарышча
гадуе гонар галубіны...
Глухі гарлач гукае гліна
гартанным голасам глыбінным.

***

Мая душа — як ліфт парожні —
вандруе ў целе дзень і ноч.
То яе вабіць водар пожні,
то прыпадзе да шыбін воч...

То ў ёй цалуюцца каханкі,
то гвалтаўнік свой гострыць нож...
Мая душа ад зор да ранку —
прытулак стомленых нябож.

Маёй душы пустую клетку
даўно пакінуў салавей...
Тут вершам пішуць вельмі рэдка,
тут смерць — апошняя з надзей.

Мая душа — як ліфт парожні —
аднойчы грымнецца з нябёс...
А разам з ёю — хмары, пожні,
каханне, вершы, п'яны бомж.

***

Я маці не любіў сваю адмалку.
Я маці ненавідзеў — колькі мог...
У крыўдзе слёз — тапельцам сэрца стала,
і пакараў за гэта мяне Бог.

І атрымаў я першы ліст ад мамы,
што паўжыцця дарэмна прачакаў...
Тры словы з плашчаніцы тэлеграмы —
як тры цвікі — з Хрыстовых свежых ран.

Пад небам анямелым дамавіны
даруй, матуля, мой няўмольны грэх.
Я так цяпер любіць цябе павінны —
як Бога Ной, сыходзячы ў каўчэг.

***

Верасень мярэсціцца ў смузе
водсвету лісцёвай пазалоты.
Бусел на затомленай назе —
інвалід айчыннае самоты.

Позна прыкмячаць, як урасеў
скошаны бульбоўнік па гароду.
Трэба рыхтавацца пакрысе
да жніва раптоўнага прыходу.

Верасень мярэсціцца ў смузе —
вырай мой — няблізкі, недалёкі...
Бусел, на затомленай назе, —
ідэал жыцця майго высокі.

## Лістапад

Састарэлы вецер-пілігрым
папрасіўся ў прымы да асіны...
На паляне шлюбнай у бары —
куст рагоў — скупы калым ласіны.

Мару не прыручыш да галін...
Тонучы ў нябесным сінявіры,
спакваля лістоў асенніх клін
адплывае ў свой апошні вырай.

## Кажан

Ён жыве ў перакуленым свеце...
Яго дзень — гэта наша ноч.
Плаўнікі яго крылаў вецер —
як галіны, кладзе пад нож.

Яго неба — ніжэй павеці.
Яго сонца — патухлы свет...
Яго вочы — азёры смерці.
Яго сны — амальгама стрэх.

Ён апоўнач нырае ў поўню.
Ён апоўдзень — з-пад кроквы кроў...
Ён — і д'ябал, адпомсты поўны,
і — анёл, што сама Любоў.

## Морыва

Дрэва бязроднае гоніць рака —
рыба ў лісці зялёным...
Вынырне месяц — чаўном рыбака —
высвеціць невад кроны.

Дзе вадзянік на падводны зруб
высцеліў плёс бярвеннем,
рук каранямі ў адчаі дуб
ворыва хваль успеніць.

Тут у вірах, што магіл глыбей,
зміріцца з лёсам волат...
І прычакае драпежны глей
золата чорнай зморы.

## Золак

З занябёсных глыбіняў,
адкуль не вяртаюцца птушкі,
дзе сасмяглая гліна
сумуе без Богавых рук,
саламяны прамень
на паркалевым снезе падушкі —
свежазжыты ўспамін —
паратунак ад сонных пакут.

## Прадчуванне

Адплывалі аблокі за богавы светлыя вочы,
нібы гурма анёлаў — успененай хваляю крыл...
Ды заплакала маці,
раптоўна прачнуўшыся ўночы,
трох слязін дачакаўся не ёй узгадованы сын.

Трох слязін —
трох парваных бурштынін атрутных,
трох змяюк са спалоханых раніцай сноў,
трох чаўноў у сталёвых вярыгах раскутых,
трунаў трох з жаўтажвірых вясковых кладоў.

## У хваробніцы

Мой сон пераехаў трамвай
каля стадыёна «Дынама»...
І чорнаанёлавы рай
гукнуў нехрышчонаю рамай.

Не ведаю, хто дапамог
адолець парог падваконня,
ці д'ябал у вочы, ці Бог
глядзеў з залатога прадоння.

Прачнуўся — распнуты на стол...
Душу адпускала Геена,
і белы бальнічны Анёл
шпрыцом цалаваў маю вену.

## Чарнобыльскі анёл

З авансцэны вясноўвага ранняя
між аблокаў туманных куліс
у пражэктарным сонечным ззянні
ён крыху тэатральна узнік.

Ён маўчаў і глядзеў мне у вочы,
ён прарочыў нязжыты мой лёс.
Я з магілы глыбокае ночы
пад паглядам яго уваскрос.

І на хвалю ступіў асцярожна,
і за ім да нябёсаў наўпрост
бруkaванкай астыглаю Сожа
ціха рушыў, амаль як Хрыстос...

***

Пайду ў Лістапад...
Яго царская брама
даўно спакушае, вярбуе душу...
Пайду неаглядна, як вернік да Храма,
дзе лісце спраўляе па леце імшу.

Пайду ў хараство
харалужнага бору,
дзе сонца сусаліць асін купалы.
Сыду хоць на дзень
ад згрызотаў і зморы,
і дум неадчэпных цяжкой кабалы...

Пайду ў Лістапад
без надзей на вяртанне,
як жораў журлівы у обнізе зор...
Сыду назусім — ерэтык-самазванец...
Спытаюць — куды?
Адкажу — на касцёр.

## Пілігрым

*Алесю Бяляцкаму*

Калі загалосяць нябёсы
мне ўслед залатымі дажджамі,
калі лёсахрэсніца Восень
заваліць мне вочы лаўжамі,

калі ўвырайлётныя гусі
мне сэрца, як пацер, праніжуць,
раскрэсы маёй Беларусі
я ў рукі вазьму заміж крыжа,

і рушу насустрач Галгофе
зашклёным шляхом перадзім'я,
а кроў у снягах сваёй мовы
пакіну на памяць Радзіме...

## Яно

*М. Багдановічу*

Я помню, што гэта ўжо колісь было.
Каляды. Завейная шчырасць.
Сумёт за балоннем — узнятым крылом
Луг-лебедзя, гнанага ў вырай.

І ты ўслед за ім, як крывіцкі Ясон,
памкнуўся, паверыўшы ў мару.
А слуцкага паса — цяжкое руно —
царкоўным заззяла арнатам...

І раптам з нябыту узнікла Яно
паўночнай парой сяродзім'я.
Валошка, што ўмерзла ў ваконнае шкло —
пагляд твой растайны, Максіме.

## Максім, не вяртайся…

Ад хросных пакутаў, ад здзеку і гвалту,
як Нёман спрадвечны, змялеў радавод...
Максім, не вяртайся з далёкае Ялты —
цябе не пазнае тутэйшы народ.

Бо й сёння — сляпы ён, з нішчымнай душою,
як колісь, калі ты пра гэта казаў...
Яму непатрэбны ні слава Пагоні,
ні бел-чырван-белы крывіцкі штандар.

Цяпер разумею Чарнобыля кару...
Хоць вый ваўкалакам, хоць каняй крычы...
Валошку тваю, Беларусь нашу мару,
вось-вось янычарскія скосяць мячы.

***

Па дарозе «Масква-Варшава» —
як не стала крывіцкіх месц...
І шляхетнае «Прошу пана»
закацілася аж у Клецк.

Па дарозе «з вараг у грэкі»,
па шляху на спякотны Крыт,
беларускія зніклі рэкі —
бо Даўгава мялей чым Дніпр...

На якім жа шляху-дарозе
мне Радзіму сваю шукаць,
каб я быў там «як суць па Бозе», —
як Скарына любіў казаць.

## Згадка

Раптам успомніцца мне Дараганава,
ліпень ахрыплы ад шоргату кос
і туманы, што над Пціччу тарпанамі
нізка ляцяць, не збіваючы рос.

Човен прычалены ў нетрах аеравых
і паплавок між глыбокіх нябёс...
Зорка з ракі у руках краснаперая —
сынава радасць з вясёлкаю слёз.

## Эскіз

На кульмане Свяцкага возера
свавольны чарцёжнік Вецер
гадзінай не надта позняю
алоўкам чароту крэсліць.

А потым уласны роспіс
спрабуе здаля разгледзець.
А вернецца — рухам злосным
сатрэ ўсё і зноўку крэсліць.

І так ад відна да ночы.
І так ад цяпла да стыні.
Аж покуль Зіма аднойчы
гатовы эскіз не прыме.

## Русалка

Апоўнач аголяцца мелі,
і выйдзе на бераг з расой
іграць на падводнай свірэлі
дзяўчына са срэбнай касой.

Бяроза зялёны свой вэлюм
апусціць над чыстай красой.
Да золку не сціхне свірэля
у срэбным дажджы валасоў.

Прыбліжуся — рыба фарэля
ледзь дыхае ў роснай траве...
Ды ціха гайдаецца вэлюм,
і з віру хтось кліча мяне.

## Сялява

У кальчузе са срэбных хваль
амазонкай былое славы
разлілася за сінедаль —
філіялам нябёс — Сялява.

Між аблокаў сівых віроў
раптам вынікне, бы сузор'е,
чарада залатых лінёў
і патухне ў глыбі прадоння.

Па касе, што вядзе на груд,
дзе стагоддзі сябе вартуюць,
дэфілюе заезджы люд,
чайкі з хвалямі спрэс фліртуюць...

На Сяляве схалявіць — грэх.
Што падсечка — то рыба-слова...
Лепш пад дождж, чым пад жончын смех
трапіць вечарам без улова.

***

У тэатры восеньскага лесу,
дзе няма ні сцэны, ні куліс,
Вецер рэпетуе з ранку п'есу
з мадэрновай назваю «Стрыптыз».

## Асенняе

Колькі ўслед ні крычы, ні галёкай —
Восень схільная скрозь да капрыз —
адашле залатыя аблокі
у працяглы заморскі круіз.

Стог над Сожам, як храм адмысловы,
на начлег больш не возьме Хрыстос,
гэты стог пад канвоем бусловым
адвязуць на апошні укос.

Хоць далёка яшчэ да марозаў, —
лета Бабіна — так неўспадзеў.
У зялёным падстрэшку бярозы
першы певень нясмела прапеў...

***

Стаю на цвінтарным ганку,
дзе неба ніжэй званіц,
— Францішак, Максім і Янка
прад Вамі схілёны ніц.

Ратуйце мяне ад свету,
дзе правіць вяслом Харон,
і цэлы Народ у Лету
вядзе за прывідны трон...

— Францішак, Максім і Янка, —
гартуйце крывіцкі дух.
Пустыя званы, а шклянкі —
да краю хаўтурнай скрухай.

Алтар у слядох ваўчыных...
А той стырнавы старэйшы
шпурляе у твар Айчыне
БІБЛЕЙСКІ ВЯНОК ТУТЭЙШЫХ.

## Паўночны пакой

Ад поўні рабай, як кавун, —
усходы страху...
У куце — камунальнай з трун —
чарнее шафа.

Фано — ашчэраным кітом —
мой сон глытае...
Асадка ў лёце над сталом —
стралой з Кітая.

Ад золата на пераплётах кніг —
магічнасць сцэны.
Бяссонніца. Натхнення міг —
агнём Геены.

***

Юнацтва лёгкае крыло
мне лёс пазычыў ненадоўга...
О, як мне хораша было
паміж зямлёй і домам Бога

лунаць прасветлаю душой
без надакучнай асцярогі
і быць шчаслівым, што знайшоў
пачатак зорнае дарогі.

Гадоў, як воблакаў сплыло —
больш не лятаю вольным птахам.
Юнацтва лёгкае крыло
жыццём заручанае з плахай.

## Чарнобыльскі год

***Красавік***

На ганкавым бетонным падуменце
забыты ў спешцы некім чаравік...
Як напамін няпомлівай планеце —
Дзень 26-ты. Месяц Красавік.

***Май***

У Бога ласкі болей не прасіце.
Бог — у душы, а не на небесі...
А двухгаловы бусел у зеніце —
праклён ці сімвал Белае Русі?!

***Брагінскі чэрвень***

Па чэзлым полі, па чорным лесе,
па пыльнай дарозе, па чуйнай шчацэ —
слязіна ці слова з нянаскае песні
пра сон Ларэлеі ў палескай рацэ...

***Бараўлянскі ліпень***

Да ліп духмяных ліпнуць пчолы...
Здзічэлы рой — салодкі сон.
Такі, як боль пасля уколу
медбрата з прозвішчам Харон.

***Малінаўскі жнівень***

Веткаўцы, свяцілаўцы, чачэрцы,
з Хойнікаў, з Нароўлі, з Астрагляд...
Землякі мае, мы — чарнаверцы.
Веру нашу выдае пагляд.

***Верасень***

Не верыцца і ўсё!
Вырaі не ведаюць звароту.
Птушкі адлятаюць па чарзе,
а не разам, і не назаўсёды...

***Кастрычнік***

Вецер — вольны восеньскі апрычнік —
золата спагнаць спрабуе з дрэў...
Ерэтык дэзактывацыі — Кастрычнік
самахоць у полымі згарэў.

***Лістапад***

Без пропускаў, віз і дазволаў
дарога вядзе на клады...
Сяржант з КПП пратаколам
засведчыў: Дзень трэці. Дзяды.

***Снежань***

Завеі ў снежні амаль такія,
як калісь Мележ убачыць змог...

Два «марадзёры» ў вазы пустыя
маўкліва грузяць сапрэлы стог.

***Студзень***

Тым днём, калі Бог нарадзіўся,
зязюля кувала ў бары...
— Стары ад бажніц заразіўся...
Казалі ж яму — не бяры.

***Люты***

На Прыпяці — прыдуха.
Амаль як кожны год.
Ляшчы, ўюны і Скруха
умерзла ў мёртвы лёд.

***Сакавік***

Прамяклых дахаў шыферныя крылы
на ветры з поўдня колькі ні сушы...
Узняцца ў неба зноў не хопіць сілы
забытай вёсцы ў прыпяцкай глушы.

***

*Максіму Багдановічу*

Ні спякотным поўднем лета,
ні ў асенні дзень дажджлівы
не трывожце сон Паэта—
ён у сне сваім шчаслівы...

Бо не ведае, не знае,
што ў забранай той краіне
на яго Пагоню зграю
нацкавалі — Вершнік гіне...

Што арнат залатарунны
тканай ім да скону мовы
разарвалі ўнукі-гуны,
і крывёй барвеюць словы:

БЕЛАРУСЬ, РАДЗІМА, ВОЛЯ!
— Спі, Страціме, на чужыне...
Не дай Бог табе юдолі
счужанець у роднай гліне.

## Гліняная імша

*Светлай памяці прабабулі Вольгі*

Ад пужання, уроку-ўлёку,
ад праступы, каб вогнік знік...
Ты шаптала над глінным глёкам,
загарнуўшы яго ў ручнік.

Тройчы дзьмула ў яго, а потым
адганяла ім духаў злых,
што мяне абвівалі потам,
адбіралі і зрок, і слых.

Я з таемных тваіх маленняў,
я з глінянай тваёй імшы
скраў пярынку твайго агменю,
скраў святлінку тваёй душы...

Ад пужання, уроку-ўлёку...
Беражы мяне, беражы.

## Каляды

З завейным кутасом
зіма не знойдзе зладу...
Мы зорку ў дом нясём.
Каляды — ёсць Каляды!

Казу з сабой вядзём—
хай будзе дом багаты.
Шчадроўніцу пяём.
Каляды — ёсць Каляды!

Цыганка з цыганом
і бусел — госць цыбаты
вітаюць кожны дом.
Каляды — ёсць Каляды!

Гарэліца з сальцом.
Без іх, якое свята?
І дзеўчына з хлапцом...
Каляды — ёсць Каляды!

Дарога. Зорны плёс.
Вясёлы рогат свата.
Царква. Алтар. Хрыстос.
Каляды — ёсць Каляды!

## Батлейка

Драўлянае рэха часоў Бэтлеема,
Драўляная памяць драўляных вякоў.
Драўляная зорка. Драўлянае неба.
Драўляная кроў з-пад драўляных цвікоў.

Драўлянага смеху драўляныя вусны,
Драўляныя словы з драўляных псалмоў.
Драўлянае шчасце, каханне, спакуса...
Драўляныя крылы, драўляны анёл.

Драўляныя крокі, драўляныя крыкі.
Драўляныя яслі, драўляны мароз.
Драўляныя слёзы драўлянай Марыі.
Драўляная Смерць і драўляны Хрыстос.

## Экспрэсія

Нехта на ўсходзе разліў кінавар...
Буда, Хрыстос ці Вішну?
І старажытны пергамент хмар
думкай біблейскай выспеў.

З самага дня залатых глыбінь
выніклі раптам словы:
— Не падмані, не ўкрадзі, не забі...
Тры. І з мяне дастаткова.

***

Вечар — сляпым Гамерам...
Човен на чорных хвалях.
Ноч у чаўне з памерлым —
Днём адплыве за далеч.

Так у жыцці бывае —
смерць і каханне побач.
Дзень без начы згарае.
Ноч апране жалобу...

Чорную ноч — дзень белы.
Смерць і жыццё з'ядналі.
Вечар — сляпым Гамерам.
Човен на чорных хвалях.

## Ці страшна?..

*Барысу Пятровічу*

Ці страшна жыць успамінам? —
Дзяцінства, Ігруша, Дзічкі.
— Страшней — дачакацца сына—
і ноч — без адзінай знічкі...

Ці страшна хадзіць па паветры?
Апоўнач вакно — магілай...
— Калі ты ў хаўрусе з ветрам,
не надта, бо маеш крылы.

Ці страшна душы без Храма?
Забудуць спытаць — адлучаць...
— Калі твая кроў — атрамант—
не страшна — крыху балюча.

## У музеі

Музыка музейнае цішы.
Смутак безнадзейнае душы.
З адзінотай келіх на дваіх...
Дзе такі прывідны навакольны свет.
Дзе такі уяўны незямны паэт.
Дзе ў пакоі цьмяным чуецца уздых...
Быццам «фортэ» «п'яну» занімае дых.
Дзе усё ахутаў дзьмухаўцовы дым...
Дзе ніхто не здзьмухне віфлеемскі пыл
з біbліі схаванай у шкляной труне...
Тут наканавана жыць і ўмерці мне.

***

Ні свечку, ні кветку, а кнігу
Паэту ў труну пакладзіце,
з якой ён да Бога паціху
па выстылых воблаках прыйдзе

І скажа: «Айцец мой нябёсны,
як самы бязлітасны крытык,
прымі, наканаваны лёсам,
мой сціплы духоўны нажытак»...

— Максім, у найвышняй гасподзе
«Вянок» твой яснеецца німбам.
А зерне, што спала ў народзе,
я веру — аднойчы узыдзе!

## Паэт

*Нілу Гілевічу*

Пры гэтым народзе,
пры гэтай уладзе
паэтаў народных
штурхаюць на здраду...

Паэтаў вялікіх,
чый век нескончоны,
змушаюць маліцца
на псеўдаіконы.

Віжуюць, не спяць
слугачы-янычары.
Драпежна рыпяць
валадарскія нары...

За кратамі песня.
Ды гэтага мала...
Няўжо уваскрэсне
забойца Купалы?

Пры гэтым народзе
з уладаю гэткай...
Як мала народных —
сапраўдных Паэтаў!

## Бяздомніца

*Данута Бічэль-Загнетава—*
*якая паэтка айчынная!*
*А. Сыс*

Ці ў вочы сляза запала,
ці намі сляпыя правяць?
Паэтку — якіх так мала —
Гасподы заўчас пазбавіць...

Паэты ж — нябёсаў дзеці.
Паэткі — каханкі Бога...
Іх крыўдзіць — цяжэй у свеце
няма ад граху такога.

Чаму ж ты маўчыш, Максіме? —
Збалелі чужынай крылы?
Сястры тваёй след з зазімін
вядзе да грудка Марылі...

Ці ў вочы сляза запала,
ці ў гэтай сляпой Айчыне
бяздомніцай болей стала?..
— Данута, нам Бог адчыніць!

## Сон

*Я хацеў бы памерці ў сне...*
М. Скобла

Калі сон — гэта смерць,
я хацеў бы заснуць
не надоўга — на паўстагоддзя...
Каб прачнуцца аднойчы і не зразумець —
дзе жыву — у якім народзе?

Мой народ быў — чарнобыльскі бусел, які
за балотам не бачыў свету...
Гэты — з роду буслоў, толькі стаў залатым,
як прарочыў калісь Паэта.

Вольны птах залаты
па-над вольнай зямлёй
з роднай песняй лунае ў згодзе...
Калі смерць — гэта сон, —
я памру маладым —
для тваіх, мой Народ, народзін!

## Сафія

У Полацку — на покуце Радзімы
цнатлівая і гордая стаіш...
Анёлаў пёркі — пухам тапалiным —
як вэлюм на раскрыленым крыжы.

Дзвіною залюбуешся пад вечар.
У небе заначуеш давідна...
І ў памяць пераселішся навечна,
сатканая з таемнага святла.

Сафія — крывічаначка-нявеста,
свой гонар ад чужынцаў беражы.
Глыбокіх у Дзвіне хапае месцаў..
І тоўстая вяроўка на крыжы.

***

Над Радзімаю — ноч Савы...
Цень драпежны упаў на пожні.
Хто адстоіць твае правы —
мой Народ — хіжых сіл заложнік?

Чуеш звон з тагасветных лёх? —
Пад Пагоні харугвы стала
бараніць, што нам зычыў Бог —
рацьад Вітаўта да Купалы...

Рана келіх хаўтурны піць
па Айчыне душой збалелай,
покуль небам скрозь ноч ляціць
Бусел — сцяг бел-чырвона-белы!

## Балада пра вясковага Ікара

Вясковы Ікар,
Акулінін Макар —
захмарны шукальнік хлеба...
Мой дальні сваяк —
летуценнік-штукар,
якіх нараджае неба.

Ён крыламі трызніў
з той самай пары,
як здолеў на дах залезці...
І стуль з-пад аблок,
з залатой вышыні
крычаў: — Я чакаю вецер!

Ён вецер чакаў.
І наіўна лічыў
яго ўладаром Сусвету...
Бо мала, — казаў ён, —
адных толькі крыл,
бо крылы — нішто без ветру.

Ды доўга яму
давялося чакаць.
Прайшло паўжыцця — не меней.

Хадзіць развучыўся — бо марыў лятаць,
як птах у глыбокім небе...

І ўсё ж прычакаў...
Небывалы Вятрун
у сне скалануў вёску.
Ды толькі нічога амаль не крануў —
так — вышчарбіў плот дошкай...

І знік нечакана,
пакінуўшы пыл
адзін на адзін з ноччу...
Назаўтра ж убачылі дзіўнае з дзіў
суседзяў-сяльчан вочы.

На месцы, дзе колісь «Ікараў дом»
(назваў нехта п'яны з дуру)
сто год прастаяў — зараз пуста было —
застаўся адзін падмурак...

Шукалі тры дні.
Толькі клёпку знайшлі
ад даху жытла Макара.
Ды бачылі: недзе высока плылі
абрысам сялібы хмары...

І нехта прамовіў:
— Святы быў Макар,

насіў за спіною крылы...
І вырас на колішнім котлішчы храм —
Храм Ветру нябеснай Сілы.

## Балада пра затопленае вядро

— Ну, глянь ты, куды мяне зноў завяла —
з гадамі дзяцінець Памяць...
Стаю на абрыве крутым Жарала,
лаўлю на «жыўца» з сябрамі.

Тут «з шосцікам дно» —
гэта значыць, ніхто
не змераў глыбінь віру.
Ды раптам з абрыву — у прорву вядро
і я ўслед за ім — гірай...

Я плаваць умеў,
яшчэ лепей ныраў,
ды д'яблавым «чорным вокам»
не марна той вір з рыбакоў хтось празваў,
і я ў ім — «блыха з падскокам»...

Крычалі сябры,
вар'яцела вада,
і я вар'яцеў ад страху.
Ды не за сябе — шкадаваў вядра,
бо новае — толькі з «мага»...

Казала ж бабуля: дайніцу бяры,
з іржой — ды для рыбы пойдзе...

А я не паслухаў. Крычалі сябры:
— Такога вядра не знойдзеш!

Мяне адкачалі пасля рыбакі.
Кіпела са злосці вока...
А я з таго дня Жарало ракі
абходзіў заўжды бокам.

Калі б — не дзяцінства,
Калі б — не вядро,
Калі б — не сляпое вока...
Калі б...
А па-іншаму й быць не магло.
Магло — без «блыхі з падскокам»...

## Балада пра незапаленую свечку

*Ахвярую Алесю Карнеенку*

Быў вечар калядны сатканы з завей...
Чаканне. Сябры. Стрэча.
Ды раптам пачуў я ў сабе:
У царкву — схадзі і пастаў свечку...

Якая царква? Я там вечнасць не быў.
Каляды. Святы вечар...
Ды голас знутры мяне зноў паўтарыў:
Пастаў у царкве свечку...

Я кінуў усё. Я паехаў у храм,
дзе ў Слова сплыла рэчка...
І свечку купіў і падаў жабракам,
хрысціўся і ставіў свечку.

Ды свечку маю нібы хтось патушыў—
ачахла ў душы вера?..
Шаптала бабуля мне: — Многа грашыў.
Хрысціся — спрабуй шчэ раз.

І я спрабаваў. На Міколы абраз
жагнаўся, як след тройчы...
Ды зноў маёй свечкі агеньчык пагас, —
і я апусціў вочы.

І я азірнуўся назад — у сябе...
Пустэльня. Афган. Горы.
І крыж мой адзіны — аптычны прыцэл,
і Бог мой — сухі порах...

Я плакаць хацеў. Ды ў воку сляза
застыла густым воскам...
Ды раптам пачуў я Архангелаў спеў,
і голас з вышынь боскі:

— Я доўга чакаў, але ты не ішоў.
Згарэў не адзін вечар...
Ты мог бы згубіцца — калі б не знайшоў
сягоння сваю свечку...

Не бойся. Пакайся і зноў запалі —
лягчэй на душы стане...
І тут я заплакаў — як плакаў, калі —
мне сэрца Афган раніў...

А свечка — яе я забыў запаліць, —
спяшаўся спаліць слёзы...
А свечка мая у нябёсах гарыць,
дзе зорак алтар боскі.

## Балада пра рыцара Здрады

Не ў патыліцу ветры дзьмуць —
дзьмуць скрозь сэрца...
Не для славы булат куюць —
дзеля смерці.

Кабыліца скрозь ноч ляціць —
зорны ядваб.
Чорны рыцар на ёй сядзіць —
рыцар здрады...

А за ім, перад ім, узбоч —
злая зграя...
І глыбей за магілу ноч —
па-над Краем.

Растапталі, змяшалі ў бруд —
жыта ў полі...
Ды маўчыць спахмурнелы люд —
знаць Юдоля.

Расчыняе слухмяна Храм
перад зграяй.
І ўязджае ў бажніцу Хам —
як у стайню...

Не ў патыліцу ветры дзьмуць —
дзьмуць скрозь сэрца...
Калі недзе булат куюць —
ён для смерці.

Сцеражыся, шалёны пёс, —
гніся нізка.
Срэбны вершнік ляціць наўпрост —
блізка-блізка...

## Балада пра кожнага першага

*У кожным аконцы— стронцый...*
М. Мятліцкі

*Кожны чацвёрты — мёртвы...*

Стронцый — у кожным аконцы — не верце.
Стронцый — у кожным сэрцы...
Мёртвы не кожны чацвёрты,
мёртвы з нас — кожны першы...

Смерць выбірае лепшых...
Няўжо пад Гасподнім змусам?
Гіне з нас кожны першы —
менее беларусаў.

Паміраем — як дні згараюць.
Паміраем — як гаснуць ночы.
Над шчаслівым калісьці Краем
белых крылаў не сочаць вочы...

Чорны бусел — як крыж з-пад хмары,
як пракляцце жывому роду.
Кожны першы — такую кару
Бог прыдумаў майму народу...

За бяспамяцтва, за бязвер'е,
за святую святыню — Мову

памiраць будзе кожны першы —
першы з тых, хто абразiў Слова...

За пакору, з якой маўклiва
Край на здзек аддаём чужынцу...
Кожны першы пайсцi павiнны—
за астатнiх усiх малiцца...

Бо не стронцый — страшней у сэрцы,
бо страшней — у душы Iуда...
Вось бы гэта — ды зразумець нам,
каб не ўмёрцi — застацца Людам!

***

Я шкадую пражыты дзень...
Не таму, што з чарговым годам
адчуваю сябе старэй —
ледзьве тыдзень калядны пройдзе.

Не таму, што раство маё
супадае з Раством Хрыстовым.
Проста нешта ў Сусвеце ёсць
не названае нават словам.

І жыццё — як няблізкі шлях...
Толькі ў роспачы разумею,
што наперадзе смерць і страх.
А аглядвацца я не ўмею.

## Іскрыпка

Так калісь цябе
называў мой дзед.
Іскрынка душы —
незаплеснелы хлеб.
Скарынка самоты.
Скарбонка для слёз.
Іскрыпка — скрыдло
незаплямленых кроз.
Драўляны жаўрук,
што прывык да пляча.
Пяшчотніца рук
скрыпача-крывіча.
Жарсцінка-усхліпачка,
стоены крык...
— За што ты, іскрыпачка,
любіш так смык?

## Журавель

Ты глядзіш улюбёна ў неба.
Ці цалуеш вядром ваду...
Што табе ад жыцця патрэбна?
Хто тваю зразумеў бяду?
Вышай стрэх цэлы дзень кружляеш,
толькі хочацца — вышай хмар.
Журавель, ты штоноч лятаеш
у палоне нязбытных мар.
Укапаны ў дзірван навечна.
Ты стаміўся з нудоты піць...
Журавель, паглядзі, старэча,
з райскіх даляў твой брат ляціць.

## Купіна

Колькі стрывала кпінаў
ад тых, хто аб яе спатыкаўся
кола яе давіла
падкова яе таптала
сонца яе паліла
дождж вастралёзы сек
купіна — гэта магіла
балотна-пустога рэха
купіна — скрозь пакутніца
купіна — міні-копка
дзік на яе не купіцца
бо купіна — горб чортаў
купіна — зялёная барадаўка
астыглай дрыгвы вулкан
курган мурашыны—
кротаўка—
падушка Вадзяніка.

## Раска

Зялёны падраснік азерца
задраны прыпол ракі
ажыўшае жабаў скерца
радзімкі з тваёй рукі
раска — не рада ветру
сябра ёй — жоўты жвір
раску не вабяць нетры
вораг ёй — юркі вір
раска — прывідны востраў
мрояў раёвых рой
раска — салютаў роскід
вадзяніковы строй
раска — русалчын вэлюм
азёрна-манетны двор
вохрава-акварэльны
люструнак бурштынін-зор.

## Човен

Чуллівы рачной пяшчотай
аблашчаны лавай хваль
ён мроіць чаіным лётам
закаханы у чужадаль
човен — адчайны адужнік ветру
начны прытулак ліпнёвых пчол
павек пасцелю віровых нетраў
не зменіць човен на мулкі дол
ён звечара знічак повен
а ранкам слязьмі лінёў
човен — сонца жалобны промень
човен — чорны рачны манах
палюбоўнік паўночны поўні
брат радзіміцкіх трун-карстаг.

## Сітнік

Пагрозны выгляд падводных вояў
здалеў разгледзець адзін ракітнік,
таму на бераг таропка выбег —
далей ад дзідаў, што выгнаў сітнік.
Тут сойм саміны са снамі ў сонме.
Для сома сітнік — рачны асіннік...
Абкруціць вусам камель у стоме
і спіць да ночы — варушыць сітнік.
Лілея млее — як плёс змялее,
хто вызваляцьме яе з няславы?..
Без страху выйдзе на бітву з Глеем
адважны рыцар рачной дзяржавы.
Усюдыісны віровы Пільнік.
Радыст «зялёных» — азёрны Сітнік.

## Нерат

Дзе твой зад, мабыць там, дзе перад...
Знаць не марна сярод людзей
кажуць: «Трапіў, ну, як у нерат» —
на ратунак няма надзей.
Твой лазова-драцяны верад
быў турмой акунёвых зграй.
Рак-турэмшчык дарэмна верыў,
што знайшоў тут жаданы рай...
У цябе не ўваходзяць двойчы.
Ты — бермудфіліял ракі...
Нораў твой згаладала-воўчы.
А віноўцы, што ты такі, —
рыбакі.

## Дзябла

Пэўна ёсць нешта ў ім ад д'ябла...
Яго сутнасць — схавана ў сецьь.
Дзед дзяўбе, нібы дзяцел, дзябла.
Дух ліпнёвы — на ўсю павець.
Дзябла — золак ад рос азяблы.
Дзябла — дзень, як змялелы Сож.
Дзябла — вечар ашчэрыў жабры —
акунём на рыбацкі нож...
Часам — дах ад дурной хмурыны.
Назаўсёды — аерны пах.
Патаемны азарт звярыны.
Рыбнаглядны дзіцячы страх.
З дзяблам, быццам з надзейным сябрам,
скрозь з уловам вяртаць дамоў...
Без яго — не злавіць і жабы —
нат на сподзе рыбацкіх сноў.

## Пачына

Плыткі човен з ракой лучыла.
Мазалямі смылела ў снах...
Падпаветны прамень — Пачына,
недасяжна-віровы страх.
Ты — драўляны плаўнік для лодкі.
Ты — крыло для маёй душы...
Пах аеравы, дух салодкі,
вадамер залатых вышынь.
Стан твой тонкі — амаль дзявочы.
Строй твой — ясеневы, густы.
Помніш поўню купальскай ночы,
што разбіла на яскі ты?
Не вяслом, а пачынай лёгкай
праўлю човен свайго жыцця...
Ці уздых, ці узмах высокі —
прага новага — адкрыцця!

## Лівень

Летні лівень спаймаў дзяўчо
у палон неспатольных ліній.
Па-мастацку абвёў плячо,
грудзі, клубы, бутон юргіні...
На ружовых пялёстках вуш
запаліў завушніцаў зоркі.
Лівень — ён не лянівец-муж —
лашчыць зранку да адвячорку...
Выцалоўвае кожны рух.
Выпрабоўвае ўсё на спотык...
Лівень — Вішну з мільёнам рук —
далікатны, як першадотык.
Лівень — знаўца найрайскіх зон
і гатовы разбіцца вобзем
за прызнанне, што толькі ён —
Дон Жуан да апошняй кроплі.

## Поўня

Белая як бяльмо на боскім воку
яна помніць сябе
вузкавокай японкай
я яе помню
рэшатам яек поўным
да Вялікдня сабраных бабуляй
ваўкалак яе помніць куляй
срэбнай смерцю
між чорных воч
поўня — блін на патэльні ночы
поўня — выпуклы пуп жаночы
поўня — выспа спакусных сноў
поўня — пудкі буслovы поплаў
не палохай яе і сам
не пужайся ніколі поўні —
помні: поўня паўночны Храм.

## Валун

Ад лядовых часін Калумб
для паўночных вятроў — калун
дубаволатавы кілун
заімшэлы авал — валун
валун — ад'еты валляк стагоддзяў
катаклізмаў мінулых зоб
семя, што самародзіць
самы мудры ў акрузе лоб
валун — вечнасці вольнанаёмнік
бокамлежачы мусіць жыць
ён самому сабе — ёсць помнік
гэты вечнанятленны Жыд
вынікаючы вонкі з ночы
новалунавы цвеліць цень
і ў час той нябоскі хоча
ён адужыць самую Смерць.

## Пастка

Да часу — tabula rasa
да ночы — пустое цела
пачостак для пасткі — мяса
знявага ёй — рэха стрэлу
пастка — спакусы пустка
пастка — сіло квадрата
пастка — пасцель Пракруста
скрозь помсціць за пост свой пастка
сабе яна — брыганцінай
хоць ветразь не ловіць вецер
а мне яна — гільяцінай —
мышынай машынай смерці.

## Стрэльба

Хросная маці ляснога рэха
двухмесны патронны трон
не гразіся ёй дзеля смеху
следам стрэльбе ступае Кон
бо ад стрэльбы — журба ласіхі
бо на стрэльбе — дзікова кроў
стрэльба — чортава прорва ліха
і Везувій людскіх грахоў
стрэльба — страх азвярэлы ворага
стрэльба — стрэл, што да часу спіць
стрэльба — тайная сувязь пораху
і агню, што прывык «лес біць»
стрэльба — гэта вясло Харона
развітальнай галеры кіль
шлагбаўм на шляху падзорным
зламанага лёсу кій.

## Загнет

Загон прыгонных чыгункоў
патэльняў — чорны парапет
цагляны трон дамавікоў —
стары парэпаны загнет
на загнеце збіраюцца з духам
перад тым, як пайсці ў агонь
глінны глечык, гаршчок і куфаль
і рахманы свісцёлак-конь
тут адвечару — дроў бярэмак
што крэміруюць акурат
як на досвітку знойдзе певень
дыямент у мільён карат
аб загнет на куццю б'юць кашу
ад загнета — настрой Каляд
кот падоўгу тут госцем важным
у чаканні мышыных свят
у загнета няма сакрэтаў
ні ад кога, бо ён і сам
як заўважыў адзін Паэта —
самы першы паганскі Храм.

## Услон

Ты стаяў ля стала спакон,
наструніўшы ў падлогу ногі.
Самы першы мой конь — услон,
што катаў мяне да знямогі.
На шырокай тваёй спіне
месца цэлай сям'і хапала.
На Пакровы — бліжэй к зіме
абрастаў свежыною з салам...
За суседскі вясельны стол
быў запрошаны званым госцем.
А хаўтуры-жалоба ў дом —
падстаўляў пад труну ты косці.
Я даўно гарадскі піжон...
Раз у год наязджаю ў вёску.
Толькі муляць дасюль, услон,
маю памяць тваіх дзве дошкі.

## Парог

Ад пачатку — пачатак. Бог,
што на кожнай зямной дарозе
папярочкі усклаў Парог —
крыж для ўсіх, хто спачыў у змозе.
На парозе Чужым — не грозяць.
За парогам сваім — не спяць...
У парозе — качэргаў шоргат,
што ля печы павек стаяць.
Аб парог спатыкнуцца — значыць
недажыцьмеш наступны год...
Сніць парог — прычакаць удачу.
Мыць парог — шанаваць свой Род.
Перад тым, як пакінуць хату,
па вяртанні з усіх дарог,
пакланіся яму, ён варты —
ён пачатак і скон — Парог.

## Зугаліна

Лета бабіна навальніцай
трызніць поўднем, што спёкай мгліцца...
Сцежка. Ровар. Зіхцеюць спіцы —
на багажніку — мех з ігліцай.
Для зугаліны — ад завеяў,
ад калядных вятроў і сцюжы.
Я — дашкольнік, а разумею —
без зугаліны хата — «нужнік»...
Эх, зугаліна! З лесу Сталіна.
«Петачкі» пад гармонь да раніцы.
Хата дзедава — як прыталена.
На зугаліне — лепш кахаецца...
Ані шышкі ў прыпол, ні шыгалі —
змураваны падмурак муліцца...
Скрозь зугаліну вёска дыхала.
Без яе — ссірацела вуліца.

## Страха

Саламяна-каляны дождж,
што застыў залатою лавай...
Хто снапы твае клаў пад нож,
хто раўняў для раўнівай славы?

Каб ні кроплі з густых залеў
не працекла пад промні крокваў,
каб сасмяглы ад спёкі хлеў
марна марыў пра меч «Прамоклаў»...

Пад страхою — кубло-гняздо.
Над страхою — анёл-прыўкраса.
У страсе — схоў старых нажоў...
Без страхі дом, як поп без расы.

На страху нападае жах
кожны раз, калі ў п'яным гневе
з-пад сякеры ляціць на дах —
вестуном перуновым — певень.

## Прымыльнік

Ты для лазні — надзейны тыльнік.
Твой начны кватарант кажан
называе цябе, Прымыльнік,
не іначай, як толькі — Пан.

Слупянеў ад красы дзявочай...
Чырванеў за мужчын не раз,
калі тыя на схіле ночы
ад бяссілля лупілі ў таз...

Бо на мулкіх палках кляновых
аж да раніцы — як заснуць?!
Водар венікаў б'е ў галовы,
запрашае ў раку нырнуць...

У прымыльніку добра п'ецца...
Піва куфаль — тут боскім дарам.
Мы прыходзім сюды раздзецца,
каб душу апрануць у пару.

## Цэбар*

Колькі ён пераслухаў плётак
на даўгім, як ланцуг, вяку
ад нястомных пляткарак-цётак,
ірвучы ім са злом руку...

Між вадой ледзяной і небам,
то ўгару, то з разгону ўніз,
абдзіраючы клёпак рэбры
у кароне з крыштальных пырск...

Цэбар — нібы вясковы Цэзар.
І улада яго — без меж...
Ён за поўняй нырае ў неба,
каб прасватаць яе — але ж...

Не пускае ланцуг на волю.
Круглы год — калаўрот нягод.
Бо сухім з-пад вады ніколі
не выходзіў пакуль што ён.

***На Веткаўшчыне — калодзежнае вядро**

## Путца*

Калі дарогі у шлях саб'юцца,
калі я хаце дам «пяць» дзвярыма —
успомняць пальцы старое путца,
якое лёсам прыкаўнярыла...
Цвікі і шворні, сукі і рогі
чаго не пхнулі яму ў прарэху.
А неяк разам, святыя многі,
мужчынскі гонар блюло для смеху...
Старыя путцы — так часта рвуцца
і не да часу, і не да месца.
Калі фанфары ў нябёсы мкнуцца, —
ад страху путца раптоўна рвецца,
і ад павагі да ганарліўца
амаль нічога не застаецца.
Але і путца свой гонар мае...
У гардэробе — персона грата.
Бо па адзенні нас сустракаюць...
Каўнер пры путцы — пры госці свята.
Лепш апынуцца зімой у пустцы,
чым у тэатры на пару з дамай
у палітоне з парваным путцам —
жыццё без сцэны падасца драмай.
Не распрануцца — не апрануцца...
Эх, путца-путца — ручная памяць.
Калі дарогі у шлях саб'юцца,—
трымай нас, путца, дзвюма рукамі!

*На Веткаўшчыне — прыкаўнерная вешалка

## Гужы

Гожая назва у іх — гужы...
Скажаш — і засмяешся.
Нібы з лаўжоў прыпаўзлі вужы,
леглі ў разорах грэцца...
Гуж у руках — падмануты муж.
Гуж разарваны — сварка.
Стомлены, потны ад працы гуж —
бульба, дакопкі, чарка.
Гожая назва — спрабуй, кажы —
рот без зубоў здаецца...
Памяць дзяцінства майго — гужы.
Памяць — яна не рвецца.

## Каханне

*Amori et dalori...**

Каханне — пакута.
Душою распнутай
між Пеклам і Раем лунаць...

Каханне — атрута.
Святы і аблудны
я выберу смерць, каб кахаць.

Каханне — як рудня,
дзе ў свята і ў будні
нам працай сябе катаваць.

Каханне — ёсць мудрасць,
якую Бог людзям
адкрыў, каб грахі дараваць.

***Кахай і пакутуй**

***

Мы не парушылі мяжы.
Цнатлівасць нас уратавала...
Ды заклінаю — не кажы
нікому слоў, што мне казала.

А вочы, нібы абразы,
самотай высвецяць пад вечар —
паўадзіноты, паўслязы
і паўкахання нашай стрэчы.

## Расколіна

Свет раскалоўся папалам.
Тут забыццё — каханне там.
Там дождж пяшчоты — тут няма.
Там лета сноў — а тут зіма.
Тут цішай стомлены пакой —
там смех сыноў і голас твой.
Тут пах вяргінь — там водар руж.
Там неба сінь — тут спод калюж.
Там цвіў агмень — тут галавешкі...
Свет раскалоўся. Крочу пешкі
да слёз народжаных з усмешкі.

## Возера самоты

На сонным золку сонца дакранецца
ласкавым промнем стомленых каханых.
І ноч растане ў мораку туманным,
а зорак ззянне ў росах адаб'ецца...

Вось так і я душой заўжды святлею,
калі цалуеш ты на развітанне.
І хоць Самоты возера глыбее —
не менее вады ў рацэ Кахання.

***

Сярод базальтавых прысад,
дзе вецер — злодзей у законе,
мне прыгадаўся твой пагляд —
дзве зоркі выстылых ад болю.

І покуль вецер «стрыг» лісты
з галін даверлівых таполяў,
дзве зоркі — кроплі яснаты —
з Учора падалі ў Ніколі.

***

Былое жарсці вулкан патухлы
на сподзе сэрца няўзнак ажыў...
«У імя Тройцы святога Духа» —
яму не стану казаць: — Амінь.

За вераснёвай ціснёнай скрухай
слязой зашклёны прысню пагляд...
Шапчу: — Кахаю, — табе на вуха,
нібы замову ад першых здрад.

***

Забудзься, як човен пяшчоты нас нёс
насустрач расчуленым хвалям...
Забудзься, як небам спакушаны плёс
сузор'яў дарыў нам каралі.

Не помні — ні поўні у пойме смугі,
ні крылаў купальскае ночы,
ні першай залевы валос на лугі,
ні сумам змялелыя вочы...

І нат, калі тыльную сутву душы
ахрыплая выстудзіць замяць.
Нікому нічога пра нас не кажы —
маўляў, блізарукая Памяць.

***

Не ўяўляю, як буду цябе забываць...
Забываць — выспу сноў чыстаганіць.
Забываць — як цвікамі труну забіваць,
што была для нас чоўнам Кахання.

Не ўяўляю, як буду цябе абмінаць.
Абмінаць — як злачынца ахвяру,
абмінаць — нібы соты у пчол адбіраць,
ці ў раллі перасмяглае — хмару.

Не ўяўляю, як буду — ці буду зусім
без цябе, маёй доннай лілеі,
без цябе — як аслеплы без вогнішча дым,
я да ранку дажыць не здалею...

***

Божа, як яна прыгожа
аддаваць умее вусны...
Да світанку плысці ложку
поймай сноў яе распусных.

У смузе прасцін адліжнай
ногі — лебедзі ў тумане...
Божа, як я ненавіджу
жарсці крык яе гартанны.

На мяжы з жыццярастаннем
не цалуюць так умела...
Божа, выратуй Каханнем
храм яе пустога цела.

## Я сумую ...

Я сумую па нас былых...
Па трымценні няўцерпных вуснаў,
па залеве валос тваіх,
над жаданнем маім распусным.

Я сумую па нас былых.
Па разынак ажыўшай плоці,
па абдымках, што п'юць уздых,
з языкамі ў агульным роце...

Я сумую па нас былых.
Па цунамі з лагуны ўлоння,
па світальных руках тваіх —
майго сонца патухлых промнях...

Я сумую па нас былых,
што шукалі ў граху патолі,
а знайшлі толькі яску — міг,
што не ўспыхне ізноў ніколі.

***

А помніш апошні з табой наш раман?..
Калі, нібы дзве брыганціны,
на рыфы кахання нас нёс ураган,
сарваўшы з сямейнай пуціны...

А помніш, як поўняй сукенка сплыла
да ног, і заплакала свечка...
І ты ад таго мне заўсёды была —
крылом незамкнёнага вечка...

А помніш, як потым купальскі туман
пачуццяў нястрымных Нямігу
да срэбнай расінкі ў падземны арган
забраў да жаданага мігу.

І я з той пары з асцярогай хаджу
улоннем знаёмым праспекту,
а раптам Нямігу ад сноў абуджу,
схаваную ў памяць-калектар.

## Ангіна

Я толькі паглядам адным саграшыў...
І гэты пагляд мой хвароба чакала.
Ты шыю — прыгожую вазу душы —
у шалік шарсцяны ад воч захавала.

Гваздзік адзіноты паспеў адзічэць,
яму пацалунка жыццё каштавала...
Табе папраўляцца, а мне разумець, —
як ты пачуццё ад зімы ўратавала.

***

Ільну няўтольнаю ракой
на бераг райскае Нірваны.
Калі любуюся табой —
жамчужынай на сподзе ванны...

Ад вохры хны у валасох
русалкай станеш на імгненне...
А ногі з рыбіным хвастом
ад воч схаваюцца у пене.

Хоць погляд грэшны адвяду —
ад хараства не адхрысціцца.
Цяпер я знаю — на бяду
царква затопленая сніцца...

## КВАДРА КАХАННЯ

### *Жанчына*

Навошта прывабіла Евіным сокам
з двух купалаў жарсці, што ззялі высока
на целе — царкве незямнога парока,
цвінтар якой спляжыла здрады асока?..

### *Пацалункі*

Грахоў за жыццё — непад'ёмныя клункі,
ды самы найпершы — ад Бога дарунак...
На памяці-лёдзе — як свежыя лункі,
той ночы Кахання — твае пацалункі.

### *Калені*

Ты сёння мяне параўнала з аленем,
што з жарсці ракі піў да ранку без лені...
Я ноч быў няўтольным, бо любай калені
былі берагамі той рэчкі без мелі.

### *Успамін*

Чырвонай масандрай з фужэра-каміна —
агонь.Твае ногі — кантактная міна,
што доўга шчэ будзе у снах-успамінах
маіх узрывацца світальнай гадзінай.

## Купанне

Ліпень ліпам завушніцы
меецца навесіць...
Уплялася ў промні сонцу
чаратамі Бесядзь.
У рацэ ў чым маці родзіць
ты са мной купаешся,
ластавак у зман уводзіш —
усміхаешся.

## Сон

Твой сон, як дождж у ліпені,
падманны.
Шкадуючы, балесна пакідаць
Світанкі, пералітыя ў туманы,
якія нам з табой не сустракаць...
Адрыне боль твая Перасцярога,
ламаючы даверу хісткі лёд,
спагады палахлівая пірога
затопіцца, —
і стомлены наўзброд
пайду ракой Халоднасці змялелай
туды, дзе рыскай тонкай
і нясмелай
зарэе вузкі і спакусны
жаданы Бераг тваіх вуснаў...

## Н…

Вочы,
бы калодзежы нішчымныя,
якія высахлі ў спякоту,
ілба готыка,
рэнесанс усмешкі —
былога Храма кахання рэшткі…
Мілая, —
любі,
люблю,
любіла, —
на колькі хапіла.
На колькі магла —
забыла.
Вочы
іншыя стрэчу аднойчы.
З тваіх не піць…
Каторы жнівень
трапляе лета ў люты лівень.

***

Паміж намі — возера ночы,
і у чорнай яго вадзе
пахаваў я свой грэх аднойчы
і ад Бога, і ад людзей...

Чым становішся ты мне бліжай,
тое возера ўсё глыбей.
І ўжо памяць — не плыт, а крыж мой,
што урос у прадонны глей.

Паміж намі — вакно нябыту.
Зазіраю ў яго ізноў.
І ўжо памяць — не крыж, а плыт мой,
што вяртае на выспу Сноў.

***

Калі ты запавольваеш рухі,
і туманіцца твой пагляд,
калі рэха нядаўняй скрухі
з нашым шчасцем гучыць няўлад.

Гэта значыць вайну кахання
нам Амур аб'явіў з табой.
Аж да раніцы, да світання
не заціхне наш шлюбны бой...

***

Дазваляла...
Адчуваючы безнадзейна,
што ў пачуццях нашых — інфляцыя...
Паступова цябе ад адзення,
нібы дрот ад ізаляцыі —
вызваляў...
Кароткім замыканнем
нас асляпіла ранне.

***

Віяланчэлі чую сола я...
Ты ўся такая голая,
саромная, спакусная.
Вугельчыкам на снезе
зіхціш у цемры вуснамі.

***

Не кажы мне нічога... Маўчы.
Гэта д'ябал падаўся нам Богам.
Пацалункам тваім на плячы
пачыналася ў пекла дарога...

Толькі марна да сходу начы
мы не спалі, занятыя севам...
Я ў табе не застаўся нічым —
ні ўспамінам, ні сынам, ні спевам.

Хоць табой свае сны засяліў,
ты прапісана ў іх незаконна...
Бо ў табе не застаўся нічым —
ні слязой, ні дачкой, ні праклёнам.

## Я чакаю …

Я чакаю, што ты аднойчы
ціха мовіш: — Я зноў твая...
І спатоліш мой смутак воўчы,
ад якога згараю я...

Я чакаю і ты чакаеш,
калі сам я сябе спалю.
Я чакаю, а ты знікаеш,
як сарваны лісток агню...

Я чакаю — як камень крэмня,
закаханы да забыцця.
Я чакаю — няхай дарэмна
мне чакаць яшчэ паўжыцця.

***

Жанчына на пляжы паўднёвым
з русявай касой на плячы.
Адкрытая сонечным промням
і прагным паглядам мужчын...

То мора — паркалевай хваляй,
то вецер — шаўковым крылом
пяшчотна цябе ахінаюць
на зайздрасць мясцовым багом.

Зайсці у ваду не спяшаешся —
русалка з палескіх лугоў...
Нібы перад здрадай вагаешся —
саромна чужых берагоў.

***

Усё часцей, усё часцей
між леных хваль льнянога плёса
два плывучкі тваіх грудзей,
бы леску, рвуць на часткі лёс мой.

Усё далей, усё далей
у ноч наш човен заплывае,
дзе два вяслы маіх надзей
ад хваль пяшчоты не хаваюць...

Усё глыбей, усё глыбей
пачуццяў вір, а водар целаў
амаль такі, як ад лілей,
што распусціліся нясмела...

## Наталлі

Навальнічная, юная, смелая...
З неслухмянай залевай кос.
За пяшчоту маю няўмелую
ты плаціла мне срэбрам слёз.

Вецер золкі той даўняй восені
нам кілімы з лісця сцяліў...
Асляплёны дагэтуль поўнямі
я цнатлівых грудзей тваіх.

Дабіблейскаю Еваю грэшнаю
ты выходзіш з паўночных сноў...
Мая самая-самая першая —
мара, песня, журба, любоў...

***

Мне сягоння зусім не спіцца...
Сэрца поўнае яснаты.
Два пярсцёнкі і завушніцы—
гэта ўсё ў чым адзета ты.

Пазірае раўніва поўня.
Вецер шыбу крануў рукой.
Хоча ён да твайго улоння
прытуліцца хаця б шчакой...

Бессаромна глядзіш мне ў вочы
прамаўляючы з хрыпліцой:
— Ты мяне распранаць не хочаш,
давядзецца ізноў самой...

Вось такой мне і будзеш сніцца,
як збяруцца у гай гады.
Два пярсцёнкі і завушніцы —
гэта ўсё ў чым адзета ты...

***

Каханнем скрозь паэт жыве...
Калі світальны сон змялее,
радзімкі ў зацемках калень
асвеціць белая лілея...

Каханнем скрозь жыве паэт.
Для Музы ён найперш — Муж-чына!
Старэй за ўвесь біблейскі свет
быў Евін грэх — жыцця прычына.

Бо цела — зваблівы кларнет,
яго прыгубіш — век пакутай.
Жанчыну выдумаў паэт,
каб граць на ёй і быць пачутым...

Калі вар'яцкі гэты свет
Шэкспір даб'е сваім пытаннем, —
каханнем выжыве паэт
і будзе вечна жыць каханнем!

## Першы пацалунак

Каханая, нам — па шаснаццаць год,
і першы пацалунак толькі сніцца...
На  Бесядзі шалее крыгаход,
а ў небе ружавее Мілавіца.

Каханая, калі гэта было?
Лічыць баюся, каб не памыліцца.
Вады — тры моры — з Бесядзі сплыло,
і трыццаць раз квітнелі медуніцы.

Чмялі чуллівасці да раніцы гулі,
і восы-слёзы ранілі балюча...
Якімі мы шчаслівымі былі!
Калі кахаеш — шчасце немінучасць.

Калі кахаеш — крылы ў падарунак
за ночы адваёваныя ў сну...
Каханая, твой першы пацалунак
зацьміў кахання першага вясну!

# Непрычалены човен

Ты камусьці патрэбны
на бацькоўскай зямлі...



## Рэквіем парэзанаму «Радну»

Хоць не калхідскае руно —
сатканае з суворых нітак —
ад прадзедаў спакон — Радно —
наш скарб духоўны і нажытак.

І гэты скарб на гвалт, на здзек
пусцілі кніжныя вандалы.
О, як пажадна рэзаў-сек
драпежны нож аб Волі мары...

Не ў кінавары, а ў крыві
лязо сталёвае кіпела...
На часткі — поўную Любві
душу, што ў вершы заляцела.

На прах паперны ў небыццё —
Каханне, Гонар, дух Максіма...
Дай Бог вам — доўгае жыццё,
сляпыя служкі Гільяціны!...

## Што ёсць Паэзія?

Што ёсць Паэзія? — Жыццё,
ці думак прах на тле паперным?
Господні Голас, Адкрыццё,
ці д'яблаў смутак апраметны?

Што ёсць паэзія? — Ныццё
душы на паперці жыццёвай?
Ці дабіблейскае быццё —
перадусімнасць сутвы Слова?

Што ёсць Паэзія? — Зліццё
Красы адвечнай і Паэта?
Ці ваўкалацкі лёс — выццё
над перакуленым Сусветам?

Што ёсць Паэзія? Што ёсць?

## Ave Maria

*Памяцi мацi*

Час прыйшоў за грахі вініцца...
Памяць паліць гады на тло.
Ды часцей стала мама сніцца —
не сама, а яе Святло.

Мне на гэта Святло маліцца —
покуль будзе мой шлях відзён...
— Мама, імя тваё свяціцца —
хай ад сёння — да скону дзён.

Гэта ж ты мяне нарадзіла.
Што змагла — то ў жыцці дала...
Ты і ёсць для мяне Радзіма.
Не прывыкну казаць — была.

## Па Нёмане на плыце

Чэрвень. Чэзлае сонца.
Цень ад вясла ў вадзе...
Шлях — як жыццё бясконцы
па Нёмане на плыце.

Ад звіслага вуса Усы —
паўз Прыстаньку, дзе калісь
дзядзька Якуб беларусаў
вучыў, як патрэбна жыць...

— Пад бел-чырван-белым сцягам
куды плывяце, хлапцы?
— З грэкаў плывем у варагі...
Напраўду? — Ай, малайцы!

## Паспець

За справамі, хатнім клопатам
спрабуем схаваць душу
ад неба, і Бог не ў попыце, —
як летняй парой кажух.

Збіраем, будуем, рупімся —
спяшаем кудысь паспець.
А чым за грахі адкупімся? —
з сабой не захопіш медзь...

Люстэрка па даўнім звычаі
схавае ад воч радня...
А што, як сябе бяскрылаю
убачыць у ім душа?..

## Патрэбны

Ты камусьці патрэбны
на бацькоўскай зямлі,
дзе біблейскія вербы
зоры ў кроны ўплялі.

Дзе ў нябёсах высокіх —
жураўлінавы шлях,
дзе начуюць анёлы
на царкоўных крыжах.

Ты камусьці патрэбны.
Ты патрэбны камусь...
Покуль моліцца небу
за цябе Беларусь.

## Трыпціх Слова

**I**

Слова — мой шлях да Бога.
Слова — мая дарога.
Слова — мой крыж жыццёвы.
Бог уваскрэс у Слове.

Слова і ёсць мне Богам —
небам, крыжом, дарогай...

**II**

Слёзы Хрыстовы — словы.
Словы — Хрыстова кроў.
Цвікамі ў далонях словы —
Бог — гэта Любоў...

**III**

Насенне Слова ў раллю душы
Бог шчыра сее — не саграшы...
І ў думным жыце
урэшце рэшт
Бог дасць — узыдзе
валошка-верш.

## Лебедзь

Лебедзь — у сінім небе.
Гэта прыйшла зіма.
Белай завеяй вецер
пух разадзьмуў з крыла...

І над цнатлівай Пціччу,
як багародны грэх,
лебедзь — тваім абліччам
кружыць біблейскі снег.

## Клямка

Клямка на брамцы дзяцінства майго —
так незаўважная плямка.
Як на марозе сарваная ў кроў
скура на вуснах ранка...

Клямка — язык паказны дзвярэй.
Клямка — далонь падворка.
Звычніца клянчыць і чым старэй —
тым адмысловей горка.

Клямцы паклёпнічаць не з рукі.
Клямка сама з паклёпу...
Колькі разоў да яе замкі
слалі сватоў без толку.

Клямка у сенцы і пад павець.
Клямка ў чужое шчасце...
Мара мужчыны — хутчэй займець
клямку жаночай жарсці...

## Вільчык

Хто з нас скокнуць не марыў з вільчыка
у дзяцінстве на пару з ветрам?..
Стуль, дзе певень стаяў за пільніка,
дзе хмяліла вінам паветра.

Падагнаны скрылём да скрыльчыка,
з клёпак злеплены ехаў дах,
як па строме страхі да вільчыка
я ішоў, прыручыўшы страх.

Мудры час усміхаўся ўмілена,
і крыло падстаўляў Анёл.
Мы раслі і ніжэлі вільчыкі,
і радніўся з блакітам дол.

Хутка сын з вышыні акрыленай
свой зрабіць паспрабуе крок...
Божа лётасны, не пакінь яго,
як Ікара, сярод аблок.

## Карчма

Як віно бурдзюка мяхі —
разрываюць мяне грахі...

І душа, што была царквой,
мая стала цяпер — карчмой.

А ў карчме ладзіць чорт імшу,
а ў карчме прадаюць душу.

Хто за срэбра, а хто за кроў,
хто Радзіму, а хто сяброў.

Нехта маці, а хтось жану,
нехта здраду, а хтось віну...

Бо няма у карчме ікон,
бо піўны у карчме амбон...

І святар — хітры чорт глухі —
адпускае віном грахі.

## Позна

Марна анёл-ахоўнік
мне надарваў рукаў —
міма царквы праходжу,
часу няма на Храм.

А у вязніцы-целе
стала душа старэць.
Б'ецца, як рыба ў пелі,
аб ледзяную цвердзь.

Ды за бязвер'я хмарай
сонца ёй не відно.
Позна аб крылах марыць —
цягнуць грахі на дно...

## Восень

Восень. Дажджы. Слата.
На скразняках Сусвету
выстыў птушыны шлях —
душ пералётнасветных.

Столькі у іх святла,
столькі тугі крылатай...
Зорыцца Млечны шлях,
нібы царква, на свята.

## Ношка

Я нясу на плячах сваіх цемру...
Бацька — мне, дзед — яму перадаў.
Гэта цемра — паўночнае неба,
і знутры — залатая яна.

## Сыс

Забылі Сыса — як забілі
Паэта у мулкай труне...
Забілі, забілі, забылі —
«І словы — вярыгі мае...»

Забылі Сыса — як любілі,
як вучні калісьці Хрыста.
Забілі, забілі, забылі —
«І выкрасліў Слова я...»

Забылі Сыса — як малілі:
— Не пі болей, Толя, — памрэш...
Забылі, забылі, забілі —
яго ненапісаны верш.

Забылі Сыса — як завылі
апоўнач за Гомлем ваўкі.
Забілі, забілі, забылі —
чые між аблок ветракі...

## Плашчаніца

*Барысу Пятровічу*

Мінуў той час, калі
сустрэўшы паміж ночы,
Анёл нам гаварыў:
— Жывіце — вочы ў вочы...

Гады, нібы плыты,
да плёса Лёс звалочыў,—
ды памяталі мы —
жыць трэба — вочы ў вочы.

І ў вечнасці на дне
праявіцца аднойчы,
як фрэска на радне —
два словы — вочы ў вочы...

## Выбар

*Раісе Баравіковай*

Такое кароткае лета...
Паспець бы прамовіць: — Кахаю!
А лёс нарадзіцца Паэткай —
Галгофа ў юдавым краі.

І толькі з мінулых вякоў,
якія нам больш не належаць,
параненым крыкам — дакор:
— Каханне альбо Незалежнасць?

Альбо — і нічога паміж,
і выбар амаль неадольны...
— Каханне... Каханне — мой крыж!
Хай іншыя выберуць Волю...

## Тут Зніч уваскрос…

*Галіне Дзягілевай*

У лёхах касцёла Сымона й Алены,
якім любаваўся калісьці Максім,
Драўляны алтар — паэтычную сцэну —
ахутаў біблейскага вогнішча дым.

У дыме тым — яблык надкушаны Евай,
і рэха літанняў і шоргат крыла...
І песні, ці лепей сказаць — песняспевы —
гучаць, як найвышняму Пану хвала.

Тут светла ад свечак — ды не з жырандоляў.
Тут светла ад свечак, што ў душах гарацць...
Тут Зніч уваскрос — нашай марай аб Волі,
якой ні разбіць, ні спыніць, ні стрымаць!

## Спакон

Спакон у славянскім жыце
валтузіліся між сабой
Расія-імператрыца
і польскі галган-кароль.

Пры іх ад цямна да ранку
са свечкай на ўсіх вятрах
Радзіма мая — сялянкай
стаяла у галавах...

## Датуль

Датуль Беларусь не згіне,
не кане ў нябыце-сне, —
— пакуль у нябеснай сіні
заступніца-Еўфрасіння
моліцца за яе.

## Жыве!

На парозе тысячагоддзяў,
не скароная ліхаўне,
у Храме — сваім Народзе —
як спакон — Беларусь жыве!

## Спяшайма жыць!

*Міхасю Скоблу*

Па дарозе з Гомеля на Менск
у лісцёвым залатым тунэлі
хуткасць набывае новы сэнс,
нібы штрых на свежай акварэлі.

Восень, што скалела ад вятроў,
восень, што азябла ад туманаў,
просіцца ў нагрэтае аўто,
нібы прыдарожная путана...

Восень пашкадуем — так і быць,
бо і самі сёння — пілігрымы.
Між аблок стралой анёл ляціць, —
ледзьве паспявае за машынай...

## Мова

Выплачу вочы ў снах.
Высушу крыўдай слёзы.
Мова мая — сасна
паміж Нямкамі й Гомлем.

Прыйдзе паэт-юнак
і без якой прычыны
з сэрца яе няўзнак
стане шчапаць лучыну.

Потым сівы скрыпач
скрыпку з душы дастане,
ды заіграе так —
вусцішна ў свеце стане.

Ну, а сляпы святар
свечку з крыві-жывіцы
ставіцьме на алтар,
каб на святло маліцца.

Як пералётны птах,
шлях на Радзіму помню, —
покуль шуміць сасна
паміж Нямкамі й Гомлем.

## Прарок

Ці быў прарок
у тых, каго няма...
Калі і быў —
даўно паспеў знябыцца.

Бажок тутэйшы
з зорнага сяйва,
нібы з латка,
гандлюе Мілавіцай.

Няма Народа
і мяне няма...

Над пляцам Волі
ў свастыку з сярпа
спрабуе маладзік
перарадзіцца.

## Прыцягненне

Я — серабро. Ты — золата. Павек
не паяднаць нам нашыя стыхіі.
Як срэбра Беларусі — слёзы рэк
з крывёй чачэнскай — золатам Расіі.

Я — серабро. Ты — золата. Наноў
не пераплавіць лёсаў нам ніколі.
Мой срэбны боль — з імперскіх кайданоў,
твой — залаты, ён выкаваны з Волі.

Я — серабро. Ты — золата. Чаму ж
між намі незямное прыцягненне...
Такое — як кахае жонку муж,
бы месяц сонца — да жыццязацьмення.

## Азаімія

Прылягуць вятры
між азяблых аблок,
а за імі й я прылягу...
*Азаімія* —
заінелы радок,
што з завейнага вынік ранку.

*Азаімія* —
сноў зазіміны.
*Азаімія* —
снегаспеў.
*Азаімія* —
даль задымлена
і зазімлена неўспадзеў.

Прачнуцца вятры
і здзівяцца,
а за імі й я — услед.
*Азаімія* —
песня зімняя,
мной прыдуманы вершасвет.

## Жыццё і Смерць

Смерць за Жыццём штодзень
блукае неадступна, —
як надакучны цень,
як неадольны смутак.

Жыццё на Смерць глядзець
стамілася ў маркоце...
Жыццё — мацней за Смерць,
І Смерць за гэта помсціць.

## Закахацца

Закахацца, як — у пятнаццаць,
не зважаючы на узрост!
І да раніцы цалавацца,
з салаўём раздзяліўшы плёс.

Закахацца, бы ў неба ўзняцца,
Млечным шляхам блукаць між зор.
І да раніцы абдымацца,
як з натуршчыцай Сальвадор...

Закахацца, як у юнацтве,
я наўрад ці ўжо змагу...
Бо каханне лічу за працу,
а калісьці лічыў за цуд!

## Нічога

Паміж намі нічога няма.
Ні кахання, ні здрады — нічога.
І завея — як цень ад крыла
херувіма — пасланніка Бога.

Ён у нашыя сны заляцеў
і прымусіў паверыць дазвання,
што як хваля на ціхай вадзе,
узнікае з нічога Каханне.

## Здрада

Вясновы настрой — яснасловы.
Знаёмку ў кавярні сустрэў...
І нейкі матыў выпадковы
у сэрца няўзнак заляцеў.

Ліліся, як музыка, словы,
ды вось жа знаёмку сустрэў,
і стала падобным на ловы
жыццё з пачуццём напавер.

На ноце узнёсла-фальшывай
загнаная ў пастку душа
спаймала сябе і зламіла
у сэрцы стралу ледзяша...

## Жанчына

Жанчына — сасуд без дна...
Дакладней — Сусвет сусветаў.
Сам Бог у яго віна
наліў, каб натхняць паэтаў.

Заблудзяцца ночы ў днях
у пошуках апахмелкі...
Жанчына — сасуд без дна
для тых, хто душой нямелкі.

Камусьці — фрагмент рабра,
узноўлены клон Адама...
А мне — акіян святла —
Каханая, Муза, Мама.

## Рай

Райскае дрэва
вецер гайдаў...
Ты — мая Ева.
Я — твой Адам.

Хто нас спакусіў —
цяжка сказаць.
Змей нам не схлусіў —
шчасце кахаць.

## Каханне

*Наталлі*

Сем тысяч начэй —
я спаў ля тваіх вачэй.

Сем тысяч начэй —
я дыхаў тваім дыханнем.

Сем тысяч начэй —
нам месяц свяціў ярчэй...

Сем тысяч начэй —
Кахання.

## Матылёк

Твая душа — як матылёк, —
трымціць у сне перадсвітальным.
Баюся дыхаць — каб пылок
не здзьмуць з павекаў —
крыл астральных...

## Натхненне

Як цеціва, страла і лук,
як з ноты вызвалены гук,
як палімпсеста тайнадрук,
як варажба цыганскіх рук,
якаралля і гостры плуг,
як жырандоля і жаўрук —
Натхненне.

## Класіка

— Мой родны ліфт, як ты мне мілы...—
шапчу, вярнуўшыся з дарог.
Паэтам дадзеныя крылы,
іх выбірае з лепшых Бог.

У неба месячных падстрэшках,
як вераб'і, анёлы спяць...
Пакуль паэты пішуць вершы —
паэтам дадзена лятаць!

## Сон

Хлопчык, што бяжыць па вадзе,
часта ў снах з'яўляецца мне.

Не ўсвядомлю ў сне я ніяк —
як ён гэта робіць, дзівак.

Пырскамі вясёлкавы дым
вырастае следам за ім.

І куды ён столькі гадоў
па рацэ бяжыць маіх сноў?..

## Покуль ляцім…

*І. І. Думанскай*

Хтосьці вып 'е з нас келіх поўны,
хтось — палову, як дасць Гасподзь...
Пад нябёсаузнёслым Словам
не жагнаюцца мімаходзь.

Тое Слова было ў Максіма —
як заклён, як святы зарок.
Каб мы ў сэрцах сваіх насілі,
бы ружанец — яго «Вянок».

Каб забылі пра звадкі-спрэчкі,
а пагляды зліліся ў сінь,
дзе Страцім вартавацьме вечнасць, —
покуль мы да яго ляцім...

## Непрычалены човен

Ліс, што мкнецца па следзе.
Кроў, што б'ецца у скронь.
Непрыручаны вецер.
Нехрышчоны агонь.

Поўні жоўтая свечка.
Дух заюшаны ў комін.
Незавершаны вечар.
Непрычалены човен.

## Дом

З яснага неба гром —
позняе адкрыццё:
Мама — мой першы дом,
хлеб мой, вада, жыццё.

Колькі пасля было
розных кутоў, хацін, —
толькі — найродны той —
матчын — з усіх адзін.

Сэрца спаліў крыжом,
ды адмаліць не змог...
Маму — мой першы дом —
сёння пільнуе Бог.

## Анёл-Страцім

Мне прысніўся Максім Багдановіч —
беларускі Анёл-Страцім
у біблейскім вянку цярновым,
у пражылках густых крыві...

Мовіў ён, і паўночны вецер
яго словы між хмар разнёс:
— Ні на тым, ні на гэтым свеце
не лічыце валошак-слёз,

не чытайце чужыя пісьмы,
*не давайце святыні псам...*
І растаў у нябеснай высі,
там, дзе ззялі сляды Хрыста.

## Як вярнуць?..

Я забыў, як маліцца Слову...
Для паэта ж маўчанне — грэх.
І Гасподзь над душой ахову
адазваў да нябесных стрэх.

І зрабіўся мне свет нямілым,
нібы д'яблу прадаў душу.
Прамяняў на машыну — крылы,
Млечны шлях — на змяю-шашу.

Як успомніць з малітвы словы?
Як набыць адабраны рай?
Як вярнуць над душой ахову,
крылам — згублены небакрай?..

## Балада сустрэчы з Купалам

*А хто там ідзе?*
Янка Купала

Па лістоце апалай
дождж сляпы церусіў.
Я прыйшоў да Купалы —
даравання прасіць.

Даравання за тое,
што дагэтуль адказ
на пытанне святое —
рытарычны аванс.

Бо няма Беларусаў —
колькі іх не шукай,
тых, хто пойдзе хаўрусам
бараніць родны Край

ад ганебнага змусу,
ад чужога ярма...
Нас няма, беларусы!
Не было і няма!

У правалінах твару,
там, дзе вочы цвілі, —
спахмурнелыя хмары
задуменна плылі.

Воч не стала ў Купалы
ці не хоча глядзець
на нашчадкаў-вандалаў —
тых, хто сёння ідзе...

Па лістоце апалай
дождж аслеплы блукаў...
Я прыйшоў да Купалы —
ён мяне не чакаў.

## Балада пра Краіну-мару

Мы, беларусы, — заўжды гатовы
снапамі класці свае галовы.
Было спакон так і гэтак будзе —
такі народ мы, такія людзі.

Наш час спыніўся між дзвюх Нямігаў,
дзе кроў і сёння стаіць па грудзі...
Мы, беларусы, народ ад ліха,
ад Бога — толькі святыя людзі.

Яны былі ў нас, былі і будуць —
Рагнеда, Янка, Максім, Ларыса...
Мы, беларусы, — народ аблудны —
сваёй радзінай не ганарымся.

У нашых душах гуляе вецер...
Каму мы служым? Чые мы дзеці?
На храмах нашых маўчаць званіцы.
Нямая вера — як нам маліцца?

Як даравання прасіць у Бога,
каб Ён вярнуў нам сябе самога.
Хрыстос калісьці хадзіў між намі...
Мы, беларусы, — Яго прагналі.

З нас, беларусаў, яшчэ спытаюць —
за лёс Страціма, за сімвал Краю.
Чаму у сэрцы з такім адчаем
нас б'е Пагоня — сячэ мячамі...

Мо, Беларусы, мы — янычары?

Чацвёрты кожны з нас стаў зямлёю...
Чарнобыль чыніць над намі кару,
Мы, беларусы, сваёй крывёю
сабе здабудзем Краіну-мару.

Краіну-мару, дзе мы ўваскрэснем —
як сонца з хмары, як мова — з песні.
Краіну-мару сабе здабудзем
мы, Беларусы. Мы — ёсць! Мы — будзем!

# Малітва воч

Каб сустрэцца з паглядам Бога,
углядзіся ў сябе самога...



## Пачатак

На маланкавы кій у высі,
як манах, абапёрся страх...
У глыбінях нябёс згубіўся
Страцім-лебедзь — біблейскі птах.

А сусвет, як алтар, свяціўся,
глухлі гукі ў начной цішы.
Бог самому сабе маліўся
за ратунак сляпой душы.

Абуджала зямлю прадвесне,
прачыналася маладосць...
А вярнулася толькі Песня,
як пачатак таго, што ёсць.

## Дарога ў рай

З навагодняга перадзім'я,
проста з казкі, з калядных сноў
ты з'явілася, як багіня,
і сказала: «Я ёсць Любоў».

І грахоўны, нібыта Каін,
я глядзеў на цябе скрозь сон,
і біблейскія бачыў далі,
і руно, што шукаў Ясон...

Песню песняў табе складаў я
сорак доўгіх, халодных зім.
Наўзамен ты душу ў Граалі
падала мне, сказаўшы: «Пі!»...

Я забыўся адкуль і хто я,
мне адкрыўся анёльскі край,
бо нарэшце спазнаў якое —
пачуццё па дарозе ў рай...

## Нестае…

Мне твае нестае рукі
і у песнях гартаннай высі.
Нашы лёсы, як дзве ракі,
што ў адзін вадаспад зліліся.

На хвіліну, на плыткі міг,
як зліваюцца Бога слёзы...
Як жа мне нестае тваіх —
воч — нявыплаканых нябёсаў.

## На адлегласці

На адлегласць вясла
паміж намі Дзісна...
Мы з табою —
дзве супрацьлегласці.

На адлегласць крыла
паміж намі скала.
Мы з табою —
дзве непазбегласці.

На адлегласці сну
мы згубілі вясну.
Мы кахаем з табой
на адлегласці.

## Музыка

У сон мой штоночы вяртаюцца гукі,
што колісь даўно засялялі пакой.
Як чайкі галодныя, кружацца рукі
над скрыпкай, нібы над світальнай ракой.

Было чысціні аднаму — аж замнога,
і музыка Вердзі і чайкі ўначы...
І болей у цэлым Сусвеце нічога,
акром сумнай скрыпкі на боскім плячы.

## Паганіні

Вочы майстра — сляпыя пальцы —
па вяках пракладаюць шлях.
Ды чамусьці аб струны раніцца
да крыві найчасцей душа.

Як самому з сабою справіцца?
Па анёлу на дзве рукі...
Калі пальцы, як свечкі, плавяцца —
слёзы просяцца ў жабракі.

Падпілоўвала здрада хіжая,
падпільноўвала кожны крок...
Тройчы ўмёршы, ніхто не выжыў шчэ,
нават Бог. Паганіні змог.

## Услед

Неба ноччу — зыбучае золата —
так і смокча маю душу...
Не ўратуюся кавай молатай,
вершагрэшнік — зноў саграшу.

У імгненне паўночнай вусцішы,
калі з неба анёл глядзіць,
адпускаю душу-распусніцу
мілажаласціну прасіць...

Словаблудная, несуцешная,
будзе плакаць душа і пець,
і у рай — на святло бязмежнае —
за анёлам услед ляцець.

## Лета

Стамлёным касцом у лузе
ля вогнішча цень змарыўся.
Воз сена на мокрым пузе
паўзе па начным гасцінцы.

Прасцяг апусцеў дазвання —
ні шолаху ў ім, ні зыку.
І раптам — як гімн каханню —
гартаннае рэха крыку.

На хмары духмянай сена
каханкі дасталі зорак...
І там — на краі Сусвету —
заснулі, як два анёлы.

## Мара

Патануць у адрыне з сенам
і пражыць там да ста гадоў...
Размаўляць пра жыццё з Верленам,
маладое п'ючы віно.

Прачынацца у іншым свеце —
хоць на поўні — там лепш за ўсё...
І сыры на сняданак есці,
маладое п'ючы віно.

Не вяртацца на ноч дадому.
Жабраку падарыць мільён...
Вершы Богу чытаць з амбона,
як калісьці любіў Війён...

## Стрэл

Бы снег у снежні —
баюся жыць...
Лятуць алені,
а стрэл маўчыць.

Знікаюць рогі
за небасхіл.
Блакітнавокі
глыбее вір.

Душу, як камень,
гукае дно...
Так помсціць памяць.
Так плача Бог.

## Арда

*Вользе Іпатавай*

У чужынцаў — звычка такая —
за сабою паліць масты.
Як разгублена вол рыкае,
як дрыжаць між павекаў ксты...

А дымы над бязмежным краем
працінаюць стрэл спічакі...
Гэта Бог за грахі карае
вузкавокі, як крымчакі.

Твар Іуды між хмар лунае,
упіліся ў душу цвікі.
Сонца-шчыт у руках Мамая
не заходзіць аж тры вякі...

Не змазолелі ў кроў калені,
не прадалі душу ў ярмо.
Спакон веку свабоду мелі
і сягоння не аддамо!

## Праклён

Ані сцягу ў цябе, ні герба...
Як, скажы, мне цябе пазнаць?
Па буслах у глыбокім небе,
па чарнобыльскіх хутарах?..

Нават Бог ад цябе адрокся
і сышоў за Дняпром услед...
Азірнуся ў сябе — там восень,
як павешаны інсургент.

Там шалее ўсю ноч залева,
жалуды, нібы град, звіняць.
Прытуліўшы жыццё да дрэва,
касінеры пад дубам спяць.

Ані сцягу у іх, ні герба,
ані Бога у іх, ні неба,
толькі восеньскі мёртвы сон...

Беларусь — гэта твой праклён!..

## Новы шлях

Дзень, як снег, што ўначы прысніўся,
а на золку ў вакне відзён...
Пагаліўся — як павініўся
перад плоймай наступных дзён.

А зіма замяла дарогі,
апусціўшы нябёс прасцяг,
ды за ноч падраслі парогі,
і згубіўся знаёмы шлях.

У жыццё, бы ў сумёт, зарыўся —
ажно бела з жуды ў вачах...
Пагаліўся — лепш памаліўся б,
выбіраючы новы шлях.

## Ніцма

Перад лікам
святой бажніцы
кленчу ніцма,
Айца малю:
— Божа літасны,
до гнявіцца...
Жыватворнаю
Плашчаніцай
ахіні
Беларусь
маю.

## Ткачы

*І тчэ забыўшыся рука...*
М. Багдановіч

Пакліканыя Голасам з вышынь
на месячным развесненым утоку
ткуць словы закаханыя ткачы,
каб Той, хто клікаў — радваўся звысоку.

Літую нітку з срэбраных аблок
снуюць у кроў параненыя рукі,
ды ні адзін прымусіць з іх не змог
душу адмовіцца ад рабскае прынукі...

І тчэцца верш з чырвонага радка,
як шлях-рушнік да боскага парога...
І тчэцца боль — ад церняў да «Вянка».
І тчэцца Бог... Дакладней — вера ў Бога.

## Кактэбель

Мора ў палоне гор.
Сонца ў аблозе хмар.
Звонкіх цыкадаў хор.
Мліва спакусных мар.

Шэпт закаханых хваль.
Перліна ззяе з дна.
У Карадаг-грааль
Бог нацадзіў віна...

Пра вінаградны хмель
вуснаў тваіх пішу...
Залатабрамскі цень
пазалаціў душу.

## Максіміляну Валошыну

*Бессонница. Гомер. Тугие паруса.*
*Я список кораблей прочел до середины...*
Восіп Мандэльштам

Высока жыў, у неба улюбёны,
паэт, мастак, бадзяга-пілігрым...
Аблокі, як самотныя анёлы,
схіліліся над профілем тваім.

На дом-каўчэг то бела, то чырвона
за валам вал накочваў хвалі час.
На брудэршафт п'ючы з самім Харонам,
не проста узысці на Мон Парнас.

Што Мон Парнас? На Карадаг хімерны
бяскрыламу сцягу не пратаптаць.
Спіс караблёў, пазычаны ў Гамера,
да кропкі памінальнай дачытаць...

## Сердалікавы ранак

Палову спякотнага паўднёвага ранку
змарнаваў на сердалікавых прыісках.
Седзячы на мулкім узмежку прыбоя,
старанна прасейваў скрозь пальцы
размаітае пясчанае мліва
у надзеі знайсці хоць адзін
сонечны каменьчык.
Марна.
Увесь свой «залаты запас»
мора калісьці без шкадавання
падарыла Максіму з Клавай,
бо яны былі
закаханыя...

## Ерась

У непрагляднай цемрадзі Сусвету
жыў-быў Гасподзь і ўсе, хто перад ім:
філосафы, вандроўнікі, паэты
і вечны Зніч, і хуткаплынны дым...

Жыў Ной, не прадчуваючы патопу,
Марыя, што любіла галубоў...
Максім, не абцяжараны хваробай,
старая Смерць і юная Любоў.

Яны жылі, яны шукалі шчасця
хто на крыжы, а хто у шалашы, —
цвікамі працінаючы запясці
для пірсінгу не цела, а душы...

У непрагляднай цемрадзі Сусвету,
у непраходнай памяці-глушы.

## Саракавіны

*Светлай памяці цёткі Тацяны*

Як ты любіла рэчку!
Вось і заснула ў ёй...
Перацякае ў вечнасць
Бесядзь тваёй душой.

Перацякае ў слёзы
тых, хто цябе любіў.
Як жа сцюдзёна ў восень
спаць у рачной глыбі...

На плашчаніцу плёсу
барвы губляе клён.
Сохне пачына лёсу.
Плача ў чаўне Харон.

## Рэха

«На дне світання
дрэмле сонца дня...»
Сцвярджаў калісьці
словабог Ду Фу.

«На дне кахання», —
трызню рэхам я,
а што на дне —
успомніць не магу.

## Сняжынка і вятрак

Кропля горкая, як слязіна,
кропля лёгкая, як душа,
дажыла да часіны зімняй,
каб сняжынкаю стаць няўзнак.

То напэўна жыццёвы вырак,
або нейкі таемны знак,
апрануўшы ў завею крылы,
над жарствой узляцеў вятрак.

Раздзіраючы неба скрыпам,
засяваючы страхам дол,
не ляцеў, а па хмарах клыпаў,
як знямоглы стары анёл.

Як сляпы звар'яцелы рыцар
на шляху з летуценных мар...
А з зямлі выглядала — быццам
заблудзіўся ў начы Ікар.

## Грэшнік

Хай за гэта мяне караюць,
хай за праўду распнуць, і ўсё ж —
заміж крыжа ў душы хаваю,
як Варава, халодны нож.

Абвіла, як змяя, дарога,
дні згарчэлі на лебяду.
Не з крыжом, а з нажом да Бога
на паклон у царкву іду...

Крыж — у Бога, а нож — у Смерці,
а душа — у мяне баліць.
Як жагнаюся, дык у сэрцы
крыж аб нож серабром звініць.

## У Кракаве

У сэрцы каменным Вавеля,
дзе спіць паспаліты час, —
імшу па спачылых правілі,
нібы адпявалі нас.

Нібы адпявалі вольніцу,
што колісь у нас была.
На кожнай труне па конніку —
цярэбіць крывіцкі шлях...

Ад славы былой Ягайлавай
да Слова, што сніць Адам...
Пагоня б'е ў сэрца Вавелю,
а душы крывавіць нам!

## Паэзія

Не хлебам, а небам
паэты жывуць...
Ім пёры анёлы
з аблокаў скубуць.

Яны тыя пёры
макаюць у кроў...
І д'яблу душу
прадаюць... за Любоў!

## Настальгія

Убачу цябе, і імгненна
балець галава пачынае...
З душы, як з майстэрні Гагена,
выходзіць журба маладая.

Ты вусны сціскаеш манерна,
у поглядзе сум тэатральны.
Я думаў — каханне памерла,
яно ж затаіла дыханне...

## Ластаўка

Ці то Вялікдзень, ці Раства,
ці проста дзень будзённы, шэры —
паэтаў вабіць Хараство,
як матылькоў — святло Венеры.

І я адчуў, як ува мне
настрой прачнуўся элегічны,
як з Вашых вуснаў слова «не»
зляцела ластаўкай арфічнай.

І крылы склала за радком
мной ненапісанага верша, —
пацалаванаю крадком
радзімкай з Вашае усмешкі...

## Каханне

Сляпы, як Гамер перад Словам,
Бетховен — у скрыпце маўчання, —
я слепнуць і глухнуць гатовы,
згадаўшы цябе, — ад Кахання.

Тады і жыву пераважна,
хай гэта гучыць ерэтычна, —
калі з глыбіні далікажнай
п'ю чысты твой голас крынічны.

Не п'ю, а па кроплі смакую
і, як ад прычасця, хмялею.
І кожны уздых твой цалую,
як лебедзь начную лілею.

## Дараванне

Стаючы паміж дзвюх дарогаў,
выбіраю не рай, а грэх.
Я прашу даравання ў Бога, —
толькі бачу вочы твае...

Ночы ў сноў адняла трывога,
перарваўся анёльскі спеў.
Я прашу даравання ў Бога, —
толькі бачу вусны твае...

Праклінаючы ў думках злога,
у пустой, як душа, царкве
я прашу даравання ў Бога, —
толькі бачу грудзі твае...

Прынікаючы да нічога,
у сляпой, як сусвет, журбе
я прашу даравання ў Бога, —
я прашу дараваць цябе...

## Здрада?..

Паўднёвае сонца — віном...
А там дзе віно — там спакуса.
Пажар з глыбіні залатой
агнём аблізаў твае вусны.

Бы сэрца маё апаліў
сам д'ябал атручаным трункам.
Я з келіха сонца адпіў
са смакам твайго пацалунка...

Са смакам біблейскіх аліў
з галін Гефсіманскага саду.
Я з келіха сонца адпіў...
Хіба гэта лічыцца здрадай?

## Я хацеў бы…

Я хацеў бы спаткацца з Вамі,
як з прынцэсай набожны паж,
каб да ранку чытаць на памяць
Ваша цела, як «Ойча наш»...

Я хацеў бы, згубіўшы галаў,
заблудзіцца ў начным бары,
каб на золку Ваш сонны голас,
як у птушкі, сарваўся ў крык...

Я хацеў бы... Хачу нямнога —
Вас на рай абмяняць у Бога.

## Святая ноч

Сляпіла ноч
улоннаю цямрэчай
Марыі,
што збіралася радзіць...
Бог, не суроч
не сам сябе,
не Вечнасць,
якой твой лёс належыць,
запалі
над Бэтлеемам
зорную лампаду.
Цябе чакае ясельны каўчэг...
Святая ноч.
Валоў рахманых статак
тры пастушкі
збіраюць на начлег.

## Лён

*Ахвярую Алесю Бяляцкаму*

Мне прыснілася сёння Доля,
запаветны, як Слова, сон.
Мы з Сысом у нябёсным полі
разам жалі блакітны лён.

Разам жалі, ды раптам серпам
я адцяў галаву вужу,
і цярновыя слёзы свербам
разарвалі маю душу.

Я заплакаў з такім адчаем
на які толькі ў сненні змог,
як па брату забітым Каін,
як Пілат ля Хрыстовых ног...

І сказаў мне на гэта Толя:
— Плачаш, — значыць грахом жывеш...
Вуж скрываўлены ў белым полі —
гэта мой развітальны верш.

І замоўк. І пайшоў няспешна,
аж пакуль між аблок не знік.
Над вужом, над забітым вершам
лён гайдаўся, як сіні німб.

## Нота До

На досвітку,
калі заснуць лілеі,
жаданне прачынаецца тваё,
праслізгвае у вуха
юркім змеем,
сляпое сэрца
ранячы маё.
— Ты мой Радэн,
ляпі з мяне, што хочаш...
Я — гліна паслухмяная твая.
Вазьмі душу,
пакінь мне толькі вочы,
каб бачыць,
як на лютні летняй ночы
Арфей іграе.
Лютня — гэта я.
Дакладней музыка,
што ў лютню заляцела,
як пліска,
пераблытаўшы гняздо...
Вазьмі мяне,
вазьмі душу — не цела.
Пачні ад нізу —
з першай ноты До.

**Раман**

Любая — шчасце маё агнягубае!

## Яблыня

У яблыні — ранімая душа.
Калі салавей ёй здрадзіць —
туман прыпаўзе з лаўжа
хаўтуры кахання ладзіць...

Па яблыку ў яблыні слёзы
спадаюць у жвір нябёсаў.

## Кроў Хрыста

На каменных каленях стодаў,
на дрыжачых руках Каіна,
у вар'яцкім паглядзе Ірада,
на святой Плашчаніцы,
у разорах «Слова аб палку Ігаравым»,
на прасцінах згвалтаванай Рагнеды,
на штандарах Вітаўта Вялікага,
на вусцішы Варфаламееўскай начы,
на амбоне Сафіі Полацкай,
у снах Кастуся Каліноўскага,
на падушцы Максіма Багдановіча,
у зялёных жылах вінаградніка,
на пагонах Гітлера і Сталіна,
на кашулі Джона Ленана,
у кропельніцах чарнобыльскіх хоспісаў —
кроў Хрыста,
кроў Хрыста,
кроў Хрыста.

## Хараство

У Хараства — няма паста.
Каханне зрэдку галадае...
Як Палесціна без Хрыста,
што ў Іардан свой сум хавае.

Для Хараства няма падстаў
адмовай д'яблу лёс лагодзіць,
не марна ж праведнік Адам
спазнання дрэва абясплодзіў.

У Хараства — няма маста
паміж нябёсамі й зямлёю,
бо Хараство — жыцця жарства,
якой Гасподзь у Вільню ходзіць.

## Ноч Шапэна

Ліліся, як ноты, хвіліны
начы, што прыдумаў Шапэн.
Я думаць аб ёй не павінны,
я помніць аб ёй не павінны.
Ад музыкі пух салаўіны
застаўся на поўняхкалень...

На сподзе світальнай гадзіны,
на дне тваіх польскіх вачэй
застаўся мне сум салаўіны...
Я думаць аб ім не павінны,
я помніць аб ім не павінны, —
не думаць, не помніць лягчэй.

Аб спаленых вуснах палынных,
аб сонечных смочках вербен
я думаць павек не павінны,
я помніць павек не павінны,
калі мне дазволіць Шапэн...

## Прыгожая

*Прыгожая жанчына побач —*
*Я забываю пра сям'ю...*
Леанід Дранько-Майсюк

Прыгожая жанчына побач —
я забываю пра усё...
Як чмель, адчуўшы мёду слодыч,
як закаханы ў верш Басё.

Прыгожая жанчына — гэта
нам рай дарованы зямны.
Крыло — паднебнае паэта,
прадмова — біблій Скарыны.

Пігмаліён табою мроіў
і Саламон — паэтаў цар.
У гонар твой пілі з пантофля
Міцкевіч, Пушкін і Кабзар...

Ліліт, Лаура, Маргарыта —
якая розніца, калі
на выгляд ты, як Афрадыта,
з цябе пісаў свой лёс Далі...

Прыгожая жанчына... Божа,
навошта ты яе стварыў?

Каб зразумеў мужчына кожны
дзеля чаго на свеце жыў..

## Здзічэлы сад

Здзічэлы сад, як племя іудзеяў,
насуперак асенняй Кабале
у свет, як у пустэчу, па надзею
пайшоў з цярноўнікам-Майсеем на чале.

Сляпым паглядам молячы абсягі,
карэннямі абмацваючы дол,
брыдуць скрозь восень яблыні-бадзягі,
сузор'і яблык сеючы наўкол.

І на мяжы адчайнае знямогі,
спаймаўшы ў кроны віфліемскі дым,
пераджагнуўся тройчы на дарогу
здзічэлы сад і стаўся залатым.

## Паміж

Сусвет, як жорны,
перамеле ўсіх
на зорны пыл,
на мліва-пацяруху.
Сусвет — як жорны...
Бог-млынар адзін,
заўжды адзін
між Вечнасцю і Скрухай.

## Маўчанне Госпада

Перад брамай у храм Божы
збянтэжана адключаю далькажык,
каб нават слабой вібрацыяй
не патрывожыць
маўчанне Госпада,
не парушыць
урачыстую цішу Веры.

## Жыві!

Я на сэрцы выкаваў Пагоню!
Я Пагоню ў сэрцы пасяліў...
І цяпер у сэрцы маім звоняць
шчыт аб меч — аж пыркі ад крыві.

Дзень і ноч, каб мовы не пазбыўся!
Дзень і ноч, каб Край свой не прадаў!
Дзень і ноч, каб слухаў і маліўся,
як на звон Сафійкі Манамах.

Я на сэрцы выкаваў Пагоню,
і душа зайшлася ад Любві,
як крывёй у Ялце Багдановіч,
выдыхнуўшы Смерці ў твар: — Жыві!

## Просьба

О Леафан,
падводны цар,
нямы дазорца акіяна,
глыні мой сон,
бо з ім я сам,
жыву у нераце падману.
Мой сон глыні
і ляж на дно,
як глыбіня сярод глыбіняў,
засні на Вечнасць,
мо тады
мяне той страшны сон пакіне,
што я адзін,
што ў цемры я,
а тая цемра — лона маці,
а маці тая — не мая,
мяне не хоча нараджаць... І
я ненароджаны жыву
адзін у бездані Сусвету
і плачу я,
і я плыву,
як Ной,
згубіўшы ў моры мэту...

О Леафан,
падводны цар,
глыні мой сон
і кань у Лету.

## Назіркам

Так хутка дні мінаюць,
не паспяваю жыць...
Галоднымі ваўкамі —
Смерць назіркам бяжыць.

## Не так

Нешта у свеце гэтым не так...
Храм разбурылі — зрабілі вятрак.
І з той пары у наіўных людзей —
вечар без хлеба і дзень без надзей.

## Жыве Беларусь!

*Братам па пяру і крыві ахвярую*

Насуперак грозным тыранам,
насуперак Злу і Мане
жывем не ў балотным тумане,
жывем не ў сляпым табуне...

Жывем, як Купала і Колас
калісь загадалі нам жыць...
Жывем без аглядкі на голас,
што зранку да ночы сіпіць:

— Прадайце Радзіму і Мову,
аддайце на здзек прыбышу
і Бога, і роднае Слова...
Прадайце святую Душу...

Я — бог, бо я ўладу вяршу!..

І нехта з нашчадкаў Іуды,
хто страхам і здрадаю жыў,
спаймаўся на д'яблаву вуду,
душу у ламбард залажыў,

не згледзеўшы нават, што цэннік
ад часу Пілата ўсё той —

трыццатнік — за брата, хоць геній,
хоць зеўрае лоб пустатой...

Ды, дзякаваць Богу, ёсць Людзі,
якіх не прадаць, не купіць,
чый Дух не скарыўся аблудзе,
каго — ні разбіць, ні спыніць!

Дык станем, браты мае й сёстры,
у шчыры і шчыльны хаўрус
і так, як Малітву, — узнёсла
прамовім: — Жыве Беларусь!

*22 кастрычніка 2006 г.*

## На Каляды

То аслеплы ад зайздрасці Каін,
то Іуда, то Понцій Пілат
да мяне ува сне падступаюць
напярэдадні светлых Каляд.

Не забіў, не судзіў і не здрадзіў
і ні дня не пражыў без Хрыста...
Дык за што мне такое пракляцце?
— За жыццё, — адказаў Сатана.

«За жыццё» — запяклося крывёю
і цвікамі прайшло скрозь душу...

«За жыццё і за вечнасць са Мною»... —
перад тым як прачнуцца, пачуў.

## След

Не ў Евангеллі,
а у гліне
віфліемскай
згубіла след
небаверная Еўфрасіння...

Бог заўважыў
яго
і з гліны
той спачатку
зляпіў цагліну,
а пасля —
беларускі свет.

## Памаліся…

*Ахвярую Веры Мікута*

Я званю у званы да зморы,
каб адчуць, ці жывая Вера,
каб пачуць, як з царкоўных хораў
льецца чысты матыў «Венеры».

Бо не могуць спяваць фальшыва
душы тых, хто слугуе Богу,
хто, не бачыўшы шлях вачыма,
узышоў на сваю Галгофу.

Хто не ў Ноеў каўчэг паверыў,
а даверыў свой лёс Страціму...
Памаліся за ўсіх нас, Вера,
бо не помнім — куды ляцім мы.

## Пацалунак Іуды

Дух Гасподні лунаў над светам,
цела ела цвікоў іржа,
а ўжо ён, пацалунак гэты,
споўз, як смоўж, на зямлю з крыжа.

Камнем кануць народы ў Лету,
час застанецца без замкоў...
Толькі ён, пацалунак гэты,
пераможа арду вякоў.

Ноч агорне крылом планету,
Госпад вернецца, каб судзіць...
Ну, а ён, пацалунак гэты,
будзе ў цемры Яму свяціць.

## Пілат

— Божа, твой шлях пакутны
лёс мой заліў крывёю...
— Ойча, ты і распнуты
быў не пачуты мною.

## Бой з сабой

І гарачы сінайскі вецер,
і грыфоны — сляпой ардой —
мелі, Госпад, цябе наўвеце,
калі ты распачнеш свой бой.

І жанчыны — у чорным зрэб'і,
і аракулаў гулкі рой
мелі, Госпад, цябе наўвеце,
калі ты распачнеш свой бой.

І апосталы — твае дзеці,
і Анёл з залатой трубой
мелі, Госпад, цябе наўвеце,
калі ты распачнеш свой бой.

Але кожны з іх, чуеш, кожны
сніў трыумф пераможны твой.
І ніхто й не падумаў, Божа,
што ты бой распачнеш з сабой.

## Вавілон

У Вавілоне – каінавым месце –
жыццё не ў смак – ён вырас на крыві...
І ў позірку патрэсканым на фрэсцы
няма ні кроплі боскае Любві.

Быць захацелі небажыхарамі —
рабы спакусы, вершнікі аблок....
І за гардыню Госпад пакараў іх,
даў ім урок ад вечнасці за крок...

Бо заміж Веры — вежу збудавалі,
перамаглі, як хтось крычаў, вякі...
Ды раптам, як на трызне, заспявалі
кожны па-свойму ўсе галаснікі...

Давёўшы вавілонцаў да вар’яцтва,
абрынуліся —«вечныя» муры,
а разам з імі – богапанібрацтва,
а разам з імі – «небажыхары»...

*5. 12. 2012*

## Вошы,
## або маналог Анатоля Сыса

*Магіла — чорныя вошы...*
Анатоль Сыс

Вошы — вечнасці вершадзеці,
вы Пегасу, каб зор дастаў,
грывы рыфмамі запляцеце,
я не змог, бо я верш пісаў.

Для Радзімы, для маці, для любай
і для сына, якога сніў...
Вошы, Бог вас паслаў на згубу,
так любіў, што рашыў згубіць.

Забяру вас з сабой у магілу,
твар не буду знарок галіць...
Вы прашылі душу, як шыла,
хоць на дзірках душа — баліць.

Ой, баліць нат пад небастоллю,
не таму, што няма з кім піць,
а таму, што без Сыса Толі —
з кім Паэзія будзе жыць?

Вошы выелі дні і ночы...
Пачакайце крыху, прашу, —
покуль, гледзячы д'яблу ў вочы,
Богу ў рукі аддам душу.

## Каін

Між грахом і віной блукаеш,
след дыміцца твой ад крыві,
пакаяннем праклятЫ Каін,
акаянны анёл Любві.

## Ноева зямля

Не абцяжарвай
новым зместам
сэнс
не-
пражытага жыцця
нават тады,
калі не з цеста,
а з вера-
ломнага інцэсту —
і хлеб,
і Ноева зямля...

## Не позна

Ніколі нічога
не позна рабіць —
жанчыну кахаць
і Радзіму любіць.

## Залатая мая

На ускраіне небакраю
не карай мяне нематой...
Залатая мая, святая,
ля самоты маёй пастой.

Аддаю табе ўсё, што маю,
нават тое, што іншым даў...
Залатая мая, святая,
я нікога так не кахаў.

Прыгубіўшы слязу адчаю,
без цябе мне куды ляцець?..
Залатая мая, святая, —
залацей за жыццё і смерць!

## Марыя Магдалена

Хто прымусіў устаць з каленяў,
хто цябе ад грахоў збярог?
Хто імя тваё, Магдалена,
прыгубіў, як прычасце?
— Бог!

Хто душу захаваў ад тлену
Хто з табой, як з сястрою, лёг?
Хто паклаў у пустую жменю
не дзінар, а надзею?
— Бог!

Хто слязу залатую з вейяў
у бурштын пераплавіць змог?
Хто раз'юшаных фарысеяў
супакоіў, як блох?
— Бог!

Хто крывёю свой шлях меціў?
Хто прыпаў да біблейскіх ног?
Хто табе прашаптаў, як вецер,
Алілуя, Марыя?
— Бог!

## Малітва

Пакуль мне ўначы не спіцца,
пакуль мяне вабіць неба,
я буду табе маліцца,
Паэзія — луста хлеба.

Дакуль будзе Госпад сніцца,
нібыта Іуду срэбра,
я буду табе маліцца,
Паэзія — вена вербы.

Пакуль будзе шлях мой віцца
і сэрца званіць аб рэбры,
я буду табе маліцца,
Паэзія — келіх неба.

## О Вільня!

«О Літва...», нібы малітву, —
шапчу сабе ўсю дарогу...
Сягоння — спатканне з Вільняй,
а значыць — спатканне з Богам...

Праходжу пад Вострай Брамай
і чую, як цяжка б'ецца
у лёхах старога храма
тваё залатое сэрца.

Каб вызваліць нас ад здрады,
Максім тут прысніў Пагоню.
Сто год як лятуць атрады
насустрач Крывіцкай волі...

Тут кожны камень — быліна.
Тут кожны уздых — аб страце...
Тут сэрца сваё пакінуў
грэць сын у далонях маці...

А я тут душу пакінуў
у звонкай цішы вакзала...
«О Вільня — мая магіла...» —
сказаць не паспеў Купала.

## Вяртанне

*Л. Дранько-Майсюку і Ул. Някляеву*

Па дарозе з Вільні на Менск,
наліваючы ў чаркі крупнік,
я ўявіў, як у вусны рэк,
нібы ў сурмы паэты трубяць.

Па дарозе з Вільні на Менск,
па шляху з варагаў у грэкі
адбіваўся жмудзінскі лес,
нібы лёс у крывіцкіх рэках.

Па дарозе з Вільні дамоў
нас было такіх толькі трое,
тых, хто мёдам разбавіў кроў,
і здалася без бою Троя...

Па шляху, што аслеп ад слёз,
нас было такіх крыху болей,
хто журбу кантрабандай вёз
па аднятай у нас Пагоні.

Па дарозе з Вільні на Менск
мы апокрыф жыцця тварылі,
што святое паблізу спрэс,
як ад Бога любоў Марыі...

Па дарозе з Вільні дамоў
мы успомнілі Гедыміна,
і у жылах шалёна кроў
закіпела і задыміла...

Не было на зямлі радней
за начнога таго хаўруса.
Мы пілі, і зялёны Змей
спакушаў нас у Беларусы!..

## Ной

*Збігневу Гордзею*

Сорак раз пасылаў сякеру
у сваты да сырых камлёў
і каўчэг будаваў свой з веры,
што ўратуе жыццё Любоў.

Давяраўся, як брату, зверу,
з птушкай раіўся, як з сястрой,
і каўчэг будаваў свой з веры
у Гасподняе слова Ной.

Моўчкі зносіў людскія кпіны:
— Дзе ты плаваць сабраўся, Ной?
І ў каўчэг запрашаў расліны,
як паломнікаў, на пастой.

Перамогшы ў вайне з Патопам,
здзейсніў Госпадаў запавет...
І — ужо не з нуля, а з Ноя
нарадзіўся нанова свет!

## Бесядзь і Сож

*Алесю Усеню*

Закахаўся у Бесядзь Сож,
а прызнацца не мае сілы...
І праліўся біблейскі дождж
ад Грамыкаў і да Свяцілавіч...

І вясёлка ўзышла, як німб,
над евангельскім тым каханнем.
Сож каралямі срэбных рыб
Бесядзь вабіў, пяшчоціў хваляй...

Не прыслаўшы сватоў-плытоў,
цалаваў яе ў вусце гэтак,
нібы прагнуў з сырых камлёў
запаліць у нябёсах ветах...

І спатоліўся, бо здалеў
выпіць шчасце яе да дна...
І ад часу таго, як спеў,
Бесядзь льецца ў прасцяг адна.

## На Палессе — услед за песняй…

*Леаніду Дранько-Майсюку*

Падмывае Гарынь-рака
мае сны, дзе начуе Песня...
Асядлаю вала-быка,
хай звязе мяне на Палессе.

Толькі там Беларусь жыве.
Як пачую: — Було нам ліхо...
Каня селіцца не ў траве,
а ў душы і спявае ціха

Пра Гарынь, што плыты вядзе
па чумацкім шляху-юдолі.
Слёзка з вочка ў душу ўпадзе,
сэрца жалем маё спатоліць...

Не раскрыліць мне болей чуб
мама Люба ў дзвярах ля печы.
І Васіль не паваліць дуб —
татаў човен адплыў у вечнасць...

Як адплыў учарашні дзень
за туманам шукаць Дуная...
На слязіне — святой вадзе —
каня моліцца — рай вяртае...

Бо не знойдзеш такіх нідзе
ні людзей, ні дубоў пахілых...
*Цёмнай ноччу і ў ясны дзень*
Беларусь — мой святы каўчэг —
ад калыскі і да магілы.

## Бог і блог

Калісь размаўлялі з Богам —
шукалі ў сабе душу,
а сёння гаворым з блогам,
вяршым інтэрнэт-імшу.

Ну што тут, маўляў, такога,
калі віртуальны Бог
у імя ўсяго святога
царкву памяняў на блог.

Цяпер у кватэры кожнай
кампутар заміж бажніц,
дзе Богу маліцца можна
ці блогу — да зараніц...

Не молімся — нішчым Слова,
паклаўшы далонь на мыш...
Хоць шэпча душа: «Game over»,
ды Бог не ідзе на крыж...

## Ван Гог

Лякарня страшней астрога.
Тут кожны медбрат — Пілат.
Парыж палюбіў Ван Гога
за тое, што ён — вар'ят...

Калі з гільяцінная скрухай
глядзіць на цябе мальберт,
патрэбна адрэзаць вуха,
каб выйшаў аўтапартрэт...

Ды нат калі д'ябал з рога
штоноч наліваў абсент,
Вам Бога заміж Ван Гога
усё ж не прадаў Вінсент!..

## Няблізка

Сярод нябёсаў
на пару з Богам,
як два п'янтосы,
мы п'ем трывогу.

Бо з Таганрога
да места Мінска
і ў пары з Богам
ляцець няблізка.

## Іранічнае

Убіўшыся ў куст акацый,
адчуў сябе крышку Богам
і ў думках пачаў збірацца —
падперці крыжом Галгофу...

Ды ўспомніў, што куст акацый, —
далёка не Лёс цярновы.
Як мудра сказаў Гарацый:
«Паэзія — гандаль словам...»

## Было…

*Калісь глядзеў на сонца я...*
Максім Багдановіч

Ты ўся сатканая з лілей,
ты ўся сатканая з туману...
Віно з вадой змяшаў Арфей,
а я віну змяшаў з падманам...

А я насмеліўся сказаць
і паўтараць, як псальм, бясконца:
— Гасподзь жанчын такіх ствараць
павінны быў з праменняў сонца...

Бо ты і ёсць само святло,
што асляпляе і чаруе...
Хай нехта скажа мне: — Было...
Было... Аслеп... Гасподзь даруе.

## Грэх

Ніколі душа не стоміцца
вяртацца ў Эдэмскі сад...
Да гэткіх жанчын становяцца
паэты па рыфму ў рад.

Пад пільным паглядам Пушкіна,
адвёўшы дуэльны гнеў,
Вы словы цымбальна гушкалі —
пяшчотай Эдэм звінеў.

А грудзі — спакусы птушкі,
забыўшы пра ятаган,
такія калісь прыручваў
да стэпу татарскі хан...

Хоць з вуснамі вусны позняцца
спаткацца хацця б наспех,
а ўжо паўтарыцца просіцца
нанова біблейскі грэх.

## Месяц

Апускаю руку ў Бесядзь,
каб дастаць для цябе месяц...

## Сцяг

*Уладзіміру Някляеву*

Ты перамог без перамогі...
Перамагае гэтак Лёс.
Ды не сышоў убок з дарогі,
нібы крывіцкі наш Хрыстос.

Даволі! — выгукнуў і Волі
сябе аддаў ты наўзамен...
Вышэй за воблачную столю
твой Дух лунаў — Дух перамен!

А той, крыві тваёй хто прагнуў,
нібы сляпы ад помсты воўк,
бег за табой па пахі ў багне
ад Каіна граху за крок...

За крок ад смерці, напаіўшы
крывёй чырвонай белы снег,
ты сам стаў Сцягам, Дух узвіўшы,
вышэй за каінавы грэх.

І калі нехта запытае:
— Дык дзе наш Сцяг і Воля дзе?
Я адкажу: — Ён там лунае,
дзе Беларусь на Плошчу йдзе!

*19 снежня 2012*

## Над магілай Анатоля Сыса

Не трэба над магілай прамаўляць.
Хай кветкі й свечкі моляцца у скрусе.
Тут спіць Паэт, яго нам не падняць...
Зайшло за хмары сонца Беларусі.

## Дар

Плуг — аратаму, каб араў...
А паэту Гасподзь даў крылы,
каб над пожняй жыцця лятаў —
не баяўся дрыгвы-магілы.

Нож — Вараву, каб рабаваў...
А паэту — пяро жар-птушкі,
каб, як Лорка, ім напісаў:
— Мама, вышый мяне на падушцы...

Грошы — дурню, каб бедным стаў...
А паэту Гасподзь даў Слова,
каб Галгофу жыцця спазнаў,
а сканаўшы, пачаў нанова.

## Антысвет

Утравее Галгофа.
Пусціць крыж карані,
і Пілат заміж Бога
злічыць вечнасці дні.

Галубоў не накорміць
разуменнем  Язэп.
Вучням Бог не надломіць
сваё цела, як хлеб...

Не прадасца Іуда.
Абязвініцца кроў.
Каін зробіцца мудрым.
Ірад вып’е Любоў.

Не народзіцца Вера.
Не ўратуецца свет.
Раб пакіне галеру.
Крылы страціць паэт.

Хіба можна такое
хоць на міг уявіць?

Час на сподзе спакою,
не пачаўшыся, спіць...

*8.11.2012*

## Ляцім да зор…

*Ахвярую Паўлу Бераговічу*

Душам дзвюм у аўто няцесна,
як у вочы Анёл глядзіць...
Прытуліўшы жыццё да крэсла,
па-апостальску Павел спіць.

Зэльва, Слонім, Стаўбцы мільгаюць,
як каметы ў аконным шкле.
Павел спіць і пакуль не знае,
што і ў снах Беларусь жыве...

Гэта ведаў адзін Купала,
калі падаў з нябёс, як сцяг...
Калі бел-чырван-белай стала —
не кашуля – душа ў грудзях.

А дарога — стралой з-пад колаў,
ажно свішча ў вушах прастор.
І сляза на шчацэ Анёла,
мо таму, што ляцім да зор?..

*17.11.2012*

# І Слова робіцца Малітвай

Мы не аратары, не барды,
нас вера не вядзе на бітву...
Ды выпадае часам карта –
і слова робіцца Малітвай...



# *З украінскай*

*Паўло Філіповіч*

## Манамах

Дзівіўся з вежы
На цёмны бор.
Там след мядзведжы
І воўчы хор.

Рыкаюць туры
Здалечыні,
А дуб пахмурны
Каўтае дні.

Глядзі і дзіду
Бяры хутчэй,
Рэй сакаліны
Пускай з плячэй.

З бычынай шыі,
Бы камень, крык.
Не Візантыя, —
Да стэпу звык.

З жалезнай скурай
І дух цвярдзей —

На рогі тура
Не пападзе.

О Манамаша!
Не навучай,
Што шчасце наша —
Пакора й рай.

У шызы попел
Адыдзе мніх,
А дзіда й сокал —
Заўжды ўдваіх!

Грыміць адвага
На ўсе вякі —
Той крык варага,
Той рух рукі!

*1923*

*Валадзімір Сасюра*

## Макі

*Л.В. Піліпенкавай*

Мне хочацца хадзіць з адрэзанай галавой Дантэ
на руках
і слухаць пра каханне Беатрычэ...
Шапацелі жыты, хвалявалі жыты,
а між імі барвелі макі.
Там, там
там, там
казакі,
казакі,
казакі...
Места.
Ноч.
У паветры здранцвелі крыкі...
Хто гэта на вуха мне
вые тоненька і хітра?..
Галаву нахілю, —
пaглядае грозна харунжы...
Мама, а можа я сплю,
Можа чагось занядужыў?..
Места.
Ноч.
У паветры здранцвелі крыкі...

Хто гэта на вуха мне
вые тоненька і хітра...
Шапацелі жыты, хвалявалі жыты,
а між імі барвелі макі.
Там, там
там,там
казакі,
казакі,
казакі...
Мне хочацца хадзіць з адрэзанаю галавою Дантэ
на руках
і слухаць пра каханне Беатрычэ.

*1923*

*Дзмітро Паўлычка*

***

Я звар'яцеў ад ростані з табою,
Самота мая светлая звініць,
Як явар, што, апалены журбою,
Адзін у гаі букавым стаіць.

Спявае лісце на вясновым сонцы,
А на душы — журба, як небасінь.
Расце й спявае гонкі яваронца,
Губляе слёзы долу дзівасіл.

Кладзецца снег калючы, як ігліца,
Ідзе зіма й завеямі гудзе.
А явару ўсё сніцца яварыца,
Як ранняя заранка на вадзе.

Не знае ён, што хутка прыйдуць людзі,
Ссякуць яго, шкадуючы нібы,
Раскрыюць яму вусцішныя грудзі
І зробяць скрыпку звонкую з журбы.

## Зямля з Тарасавай магілы

Прыязджаюць да Канева,
збіраюць у мяшэчкі напарсткамі
зямлю з Тарасавай магілы,
вязуць яе дадому
і думаюць, што любяць Украіну,
як ён любіў.

А іхняй любові не больш,
як той зямлі ў мяшэчку.
Хапае на тое, каб заспяваць «Шчэ не ўмерла...»,
але не хапае на тое, каб аддаць Украіне
душу і цела (а дзе ж узяць душу?),
хапае на тое, каб праклінаць долю,
але не хапае на тое, каб абняць найменшага брата.
Захаваная ў шуфлядах, у старой пазалоцե,
забытая, абгорнутая ў пацяруху,
святая зямля не дапаможа плоці
перайсці ў святло, як няма духу.

Пакіньце ж магілу Тараса
у спакоі!
Не раскопвайце яе, самалюбівыя ізгоі,
не развозце па свеце!
Вы сваю зямлю цалуйце,
што сама ходзіць за вамі,

паглядае ў вашыя вокны,
просіць працы,
шанавання,
любові,
ды не грыміць перунамі,
а сціпла чакае хвілі, каб замкнуць
вашыя патрыятычныя астанкі ў дамавіне,
на дне магільнае ямы.

## Дзве дзяржаўныя мовы

Я знаю дзесяць моў, ды толькі за адную,
як баявік памру! У ёй наш дух жыве,
мяне і мой народ ад здрады ён ратуе,
без роздуму памру, як скажуць, за яе.

Бо мова — то не гук, а думка непакорных,
зярнятка, што дае нам неба у пасаг.
Таму й малолі нас расейцаў хіжых жорны,
каб не памёр у нас пакорны, чорны раб.

Я вам скажу, браты, пад бой чужых курантаў,
што з двюх дзяржаўных моў — дарога ў смерць адна;
Нас вынішчуць рабы, што ў нас, як акупанты,
жывуць і мову п'юць, як п'яніцы, да дна.

Пярэварацень рад пісаць універсалы...
З чужых плячэй насі кашулю, дабрадзей,
Ты хочаш, каб цябе за тое шанавалі,
што двухязыкі ты, як падкалодны змей.

Народ, Радзіма, Бог — табе ўсё ні да чога!
Патопча ўсё й паб'е шавіністычны шал...
Таму я і прашу і Пушкіна, й Талстога:
Прыдзіце, каб адняць двухмоўнасці кінжал!

*Ліна Кастэнка*

## Ван Гог

Добрай раніцы, адзінота!
Холад холаду. Цішы ціш.
Як цыклоп аднавокі ў лёце,
неба дзівіцца на Парыж.
Мая мука, ты ходзіш па лёзах!
Яшчэ ўчора я быў каралём.
А сягоння попел бялёсы
асядае на жоўты дом.
Змерлі барвы.
О рукі-хмары!
На мальбертах распяты свет.
Я — жалобны камень цвінтарны.
Кіпарысавы хвост камет.
Неба ў негадзь, бы ноч, глухое.
Гнуцца пэндзлі, як чараты.
Чорным рэхам палеазою
паламаныя гор хрыбты.
Прамяніцца маё скляпенне.
Я пастух. Я сад стары пасу.
Ў кішэнях дня,
залапленых цярпеннем,
я кулакі да смерці данясу.
Самавіты — несамавіты —
Не Сезан — не Гаген — не Манэ —

Але што мне рабіць, скажы ты,
Як мяне багата ў мяне?!
Ён бажавольны, кажуць. Бажавольны!
Магчыма й так. Ён — гэта значыць я.
Божа — вольны...
Божа, я — вольны!
Дык, дабранач, Свабода мая!

*Мікола Сом*

***

Я дома. Раптам сярод ночы
Прыйду, як госць ва ўласны сон,
Плыву не ў чоўне я, а ў ночвах
На хвалях залацістых дзён.

А маці мне крычыць пагрозліва:
«Утопішся — ой, буду біць!»
Шкада, цяплей не стане возера,
Калі ў ім сонца утапіць...

А сонца ўжо бяжыць па выгане
А потым — зноў на глыбіню,
(За тое, кажуць, з неба выгнана,
што любіць грэшную зямлю).

Плыву. І залатымі вёсламі
Гайдаю ў сне світанак свой...
То хмурны — нібы неба восенню.
То светлы — нібы дзень вясной.

*Станіслаў Цяльнюк*

**Галілей**

О страшны міг, о міг ганебны,
Калі вялікі Галілей,
Упаў, няшчасны, на калені,
Каб адракціся ад ідэй.

І святкавалі кардыналы,
І не хавалі шчасця слёз,
Бо вось жа зноў зямля стаяла,
А не кружляла між нябёс!

І усклікалі кардыналы:
Накрылі чортава кубло!...
А вучні генія рыдалі,
А вучням сорамна было.

І ўсё ж адзін між іх быў рады.
І ён трызвоніў між людзей,
Што геній, бач, пайшоў на здраду,
Што, бач, прадаўся Галілей.

«Чаму ж вы кажаце — ён геній!?
Чаму ж гаворыце — тытан?
Адрокся ж! Вось ён — на каленях,
І не мудрэц, а шарлатан.

От я — не ў прыклад Галілею!
Хай бы мяне судзіў канклаў,
Ды я згарэў бы за ідэю,
А на калені б я не стаў».

А людзі слухалі й маўчалі,
А людзі думалі ў той міг:
А вось зямлі, як воз, крактала,
Ніхто не мог зямлю спыніць!

А вучань той?.. Няведма дзе ён.
Які з яго там ерэтык?
Каб хоць была ў яго ідэя, —
Бо ўсё, што меў ён — быў язык.

Ён марна марыў пра нятленнасць,
І славу генія ў вяках, —
Бо век чужым прашвэндаў ценем,
І рупарам няўласных слоў.

А Галілею, як прызнацца,
(Без пахвальбы перадусім),
Было ад чога адракацца,
А гэта дадзена не ўсім!

*Іван Драч*

## Мадонна з Хрэшчаціка

У займішчы хрэшчаціцкага дня
Ішла ты босай, панна Кацярына,
Бунт Рубенса з кірылаўскага дна,
Не йшла — ляцела над зямлёй парыўна.

Жахаліся прахожыя наўкол,
Бо ляльку ты у транты заматала,
Бо горкім тваё стала малако,
Бо скрозь і ўсюды месца было мала.

Няўжо ад помсты вочы зіхацяць?
За мукі ненароджанага сына?!
Праклёнам вусны чорныя кіпяць,
Няўжо праклён — ратунак твой адзіны?

Каму ты будзеш помсціць? Можа, мне?
Чаму душа зрабілася пустою?
Настоеная, бы на палыне,
Суспензія вар'яцкага настою?!

Ці той, хто вінны, сам сабой згарыць —
З тваіх вачэй агню яму даволі?!
А кроў з душы параненай цурчыць,
А гул крыві пякельна-неспатольны.

Ты — збажаволіла. З ашмоцця ляльку ты
Нясеш — куды? Хіба ў псіхіятрычку?!
Цябе — знайсці, ад пекла зберагчы!
А ты, бы ў пекла, ўцекла ў электрычку.

Трымаеш мёртвы скрутак на руках.
Чаму ж так грудзі спалена разбухлі,
Чаму так вусны спекліся ў кутках —
На вогненным запаленыя куфлі?!

Які напой ты ў травень той піла,
Калі пад сэрцам сына ты насіла,
Ад Ірада сябе не зберагла —
Нячыстая згубіла цябе сіла?!

А хустка збілася на беднай галаве, —
Што лысінаю свеціш, Божа Маці...
Твой босы след яснееецца ў траве,
Які баюся й подыхам спужаць я.

***

Пахавайце мяне ў Цялежынцах,
Дзе бяссмертнікам лог цвіце,
Дзе лясы ад красы кунежацца
І дзе Роська, мой Сцікс, плыве.

Пахавайце мяне ў Цялежынцах —
Не люблю я сталічны тлум.
У Цялежынцах ноч мярэжыцца
У сяйве летуценных дум.

У Цялежынцах свет мой плешчыцца,
Спеў вады, пералівы слоў.
Птушка ў небе і звер на лежбішчы
Мяне прагнуць там сто вякоў.

Мкне ракета, каня бянтэжачы, —
У чаканні нямым зямля.
Пахавайце мяне ў Цялежынцах.
Не памру там ніколі я...

*Мікола Вінграноўскі*

***

Хадземце ў сад. Я пакажу вам сад.
Дзе на каленях яблынь дрэмле вецер.
А згорблены чумацкі небаспад
Высвечвае вясёлкавую квецень.

Я пакажу вам слівы на сучках,
Настроміліся, падаючы моўчкі.
Сціскае груша ў жоўтых кулачках
Крутога сонца смачныя жаўточкі.

Салодка спіць у полі пад снапом
Жняя ружовашчокая — заранка.
І шэпча ціша сонным языком
Сівому саду песню-калыханку.

То кажаны. То кажановы лад
Звініць журліва ў сонных струнах ночы...
Хадземце ў сад. Я пакажу вам сад,
Яго душы нявыспаныя вочы.

***

У сініх нябёсах я высеіў лёс,
У сініх нябёсах, любоў мая люба,
Я высеіў лёс — гай з дубоў і бяроз
У сініх нябёсах з бярозы і дуба.

У сініх азёрах я высеіў сны,
У сініх азёрах на дне сіняглейным.
Я высеіў сны з тваёй светлай вясны,
У сініх азёрах з вясны і лілеяў.

Той лес зашуміць, тыя сны ажывуць,
І ты іх убачыш у небе й азёрах,
У сініх нябёсах і ў сініх азёрах
Табе яны з'явяцца і адплывуць.

Дубовы мой кій, і нясходжаны край,
І ты ля мяне, і буслы, і бярозы,
Дарога і неба над намі, і слёзы, —
Азёры з цябе... І дарога у рай.

*Васіль Стус*

***

Гарыць сасна — ад нізу да гары.
Гарыць сасна — чырвона-чарнагрывы
дым па-над гаем. Ой, і нешчаслíва
ты, чарнабрыва Галю, чарнабры...
— Каханенькія! Хопіць! Адпусціце!
Галосіць Галя, крыкам прамаўляе,
а полымя абдымкі расхінае,
а пан-Гасподзь — глядзіць сабе й маўчыць.
Прывязана касою да сасны
бялее, быццам лебедзь, белацела.
П'юць казакі, а неба як знямела,
а ад зямлі — чырвоныя кастры.
О любыя, малю вас адпусціць
да хатачкі, да роднае матулі, —
зайшлася плачам — ды ніхто не чуе, —
адно сасна так вусцішна трашчыць.
Гарыць сасна — ад нізу да гары,
сасна палае — ад гары да нізу,
Пан Бог ідзе. Цалуй Господню рызу,
ой, чарнабрыва Галю, чарнабры...
Святая Ганна, выбачай мяне,
што ў тым агні, як свечачка, згарэла...
О, як жа бела бель твая балела.
О, як бялела болем тая бель!

*Пятро Засэнка*

***

Прыйшлося Ўкраіне ляцець без крыла,
Нацэлена ў лоб ёй руля...
Тады яна песню на «ой» пачала,
Нібы ёй пад сэрцам кальнула.

«Ой, Божа...», «Ой, маці...»,
«Ой, выйду на шлях»,
« Ой, гора той чайцы-нябозе...»
Ой, колькі тых «ой» прастагнана ў вяках
На той украінскай дарозе.

Казак у Стамбуле ў аблічча пашы
Спяваў хваласпевы ўхвальна.
Хоць ойканне ў неба злятала з душы,
Як цела трымцела на палі.

І песню пра Грыца, ў якой знемагла
Душа украінкі ў каханні,
Чурай з набалелага «ой» пачала —
Бы кінулі ў памяць камень.

Дзяржаву-нязграбу на ўласным гарбе
Цягнула даярка-маці,
«Ой, гора нам, гора», — шаптала сабе,
спявала, каб не стагнаць хоць...

А думачку кожную, слоўца ці склад
Чужынцаў тапталі ногі...
У песні айчыннай — самотны пагляд,
Нібы на старой іконе.

Нішто ёй катоўні і вырак, і лёс,
Плыве, як Дняпро шматводны,
Шугае, як хваля, да золкіх нябёс,
А грэецца ў сэрцы народным.

І ўсё гэта спадчынай сталася мне,
Журба — як турма-няволя.
На «ой» пачынаюцца песні мае,
Яны з украінскага болю.

*Валадзімір Капусцін*

## Шлях да мамы

Уноч і ўдзень пад яварамі
То выгінасты, то круты
Нас кліча на агмень да мамы
Шлях, як Евангелле, святы.

Святы, як наша Украіна,—
А іншых не было й няма.
Ён у жыцці маім адзіны,
Як лета, восень і зіма...

Раптоўна згасне промнік мамін —
Пялёстак сонца залаты.
І зарыдае, нібы Каін,
Шлях ссірацелы і пусты.

*Раман Лубкіўскі*

## Паляванне

І доўжыцца спрадвеку паляванне,
За раццю рацць стральцоў па следзе йдзе,
То хітры звер ад вечара да рання
Іх на нябачным повадзе вядзе.

Ідуць стральцы. Згубіліся дарогі.
Збялела сонца ў небе, нібы косць.
Ім мроіцца алень блакітнарогі,
І аксамітна-вогненная поўсць.

Тут столькі стрэлаў страчана дарэмна,
Тут столькі лукаў зломлена тугіх...
Вастрэй стралы — тут вока мець патрэбна.
Вастрэй за нож — тут мець патрэбна слых.

...Сяджу ў засадзе, сэрцам заміраю,
Як росны ліст ад холаду трымчу,
Стралу выцягваю і гэтак закладаю,
Каб нават вецер шолах не пачуў.

Такімі вось блакітнымі начамі,
У сэрца зазіраючы сваё,
Я бачыў звера з сінімі вачамі,
Што піў з крыніцы зорнае святло.

І выспеў стрэл. Глядзі, не прамахніся,
Страла мая — прадвесніца бяды!
Ляціць страла, нанізваючы лісце,
Ляціць страла, збіваючы гады...

А я стаю адзін у звонкай цішы,
Чакаю ўпарта снег на галаву...
Ды не стралу, а сэрца насадзіўшы,
Нацягваю тугую цеціву...

*Надзея Кір'ян*

***

Я штось забыла, я забыла штось...
А што? А што? Сама сябе пытаю.
Мае сляды змывае шэры дождж,
Абрысы іх травою зарастаюць.

Прыгадваю я «штось» не дзень,
ні два, ні тры...
Мае і не мае гады бягуць за мною.
Стаю я на гары, як на мяжы,
Як на мяжы між летам і зімою.

Ўва мне бунтуе бура галасоў,
Яны галосяць так даўно і доўга,
Быць можа, з чынгісханаўскіх часоў,
А можа, нат з часоў княгіні Вольгі.

Усё было. Барвова у ваччу...
І зноў крывёю закіпае неба.
І я крычу. Так голасна крычу:
«Крыві не трэба. Больш крыві не трэба!»

Ізноў крычу: «О Госпадзі, не руш,
Не руш травы і неба залатога!»
Я вершам адмалюся... І памру,
Не вымаліўшы ў Госпада нічога.

Дык супакойся, сэрца. Замаўчы!
Бясконца прыніжацца не хачу я.
Сярод вятроў у полі ты крычыш.
Ды хто пачуе? Хто цябе пачуе...

## Жаваранак дзяцінства

Мама
зляпіла жаваронка,
хацела спекчы —
а ён паляцеў.

Ад таго
штовесну
шукаю ў небе птаха,

злепленага
з цеста.

*Валадзімір Забаштанскі*

## Бітва з каменем

Вяртаўся з кар'ера дадому
У робе ад пылу белай,
Нёс цяжкую ношку стомы
На гнуткім і дужым целе.

Шлях п'яна звіваўся ў полі,
Скрыпелі дубы ля хаты.
Тым вечарам, як ніколі,
Хацелася спаць упасці.

А пальцы ж у кроў пабіты,
І ныюць мазолі глуха.
Імша малатка й граніта
Гучала ўсю ноч ля вуха.

Заснуў — як у Лету кануў,
З цяжкімі, як сталь, рукамі.
І снілася: заўтра ўстане
І пераможа камень.

*Тарас Мельнічук*

***

іду

а яно скіфы скіфы

дзе вашы лукі: — пытаю
вунь! —
паказваюць на чырвоны
эшафот сонца
і шэпчуць

цішэй

на світанку засудзілі
расу на смерць
і павесілі на траве

а ты скіфы скіфы
быццам і праўда
скіфы жывыя

***

вучуся ў лагеры
іграць на бандуры
бо думаю сабе
пакуль я ў лагеры
то хоць навучуся
іграць на бандуры

і вучуся, вучуся
ды ў мяне
нічога не выходзіць:

струны з-пад пальцаў
уцякаюць на Украіну

*Алег Арач*

## Слова

Прайшла эпоха ваўкаватых,
што kроў пілі і кпілі з нас,
і жэрлі наш Вялікі Час,
як хлеб і сала ў нашых хатах.

Сляпое зборышча пілатаў,
хто сёння
памятае вас?!

А слова дзе,
дзе слова!
Узвышана й сонцагалова,
як ломакамень той
скрозь камень
прабіла склеп і прарасло,
і узняслося над вякамі
д а б р а з ы ч л і ў ц а м тым
назло.

На скон не зводзіцца парода,
і не мялее радавод,
раку спрадвечную народа
не перайсці нікому ўброд.

О не,
мы
    славы
не праспалі,
мы  с л а ў н а  выспаліся.
Мы
на сход Гісторыі
усталі
і сталі —
людзі між людзьмі.
Не ваўкалакі-людаловы,
і не загнаныя ваўкі,
ад скіфаў мы —
стэпавікі —
і збраяры,
і хлебаробы,
філосафы,
і ваяры,
і узвялічвальнікі слова —
Шаўчэнкі,
Лесі
І Франкі.

Як два анёлы на плячы —
І радасць нашая і гора,
Дняпро спяшаецца не ў мора —
Дняпру ў  Г і с т о р ы ю  цячы...

*Барыс Чып*

**Лось**

У малінавым звонкім ранку
Зіхацелі слязінкі рос,
Да сасны прытуліўшыся ранаю,
Паміраў крутарогі лось.

Яму ў вочы ляцелі кедры,
Біў у вуха птушыны піск,
А хлапец у спартыўных кедах
Вочы звузіў, нібыта рысь.

Дзеля славы ці для забавы...
Стрэльбу ўчора хлапец купіў.
Першы стрэл — і нябёсы ўпалі,
І разліўся ля ног блакіт.

Лось канаў у нясцерпных муках,
Капытамі світанак грэб.
А скрозь муку дрыжэлі рукі,
Што учора трымалі хлеб.

*Анатоль Кічынскі*

***

Ціша.
Не кроны — кароны.
Свята зімы ў сасняках.
Жомчугам крыл вароны
Ззяюць на белых снягах.

Нетры высвечвае іней,
Бы ў чорна-белым кіно,
Свеціцца промнямі ліній
Памяць, а ў ёй — адно:

Тонкі, як звон патрона,
Зграі сабачай брэх.
Белай
маланкай
варона
падае ў чорны снег.

*Дзмітро Крэмінь*

## Каменны скіф

Не дай мне, доля, нічога,
ні ночы не дай, ні дня,
а дай мне стэпу начнога
і скіфскага дай каня.
Шалом, залаты рыштунак,
двухгострага дай мяча,
каб выпіць любоўны трунак,
скрозь ноч мяне конь памчаў,
хай здрада наўслед пляцецца,
прашые страла кадык...

за тысячу год
здрыгнецца
сэрцам каменны скіф!

*Наталка Белацарковец*

***

І жоўты клён, і камень у іржы,
І пот іржы, і кроў травы зялёнай —
Усё гэта жывая неспатольнасць,
Як кайданы спрадвечныя душы.

Любі той камень — год яму мільён.
Любі той клён у далечы двухкрокай.
Любі той дождж — ён круглы, нібы вока.
Любі той верш — яго складаў Гійём.

Ты адчуваеш цэласнасць жыцця?
З'ядналыя ў ім слова і прырода,
І дождж... І слёз хаўтурных прахалода.
...Ёсць толькі рэха ад сэрцабіцця.

***

Трымціць вада у шклянцы, і трымціць
Ад холаду. І плач яе жаночы —
Ад холаду. Цяпер такія ночы,
Імгненне — і лістота абляціць.

Год нашае любові прамінуў,
А у пакоі водар лісця тога,
вада у той жа шклянцы. І нядоўга
Да года, што бясследна патануў.

І чаравік, адкінуты убок,
І вопратка на крэсле, і да ранку
Якісь тунэльны вецер пеніць шклянку —
Імгненне, і разрынецца патоп.

Дык што тады стагоддзе — можа, крок,
Калі гарыць тунэль чорнашаўковы,
І верасень як выгук выпадковы,
І ўсё жыццё — патоп або глыток...

*Васіль Асадчы*

***

ПА ГРУДЗІ Ў СНЯГАХ МАЯ МАЦІ:
Ёй венікі трэба вязаць, і
Якая б ні ліпла халера,
У маці ў руках — сякера.
Мароз прабірае да слёз.
А снег аж сячэ наўскос.
А снег, нібы соль — сячэ...
Вязанку з худых плячэй
Скідае ў сумёт пры хаце.
ПА ГРУДЗІ Ў СНЯГАХ МАЯ МАЦІ.
У полі, дзе вецер свішча,
Як сонца, гарыць кастрышча,
Грывасты шалёны конь.
А цень усяго з далонь
Кладзецца на поле здзекліва,
І некаму, проста некаму
Паправіць сатлелы кнот,
Дубцоў падраўняць разброд,
Пракласці да гаю след,
Паставіць у печ абед,
І лёд саскабліць з рукі...
...Гайдаюцца ў такт крукі
На соснах — што ў небе спяць.
ПА ГРУДЗІ Ў СНЯГАХ МАЯ МАЦІ.

*Іван Малковіч*

## Музыка, што пайшла

Калі яна плялася ў косы —
чаму ты, скрыпка, знікла з воч?
І музыку пусціла босай
у спеўна-зваблівую ноч.

Ох, смыча, хіба ты не бачыў? —
на скронях снег, на сэрцы дождж, —
як музыка пайшла жабрачкай
у спеўна-зваблівую ноч?..

Вазьму з сабой зямлі акраец,
пайду ў сусвет сабе на страх, —
хай толькі вецер завывае
ў маіх расхрыстаных слядах...

Матуля, тата, як спытаюць,
куды ваш сын падаўся з воч —
скажыце: музыку шукае,
што босая пайшла у ноч.

## Далёкае лета

Так хутка лета адышло —
што не дацягнешся рукою,
нібы туман празрысты, шкло
між летам стала і між мною;

і хай яно штось адняло
у нас з табой: дало ўсё ж болей —
прынамсі, столькі супакою,
каб хоць не біцца ў тое шкло.

*Паўло Гірнік*

***

Азяблым золкам, ліхой гадзінай
Ляцелі гусі над белым ставам.
Важак ускрыкнуў: —Ужо Ўкраіна!
І сэрца стала.

## *Вікторыя Кліментоўская*

***

А, магчыма, мы — толькі пчолы?
Наша доля ў аблозе вех.
Што не можна — таго ніколі.
Што захочацца — тое грэх.

Адабраная кімсьці ява.
Наша мройлівасць — атавізм.
Нам не нудна і не цікава,
Што нам джала і што нам віск.

Мы не ведаем, што будуем —
Наша слава — бяздумны лёт.
Не пытаем, каго гадуем —
Наша справа — у сотах мёд.

Жыць без волі, сысці без болю.
Крылы ангелаў — з яснаты.
А калі мы — усё ж не пчолы,
Што тады?

*Барыс Бунчук*

## Колка дроў. Эпас

Пейзаж з бялёсымі дымамі
Па-над дамамі. Дзіўны час.
Гэта было калісь. Не з намі.
І з намі. Можа, й пасля нас.

Наш час сівы. Глухую скрыню
Зачыняць хутка на замкі.
О, пыл мукі на мешкавіне,
Калі спарожнены мяшкі!

Але у сестрыной дрывотні
Ты б'еш па высахлых пяньках.
«Гух» — і у прыгаршчах стагоддзяў
Бялеюць трэскі па кутках.

Калун — грахоўны, нібы Каін.
«Гух» — і раз'юшаны абух
Не забівае між глуздамі
Той клін, а забівае дух.

Задыханы, у кроплях поту,
У зрэнках — стомлены дакор.
І марнасць здзейсненай работы
Цябе выштурхвае на двор.

І на чале тваім гарачым
Снег — скамянелая вада —
Надрыўна й набажна заплача,
Як разняволены арган.

І будзе слухаць плач той вецер,
Хаціна й сад, зямля і высь.
Што не захочацца памерці
Нават калісь, калісь, калісь.

*Наталка Поклад*

***

Так мала любові ў сусвеце,
так мала святла,
і душы людзей счужанелі, нібыта магілы,
хацела я быць паміж іх, ды чамусь не змагла:
там чорныя ветры закручваюць чорныя плыні.

Святла дай, эпоха!
Мы з промняў ягоных расцем,
а ў плынях сцямнелых мы губім і голас, і сілу,
юрба гандляроў залівае наш звонкі Эдэм,
усе, што не з намі, — на вецер, на скон, у магілу.

Трава, азавіся! А жораў нябёсы ўзбудзі!
Энергія волі й красы не знікае, я знаю, —
ды чорныя плыні нясуць нас, нясуць нас...
Куды?
Ці ў ціхі Дунай — а ці ў неба, што выйшла з Дунаю?!

*Барыс Шчавурскі*

***

Нас забылі, быццам выслалі
даганяць пражыты дзень.
І не будзем мы напісаны
нават ветрам на вадзе,

даражэйшымі не станем мы
чымся золата пяскоў.
Ахінае мроі марыва, —
плёскат слоў, вятроў, вякоў...

І ніколі мы не вернемся,
памяць — наша Калыма.
Чуем вырванымі нервамі:
нас няма, няма, няма.

*Васіль Кажалянка*

## Сярэдневечны зімовы пейзаж

Сутаны чорныя, а ў іх чарнеюць душы...
Падносяць хмыз набожна прастакі,
натоўп вясёлы нецярпенне мучыць,
абліччы шэрыя, нібыта лёд ракі,

ўзіраюцца ў кудлатую вядзьмарку
спусцелымі палонкамі вачэй.
На дахаў тле гатычным добра бачна,
як песня ў неба ведзьміна цячэ.

А з полымя крычаць зялёна вочы,
вакол агнішча снег узяўся таць.
Вароны, мніхі чорныя, галгочуць,
а мніхі, нібы вораны, маўчаць.

А сполахі блукаюць па распяцці,
глядзяць у сэрца чорнаму цвіку...
І падаюць у спаленую памяць
загубленаму ў часе мастаку.

Гучыць злавесна музыка прыроды:
вяршыні гор у дымцы туманоў,
шчытом барвовым сонца, што заходзіць,
на фоне закрываўленых мячоў.

*Раман Скіба*

## Дараванне Каіна

Гырчаць аўчаркі, а дзень ідзе.
Няма ад казусаў запарукі —
Два лейтэнанты НКВД
Такому ж трэцяму круцяць рукі.
Сігнал трывогі на ўсе пасты.
Дратоў напругу здымае вецер.
«Сто сорак трэцяга — адпусціў...
Не вінаваты — Сто сорак трэці!»
Без кайданкоў прывялі у штаб.
Паўстала сонца — фінальным фонам.
У «Беламор» забівае драп
Цвярозавокі маёр Сафонаў:
На кашаль сыдзе — не ўцягне дым
І сфармулюе пытанне матам.
А той разгублена: «Я пры чым,
Хіба ж я сторож роднаму брату?..»

## Песня рыбака

Рака высокая, будзь мне вясёлай,
А як не ўмееш — сум гарні да дна.
Пакуль смалістым, чарнабокім сомам
Начуе ў плыні цень майго чаўна.
Слязяцца вочы —
крыгам сняцца вёсны.
Спазнаецца ў глыбінях іхніх дно.
Табою п'яны,
сохнуць мае вёслы —
Ты дыхаеш, як дыхае віно...
Рака мая, не кліч сястрою Лету.
Рака мая, імя маё вярні.
Каб я яго чароту промнем светлым
Накрэсліў, як вар'ят, на быстрыні.

*Аляксандр Яравы*

***

...Шчэ пажывем у скрадзенай Айчыне.
Бо край — не наш. І грэх на ім — не наш.
Шчэ пасмакуем на вар'яцкай трызне
Віно бязвер'я з харалужных чаш.
Шчэ пажывем. Шчэ трохі паўміраем.
І так мінаем.
Цені нашых крыл
Прыкмеціць хто над звар'яцелым краем?
Бязвокі змрок. І неба зіхаціць
Не нам, не нам.
І болем непадкупным
Мы ўмерзнуць мусім у прадонны глей,
Каб даў Гасподзь не нам —
дык хоць наступным
Знайсці ў сабе украдзеных сябе.
Мы паслізнуліся на выстылым карнізе,
Не давяршыўшы дум... На строме сноў.
Бо час — не наш.
Таму на ўласнай трызне
Мы п'ем віно з уласных чарапоў...

*Ігар Паўлюк*

***

Ты не прыходзь, мой час доўгачаканы.
Чаканне ёсць. А восені няма.
Душы даніну я сплачу паўстаннем.
А потым — цела ў шнарах і дымах.

Мы вучні смерці. А жыццё нам — свята.
А я люблю вас, людзі, нібы брат.
О, як я перад вамі вінаваты!
Нібыта перад Госпадам — Пілат.

Легенд эпоха — ты шчэ не мінула.
Мой родны лес — ты мой дзіцячы лёс.
Мая душа згадала і ўздыхнула,
згубіўшы znічку ў пазухах бяроз.

І ты, і вы... Люблю, каго не знаю...
Мінае ўсё. Мінае. Пустата.
Лагодны вецер лірыку гартае.
Глядзіць бабуля юная з вакна.

Гарачы цень. Я ведаў вішню белай.
І тут сябры.
Любілі і пілі.
Так ёсць ужо...

Каб шабля не ржавела —
Зрабі ты яе з воску
І спалі.

*Галіна Кірпа*

***

Душа цяпер — як рэчка ў ледастоі.
І кожны спогад — як забыты міф.
Ніхто не прыйдзе і не загаворыць,
ну хіба што — біблейская Юдзіф.

Душа бы нітка — тонка, дык і рвецца.
І кожны спогад — каменем на дне.
Ніхто не гляне і не пасміхнецца,
хіба што кветка, што квітнее ў сне.

Душа — бы лета бабіна — блукае.
Пакуль снягамі шлях не занясе...
А сум, бы смерць, у вочы зазірае,
І паражнеюць вочы пакрысе.

*Пятро Развозчык*

## Коні волі

Стлелі шаблі і пістолі
у журбе, нудзе й няславе.
А нашчадкі — коней волі
неабачна рассядлалі...

Дзе ж вы, коні, вараныя,
што казацкі дух спазналі?
Маўчыцё, нібы нямыя,
Можа, грэбуеце намі?

Маем волю — жмут дакораў
(хоць глядзіцца даматканай)...
За Дняпром заржалі коні.
За Дняпром? Ці за вякамі?..

*Валадзімір Кузьміч*

## Палуботкаўскі крыж

*Калі гетман Палуботак збіраўся
да Пятра І па вольнасці,
майстрыхі з розных сёл вышывалі яму
кашулю, перадаючы з рук у рукі.*

Вышывала Украіна кашулю...
Слязамі адбяліла палатно,
высушыла цёплымі рукамі
ды й напісала долю
сумна-крывавую
крыжыкамі журбы.
І кожная майстрыха
свой боль вылівала,
і кожная вёска
у тую кашулю ўкладала
жарынку надзеі...
Навошта ж чорным
абшылі узор тонкі?
Наўрочылі долю чорную і няволю,
бо ў цара для гетманаў
свая святліца —
халодная вязніца.
Ай-яй, Палуботка,
хіба ты не знаў?

Ці ж быў такі цар,
каб не нішчыў Украіну,
ці ж ёсць такі крук,
што не выклюе вочы,
ці ж прыдбаць можна
жаданую волю,
не біўшыся з ворагам
да згубы.
Колькі ж трэба зведаць
суседскай здрады,
колькі злога прымусу,
колькі крыві праліць,
колькі верыць можна
у добрага ката
і спадзявацца на божы перст?
Ой, гетмане, гетмане,
душа твая чыстая,
ды ці выпрасіш волю,
ці выплачыш долю,
ці расчуліш сэрца,
што верыць не ўмее?
Вышывала Украіна кашулю,
заміж таго, каб выкаваць меч!

*Аксана Кішко-Луцышына*

***

Любыя плечы захутаны ў вечар.
Вочы захутаны ў грэх.
Ярка-пунсовыя ясеняў свечкі
Сіні гайдае снег.

Жоўтаю стужкаю цягнецца рэчка,
Бераг — туман і зіма.
Холад — надоўга, растанне — навечна.
Смерці — няма.

*Мар'яна Саўка*

***

І крылле спаліцьмем. І станем людзьмі.
І сталі. І крочым шляхамі зямнымі
У холад і бель незямное зімы.
Ідзем паміж іх. І становімся імі.

А снег не сканчаецца тысячу год,
А холад крывавіць балючыя шнары.
А горад закуты у латы, бы ў лёд.
На браме бялеюць чужыя штандары.

Шукаем ратунку. Вакзалы. Двары.
Кавярні. Будынкі з вачамі шклянымі.
І людзі з бязлікім таўром машкары.
І мы паміж іх. І становімся імі.

*Віктар Баранаў*

***

А як бы вам, цётка, з калгаса «Наказ Ільіча»
заміж гектара бураковага плана—
ды засень густую ад пальмавых шат
на пляжным беразе цёплага акіяна;
ды шэзлонг (вы й слова такога не чулі), ды
купальнік-бікіні заміж плісавай «лабуды»;
а косы каб вашы зрудзелі ад марской вады...
Што было б тады?

І каб не вы да поўначы таўкліся ў двары
(звары, паднясі, прыбяры, дагадзі ўсім паспець...),
і каб рана-раненька, на досвітку, на зары
усмешлівы негр вам каву падаў у пасцель
і чытаў з газет, пакуль вы кавуеце ў смак,
як паром затануў, як у полі загніў бурак.
Ну, а вы б смуткавалі з чужой бяды.
Што было б тады?

А ўвечары, пасля адведзін сталіцы,
накупіўшы ўсяго для мужа, сябе і малечы,
Вы не ўпалі б зняможана у падушку ніцма,
А прыйшлі б адпачыць на мой паэтычны вечар.

Вы сядзелі б у зале і думалі: Не,
Ніхто так не піша , як Байран або Манэ...»
Вы ўяўляеце, цётка, што было б тады?
Цётка, цётка! А якія ж вашы гады...

*Ліля Залатаноша*

***

Пра тое, што кахаю, я зманіла,
І бессаромна станік ападаў,
нібыта дзікі воран чарнакрылы,
у просінь навальнічную атаў...

Ты штось шаптаў, бы пацеркі нанізваў,
На ніткі пазалочаныя траў...
І дзіўна, што... табе я не зманіла:
Пад ранак закахалася сама.

*Леся Моўчун*

***

Ababраная забаронамі
па найвышняй тугой струне
йдзе душа мая за варонамі —
за варотамі толькі снег.

Не паіла яе прываротамі,
толькі рвецца душа наўслед,
за варонамі крываротымі,
за варонамі ў белы свет.

Загублюся між хмараў кронамі,
дзе пярынкі трымцяць, як лес.
За варонамі, за варонамі...
Бог не выдасць, а свет не з'есць.

***

Пасадзілі штандар на палю —
ну якой яму болей кары?
Выкуй голас, як звон, кавалю, —
Можа, выберуся з атары.

Бо з паўголасу жыць недарэчна,
бо паўслова гучыць злачынна...
Спакавала паўкраю рэчы
і пакінула нам Украіну,

Каб на нейкім глухім кардоне
абтрусіцца ад роднага пылу...
...А ў напаўапусцелым доле
цэлыя толькі бацькоў магілы.

## *Алеся Мамчыч*

***

Я па пяты ў расе
І па сэрца ў расе
І не знае ніхто
Што пабачылі ўсе

І не знае ніхто
Толькі свет патойбоч
Як спявала наўзрыд
Скрывянелая ноч.

Як спявала наўзрыд
І як месяц аслеп
І як потым дажджы
Разарвалі сусвет

І як падаў сусвет
Цяжкакрыла між траў
Пахрысціўшы мяне
На світанку — як храм.

*Алеся Мудрак*

***

Зазірнула ў сівую, як лён, даўніну,
Згадаўшы ўсё, над чым бяссільны тлен.
Крануў анёл крылом тугім струну
І Госпаду паведаў пра мяне.

Якісь юнак ледзь чутна прашаптаў:
«Здаецца мне, што вы сышлі з бажніцы...»
А ў храме моляцца, гудзе, як вулей, храм,
Звіняць званы ўрачыста на званіцы.

Малюся й я: «Дай, Божа, ўсім дабра!
Прашу Цябе! Нам так абрыдлі бітвы!»
Не, хлопча, не з бажніцы я сышла,
Сам Бог мяне паклікаў да малітвы.

## *Са славенскай*

*Іван Добнік*

### Летні накцюрн

У чыстым белым лесе
нас слепіць лета. Мёд,
наліты да неба, звініць
між ціхімі павекамі

сну. Час зачараваны ў паветры,
высокая малітва ўсяго жывога,
рачны задуменны плёс, і чайка
між крыламі-кветкамі бузіны,

жывіца на сценах хатаў, воск
сонечных промняў і на стале
загорнутая кніга, рыбін язык
у вачах аголенай жанчыны, якая,

змружыўшы вочы, тоне ў прадонні
ночы. Бязважкае летуценне.
Дрымотнае лісце вербаў, стук жаўны,
кабылін язык у атаве, пантэра

ў кашачым целе. І жарсць,
цялесная мілосць, водар скуры,
кахання нарастаючы прыбой
у хвалях шалу, у цеснай блізіне
крыку.

*Анюша Белехар*

## Вясельная

Я вандрую ў сонца
Звіняць сонныя літары пад рукавом
Парасонам лаўлю дыханне
ўжо настроенае на спеў.

Я вандрую ў сонца

Шлях дадому такі мяккі
Парасона лук напяты
Ад соладу і сонца сонныя літары
звіняць пазалотай...

Я вандрую ў сонца,
што неба ў пацалунку абдымае
З ім я вазьму шлюб
З ім я пахну як сушаныя крышані

З-пад парасона ўся такая салодкая музыка
Разліваецца з вышыні!

*Цветка Беўц*

## Паляўнічы на аленяў

Недзе ёсць месца любошчаў.
Часам спім пад кустом ядлоўца.
У шатах ягоных блукае жарсць,
і аленяў пасвіць цікаўнасць,
навокал ад нашых палянаў скрозь шумна —
вызвоньваюць рогі.
Так бы ўсё йшло.
Ды раптам казуля зледзяніла мяне паглядам,
каб я схавала галізну пад папараццю
ў камарыным звоне.

Ты ж са смехам фарбуеш палёты
асляплых ад сонца птахаў
і асуджаеш маю чуллівасць
з размазанымі чарніцамі на пупку.
Ліжаш гэты зародак, як сэрцавіну свету,
сягаеш далей за прароцтвы,
пазначаныя цёмным сокам,
падобным да крыві запечанай русалак.
Яшчэ крыху, і ты кінеш маё знямоглае цела
на водкуп лютым звярам,
таму што я — твая вакханка —
развярэдзіла куст ядлоўцу.
І цяпер хіжы дождж ападае з зялёнай ігліцы
на аленяў і казуль.

І я болей іх не цікаўлю.
Таму яны ўнікаюць маёй распусты
у тайныя праймы і холад стомленых целаў.
Ва ўласную немач.

Стаўлю на варце свой гонар,
каб не памкнуць за імі. Або табой.
Бо ты мусіш стаць мужчынам.
А я мушу стаць кімсьці больш, чым жанчына.
Іначай сканаю пад голым ядлоўцам,
калі ты яшчэ раз народзішся ўва мне,
Як паляўнічы на аленяў,
якога я карміла чарніцамі і малаком казуляў.

# *З македонскай*

*Славе Георгі Дзімоскі*

## Крыніца

У грудзях маіх плюскоча
Срэбны голас,
Выцякае
Крыкам
З апрыклай вязніцы.
Погляд сіні,
Нявінны,
Зямлю наталяе.

Упартая вада,
Як вярнуць цябе небакраю?!

## Цяжар

Поўня просіцца
Стаць пярсцёнкам...

Я прывязваю каня да плота.

Зацягваю пас,
Папраўляю меч.

Пазнаю сябе
У шкляной вадзе

І ў ваўчынай крыві
На снезе.

## Зноў зіма

Жыццё мінае — зноў зіма.
Снежная вокладка кнігі,
Загорнутая на вачах,

Бялее.

Праз імгненне яна старэе:
Бярэцца трэшчынкамі
На марозе.

Жыццё мінае: вострыя ўздых,
Нібы сняжынка параніла
Сэрца.

А завея

Скалелыя пальцы
Пад пахамі грэе.

# *З балгарскай*

*Элка Няголава*

## Бацькоўскі кій

На бацькоўскі стары кіёк
абапёрся стамлёна свет....
І нікому няўцям,
што ён
чыніць Госпадаў запавет.
Бацька кій той знарок забыў,
выпраўляючыся за хмары,
бо кульгавасць па смерці збыць —
марыў.
З кім спрачаецца мой васпан,
Можа, скача?
Што заўгодна ён робіць там,
ды не плача.
Бо наплакаўся ў волю тут —
аж да краю.
Знёсшы столькі зямных пакут,
слёз не мае...
Вось з балкона ў святліцу чыйсь
цень прыклыпаў...
І глядзіць на бацькоўскі кій
ціха-ціха.

Не спытаю ў яго імя —
хоць і трэба.
Бо упэнена цвёрда я —
госць той з неба.
Стопаверхавы хмарачос —
душ багацька...
— Божа, выбелі сонцам лёс
і для бацькі.

## Кажан

Я кажан,
шоргат крыл у тумане,
каб схавацца
ад паўночных апосталаў п'яных.
А ў душы хараство.
Спеў гітары. І шэпат.
І святло ад ліхтарні.
За ім не разгледзець мне неба.
Я кажан,
галавою над плёсам звісаю
з перакуленым лёсам
колькі год. Не згадаю.
Памяняліся месцамі Зло і Дабро?
У сусветных прасторах
месца хопіць для ўсіх,
Неба — сіняе мора!
І між намі вакно, як мяжа.
Так нязвыкла —
нябачная рыса...
Крылы спяць у чаканні світання.
Я не сплю
у прадонні касмічнае ночы
і ў вакне насупроць
не твае адбіваюцца вочы.
Я адчайна маўчу

і ў цямрэчы мой смутак начуе.
І ніводнай душы
ад вады і да Сёмага неба!
А на ніжняй мяжы
гэтак душна, і страшна, і шумна,
быццам лёс як знарок
адбірае мяне у цябе.
Свет сябе сцеражэ
ад самога сябе і патопу
без спадзеваў наіўных
на рукі сяброў пры вясле.
Закіпае прыбой,
і у хвалях хаваюцца вёсны.
Свет, схаваны ў сабе,
анямела ад страху маўчыць.
Асцярожна прысядзь ля вакна
і угледзься ў нябёсы.
Я кажан,
чарнакрылы анёл твайго лёсу.
Ліштвы вольна раскрыль,
знікне ў суме апрыклым патрэба.
Мы з табой узляцім
вышай зор — аж да сёмага неба!

## Урок любові

А лебедзі ў парку
дзяцей навучаюць любові.
Прыўзняўшы прыпол,
нібы пані, клубамі пахіствае хваля.
Маланка ў нябёсах —
як знак таямнічы палае.
Залевы знянацнай
пятля, як змяя, заціскае.
Адчайныя чайкі
аспрэчваюць брудныя плёткі.
(Раўнівым паглядам
іх сочаць базарныя цёткі).
Дарослыя дзеці
з гнязда назаўжды вылятаюць...
І гэта зазвычай —
бацькі іх палёт блаславўляюць.
Ніхто не ўсвядоміць —
жыццё падарунак ад Бога.
Ні кроплі дажджу не ўпадзе
з-пад пахмурных аблокаў.
Тры белых пярынкі
на шчасце нам лебедзі ўручаць.
Яны нашы душы
любіць і пакутаваць вучаць.

## Сустрэча з сабой

У пятлі канаплянай
душа заблукала...
Жылы смокчуць нябёсы.
Столькі спраў неадкладных
на заўтра адклала —
дзякуй Восень!
Ліст кляновы кружляе
у вакно зазірае,
я яму не пярэчу...
І манетай агністай,
поўняй з Божай маністы
заплачу за сустрэчу.
Гэта стрэча задоўга
мне была абяцана,
ды збылася так рана...
Ледзяною іголкай
восень вышыла шнары,
ды не гояцца раны.
Не спяшай усміхацца,
прыйдзе час мілавацца,
трэба ўсё ж пастарацца
выпіць боль поўнай квартай...
Бо жыццё, хоць і коліць,
ды без шнараў і болю —
анічога не варта!

# *З літоўскай*

*Аідас Марчэнас*

## Паэт

*Гінтантаўтасу Патацкасу*

мне крылы пазычыць вецер
анёл мне падорыць ліру
а слугі ўскладуць на плечы
мне золата ладан міру

прайду я патухнуць зоры
у пыл спарахнеюць замкі
абурана бура горы
зраўняе для хіжай славы

святлом надзяліце й хлебам
грашыма і цёплым дахам
і вернецца наўзамен вам
крывёй і гарачым прахам

я хлушу найлепш ад праўды
нашмат прыгажэй чым трэба
я хлушу а гэта значыць
жыву і чакаю хлеба

каханак ад лішняй цноты
віно ад абрыдлай тары
я вызвалю нібы голас
схаваны ў душы гітары

*Стасіс Іонаўскас*

## Маляваў кветкі…

Фарбы разбаўляючы зімой,
Пэндзаль акунаючы ў нябёсы,
На мальберце завадзі рачной
Маляваў ён кветкі з сумным лёсам.

Ім жыцця не хопіць адцвісці,
Як звычайным кветкам выпадае,
Бо нябёсы ў восеньскім лісці,
І дажджамі хмары набухаюць.

Хоць да першаснега — многа дзён,
Дзе ідзе ён — іней праступае.
У нябёсах воблакаў мільён —
Месцы неабжытыя займаюць.

*Ёнас Зданіс*

## Костка

Дзень вісіць, як белая кашуля
на вяроўцы пад зімовым дубам.

У пакоі жанчынамі поўным
на пытанні адны і тыя ж
я стаміўся адказваць зноўку.
У святле, як сусвет скалелым,
свецяць твары іх перад дрэвам.

Трызніш ты на няроднай мове,
а, прачнуўшыся, пішаш брат мой
на сцяне у сваім пакоі
аскалабкам засохлым косткі.

Прыручаю паглядам рэчы:
абмялела кахання рэчка —
зморшчын рэчышча ля вачэй,
перасохлыя смагай вусны.

Тонкіх ліній крыштальны іней
зімніх літар, марозных слоў,
схаладзелых пад языком.

*Арнас Алішаўскас*

***

Я сведчу што нічога больш няма
Не згадана не спраўджана забыта
Страх старасці — нязжытая зіма
Бо толькі ў снах цвіце зімою ліпа

Паўторыцца нанова сумны сон
Гандлююць газай брудныя бабулі
Не ў першы раз страх возьме у палон
Сад дыяментавы і ты ў начной кашулі

Яшчэ блукае й нараджаецца агонь
То б'ецца птушкай то паўзе змяёю
Тым днём калі цвікі не скрозь далонь
Скрозь хлеб прайшлі запёкшыся крывёю

Дзе пір агню там правілаў няма
Ні смерцяў толькі лічбы з нумарамі
Калі ты хворы значыць хворы я
Кастром шаманскім сонца па-над намі

Пад вечар ані слоў ані гасцей
Застылі гіры ў змове з ланцугамі
Над горадам кружляе белы снег
Як позні птах над чорнымі стагамі

*Генрыкас Альгіс Чыгрэюс*

## Вецер у дрэвах прымор'я

Той вецер у дрэвах такі нянаскі,
З Балтыі ён, а магчыма,
й па Швецыі швэндаў,
Такі заходні, такі сусветны,
Гул ягоны — знаёмай песняй.

А можа, ён з поўначы,
З Салачаю, з Біржайскага краю
Швагерчык; поначы
Самім сабою прыгнаны.

Злуецца вецер, дык гайда за стол,
Ды без бутэлькі нельга!
Без чарачкі падобным стане ён
На замак, што не мае вежаў,
Твой стол-бянтэжнік.

# *З польскай*

*Павел Шыдэль*

## Бунт

яшчэ раз
на край сусвету
павандрую

слязу непадробную згублю
і здыму каменную маску

твар знявечаны
агалю

запяю салаўём журлівым
мо паспею перад світаннем
наталіцца усмак каханнем

хто адкажа
мне
на пытанне

чаму ў маёй хворай галаве
Бог жыве

***

Марэк граў на званах касцёльных
як Шапэн як шаман шалёны
Бог
які паскупіўся на іншыя рэчы
у час спахапіўся
і даў Марэку апантанасць
і магутныя плечы
каб цягаючы за вяроўкі
пачуваў ён сябе шчаслівым

аднойчы па волі Злога
Марка замяніла
электрычнасць
і званы
з таго дня без душы

*Марыя Магдалена Пацгай*

## Стакротка

Сарві мяне на тым сонным лузе
у пойме сонца
колькі ўжо можна чакаць
у белай, як снег, сукенцы

толькі не думай
што я сама імкнуся ў рукі
сарві мяне вуснамі

*Вальдэмар Міхальскі*

## Верш пра маці

На шыбах святла
белы эскіз ледзяной цывілізацыі

аднойчы ў сакавіку
выправілася маці ў вандроўку між гор

па каменных гета адчаю
з жалезам на вуснах і бяростай на грудзях

што ты ведаеш аб маёй маці
цемра

*Яцэк Любарт-Кшысіца*

## Адкажы як Норвід

Калі спытаюць: — Што ты дзеіш?
Адказвай проста: — Я вяршу!
Жыццё
Рэлігію
Ідэю
Народ
Ці лепш сказаць — Душу!
Бывае вуліца падхопіць неспадзявана
Божы спеў
Свет перакуліцца і ўлада
нібыта човен на вадзе
А часам пара акрылёных
Галоў што крэмзаюць паперу
Святую ісціну мільёнам
Адкрыюць — словы стануць Верай
І апантана праз хвіліну
Да мазалёў на языках
Брук шліфаваць пачнуць —
То вырак!
А рэшта? — гэта музыка
Шапэн зняволены да скону у акордах
Міцкевіч
Норвід
Калі спытаюць
Адкажы: — Вяршу
Так як раней!

## Нашы размовы

Нашы размовы
наша светлая прышласць
такая светлая — як у душы Ўсявышні

нашы размовы наша з табой блуканне
кожную ноч у залатым тумане

нашы размовы...
а за сцяной суседзі
чуюць усё, зайздрасць у сэрцах гнездзяць
іхняя зайздрасць
нас пазбаўляе крылаў
а без нябёсаў свет нам такі нямілы...

## Уваскрэснем у музыцы

У гуках музыкі ўваскрэснем
па-за светам
па-за часам
там, дзе спіць, як птушка, Песня
не спяваная ні разу

Хваля музыкі высокай
захлыне нас
як цунамі
плынь яе — сусвет глыбокі
ну а вёслы — наша памяць

І плывем мы апантана
нас няма
мы — вадаспады
а ў той музыцы — каханне
а каханне — смерці здрада

Мы ўслухоўваемся ў ночы
а ні ночаў
ні пытанняў
толькі ў небе зорак вочы
як надзея на вяртанне...

## Слова

Не прарасце пустое слова
чым не паліць — слязой ці потам,
не столькі жарсці ў нашай мове —
каб адкладаць жыццё на потым!

Мы не аратары, не барды,
нас вера не вядзе на бітву...
Ды выпадае часам карта —
і слова робіцца Малітвай...

# ЗМЕСТ

**ЛЕС ДЗЁННАГА АСВЯТЛЕННЯ ................................15**

Мая ісціна .................................................................... 19
«Пасталенне — тое ж прыцягненне...» ........................ 20
Беларусь ...................................................................... 21
Арган............................................................................ 22
«Ёсць памяць генаў, памяць роду ...» ......................... 23
«Я вольны адвеку...»..................................................... 24
Мірскі замак.................................................................. 25
Памяці Уладзіміра Караткевіча.................................... 26
На кургане Адама Міцкевіча........................................ 27
Дзесяцікласніца ............................................................ 28
Скрыпач........................................................................ 29
Вуж ............................................................................... 30
«Зноў выходзіць поўня перыць...» .............................. 31
«У плойме дзён пустых і безаблічных...» .................... 32
Месяц ........................................................................... 33
Дзень............................................................................. 34
Жыццё........................................................................... 35
Вечнасць ....................................................................... 36
На могілках .................................................................. 37
Ліпень........................................................................... 38
Восень........................................................................... 39
Зімовая асацыяцыя....................................................... 40
Начное возера............................................................... 41
Шкельцы ў вітраж «Каханне» ...................................... 42
«Чамусьці сягоння ізноў...» .......................................... 43
Знаёмай танцоўшчыцы ................................................ 44
«За міг, кароткі, як і ўсе...» .......................................... 45
Гістарычны эцюд .......................................................... 46
Акраверш...................................................................... 47
Меліярацыя................................................................... 48

**ПЯШЧОТА ЛІЎНЯ.........................................................49**

*** А буслы белы гонар маюць..................................... 53
*** Жыццё паходнай грандыёзнай................................ 54
Перад Грунвальдскай бітвай ........................................ 55
Нясвіжскі замак............................................................. 56
Мір................................................................................. 57

Ішкалдзь ....................................................................58
Памяці музыканта..........................................................59
Сляпы ........................................................................60
Ронда ........................................................................61
Дзяцінства ................................................................62
Экспромт....................................................................63
Вячэрні эцюд...............................................................64
Фігурнае катанне .......................................................65
Тэатр .........................................................................66
Захад .........................................................................67
Шкельцы ў вітраж «Поры года» ....................................68
***Нехта ў зорным садзе ..............................................69
Дуб.............................................................................70
Лісічкі.........................................................................71
Чэрвень ......................................................................72
Навальніца..................................................................73
Актава........................................................................74
Акварэль ....................................................................75
*** Я ў юнацтве ныраў — ого! ......................................76
*** Не паўтарэнне .......................................................77
Згадка аб дзяцінстве...................................................78
Пяшчота ліўня.............................................................79
Гомель .......................................................................80
*** Раскладу пад вечар ...............................................81
*** Празрыстая далеч ..................................................82
Пагост.........................................................................83
*** Агонь учэпістай рукою...........................................84
Трыялет .....................................................................85
Тэрцыны ....................................................................86
Вечар..........................................................................87
*** Тухнуць доўга адгалоскам ......................................88
Жонцы........................................................................89
*** Ад чаго ты самотны, бусел .....................................90
Інсульт .......................................................................91
Шлях да Радзімы.........................................................92

**КРЫЛО АНЁЛА .............................................................101**
«Пачатак, радзіны, корань...» ...................................... 105
Францішак Скарына .................................................... 106
Слова Паўлюка Багрыма............................................... 107
Францішку Багушэвічу ................................................. 108
Музыка....................................................................... 109

Май ........ 110
Вясна ........ 111
Жораў ........ 112
Ліс ........ 113
Майстра ........ 114
Калодзеж ........ 115
«Падзялілі шлюбныя фоткі...» ........ 116
Жанчына ........ 117
Мадонна ........ 118
Паўднёвы успамін ........ 119
Вольны верш ........ 120
Бэз ........ 121
Сустрэча ........ 122
Наталлі ........ 123
Адчай ........ 124
«Калі сціхнуць адгалоскі...» ........ 125
Міньён памяці ........ 126
«Туман у снежні...» ........ 127
Санька ........ 128
Дым Айчыны ........ 129
«Журавіны бяруць жанчыны...» ........ 130
Эскіз ........ 131
«Я стаміўся на свеце жыць...» ........ 132
Жыццезварот ........ 133
«Я ўрастаю ў чарговы дзень...» ........ 134
«Восень прыйшла раптоўна...» ........ 135
Дзікі качар ........ 136
Горад ........ 137
Ікар ........ 138
«У жніўні збяруся ў поле...» ........ 139
«Без ценю шкадобы, без кроплі адчаю...» ........ 140
«Месячнай цёплай ноччу...» ........ 141
«Забяры мяне ў неба, маланка!..» ........ 142
Травень ........ 143
Смутак ........ 144
Тупік ........ 145
Крыж ........ 146
Пазнанне ........ 147
Берагіня ........ 148
Самота ........ 149
Адлюстраванне ........ 150
Туюгі ........ 151

Віланэль ........ 152
Рытурнэль ........ 153
Я вас любіў ........ 154
Аднойчы ........ 155
Асенні рытурнэль ........ 156
Элегія ........ 157
Канцона ........ 158
Газэля ........ 159
Слёзы сліваў ........ 160
Ты так хацела ........ 161
Мае вершы ........ 162
Плач ........ 163
Душа ........ 164
Зайздрасць ........ 165
Крыўда ........ 166
«О як ты, грэшная душа!..» ........ 167
«Жанчына з сумнымі вачыма...» ........ 168
На беразе ........ 169
«Лістапад за астатняй лістотай...» ........ 170
Ронда ........ 171
Трыялет ........ 172
Надзея ........ 173
Малітва ........ 174

**РАДНО** ........ 175

**Анёл з адным крылом** ........ 179

«Чакаю цішыні...» ........ 180
«Я хацеў бы пісаць, як жыву...» ........ 181
«Паэты пачынаюцца з любові...» ........ 182
О Беларусь — аблiччам Божай маці...» ........ 183
Агонь ........ 184
Шлях ........ 185
Скруха ........ 186
Мара ........ 187
Спаліць масты ........ 188
Зіма ........ 189
«Змрок. Зор жвір...» ........ 190
Голас галінавых глосаў ........ 191
«Мая душа — як ліфт парожні...» ........ 192
«Я маці не любіў сваю адмалку...» ........ 193
«Верасень мярэсціцца ў смузе...» ........ 194

Лістапад ........ 195
Кажан ........ 196
Морыва ........ 197
Золак ........ 198
Прадчуванне ........ 199
У хваробніцы ........ 200
Чарнобыльскі анёл ........ 201
«Пайду ў лістапад...» ........ 202
Пілігрым ........ 203
Яно ........ 204
Максім, не вяртайся ........ 205
«Па дарозе «Масква — Варшава»... ........ 206
Згадка ........ 207
Эскіз ........ 208
Русалка ........ 209
Сялява ........ 210
«У тэатры восеньскага лесу» ........ 211
Асенняе ........ 212
«Стаю на цвінтарным ганку...» ........ 213
Паўночны пакой ........ 214
«Юнацтва лёгкае крыло...» ........ 215
Чарнобыльскі год ........ 216
Максіму Багдановічу ........ 219
Гліняная імша ........ 220
Каляды ........ 221
Батлейка ........ 222
Экспрэсія ........ 223
«Вечар — сляпым Гамерам...» ........ 224
Ці страшна? ........ 225
У музеі ........ 226
«Ні свечку, ні кветку, а кнігу...» ........ 227
Паэт ........ 228
Бяздомніца ........ 229
Сон ........ 230
Сафія ........ 231
«Над Радзімаю — ноч Савы...» ........ 232
Балада пра вясковага Ікара ........ 233
Балада пра затопленае вядро ........ 236
Балада пра незапаленую свечку ........ 238
Балада пра рыцара Здрады ........ 240
Балада пра кожнага першага ........ 242
«Я шкадую пражыты дзень...» ........ 244

**Памяць дзяцінства майго…** 245
Іскрыпка 246
Журавель 247
Купіна 248
Раска 249
Човен 250
Сітнік 251
Нерат 252
Дзябла 253
Пачына 254
Лівень 255
Поўня 256
Валун 257
Пастка 258
Стрэльба 259
Загнет 260
Услон 261
Парог 262
Зугаліна 263
Страха 264
Прымыльнік 265
Цэбар 266
Путца 267
Гужы 268

**Эра сноў** 269
Каханне 270
«Мы не парушылі мяжы...» 271
Расколіна 272
Возера самоты 273
«Сярод базальтавых прысад...» 274
«Былое жарсці вулкан патухлы...» 275
«Забудзься, як човен пяшчоты нас нёс...» 276
«Не ўяўляю, як буду цябе забываць...» 277
«Божа, як яна прыгожа...» 278
Я сумую 279
«А помніш апошні з табой наш раман?...» 280
Ангіна 281
«Ільну няўтольнаю ракой...» 282
Квадра кахання 283
Купанне 284
Сон 285

Н. 286
«Паміж намі — возера ночы...» 287
«Калі ты запавольваеш рухі...» 288
Дазваляла 289
«Віяланчэлі чую сола я...» 290
«Не кажы мне нічога...» 291
Я чакаю 292
«Жанчына на пляжы паўднёвым...» 293
«Усё часцей, усё часцей...» 294
Наталлі 295
«Мне сягоння зусім не спіцца...» 296
«Каханнем скрозь паэт жыве...» 297
Першы пацалунак 298

**НЕПРЫЧАЛЕНЫ ЧОВЕН** 299

Рэквіем парэзанаму «Радну» 303
Што ёсць Паэзія?.. 304
Аве, Марыя 305
Па Нёмане на плыце 306
Паспець 307
Патрэбны 308
Трыпціх Слова 309
Лебедзь 310
Клямка 311
Вільчык 312
Карчма 313
Позна 314
Восень 315
Ношка 316
Сыс 317
Плашчаніца 318
Выбар 319
Тут Зніч уваскрос!.. 320
Спакон 321
Датуль 322
Жыве! 323
Спяшайма жыць! 324
Мова 325
Прарок 326
Прыцягненне 327
Азаімія 328
Жыццё і Смерць 329

Закахацца... 330
Нічога 331
Здрада 332
Жанчына 333
Рай 334
Каханне 335
Матылёк 336
Натхненне 337
Класіка 338
Сон 339
Покуль ляцім... 340
Непрычалены човен 341
Дом 342
Анёл-Страцім 343
Як вярнуць?.. 344
Балада сустрэчы з Купалам 345
Балада пра Краіну-мару 347

**МАЛІТВА ВОЧ** 349

Пачатак 353
Дарога ў рай 354
Нестае... 355
На адлегласці 356
Музыка 357
Паганіні 358
Услед 359
Лета 360
Мара 361
Стрэл 362
Арда 363
Праклён 364
Новы шлях 365
Ніцма 366
Ткачы 367
Кактэбель 368
Максіміляну Валошыну 369
Сердалікавы ранак 370
Ерась 371
Саракавіны 372
Рэха 373
Сняжынка і вятрак 374
Грэшнік 375

У Кракаве ... 376
Паэзія ... 377
Настальгія ... 378
Ластаўка ... 379
Каханне ... 380
Дараванне ... 381
Здрада?.. ... 382
Я хацеў бы ... 383
Святая ноч ... 384
Лён ... 385
Нота До ... 386
Раман ... 387
Яблыня ... 388
Кроў Хрыста ... 389
Хараство ... 390
Ноч Шапэна ... 391
Прыгожая ... 392
Здзічэлы сад ... 393
Паміж ... 394
Маўчанне Госпада ... 395
Жыві! ... 396
Просьба ... 397
Назіркам ... 398
Не так ... 399
Жыве Беларусь! ... 400
На Каляды ... 402
След ... 403
Памаліся... ... 404
Пацалунак Іуды ... 405
Пілат ... 406
Бой з сабой ... 407
Вавілон ... 408
Вошы ... 409
Каін ... 410
Ноева зямля ... 411
Не позна ... 412
Залатая мая ... 413
Марыя Магдалена ... 414
Малітва ... 415
О Вільня! ... 416
Вяртанне ... 417
Ной ... 419
Бесядзь і Сож ... 420

На Палессе — услед за песняй... 421
Бог і блог 423
Ван Гог 424
Няблізка 425
Іранічнае 426
Было 427
Грэх 428
Месяц 429
Сцяг 430
Над магілай Анатоля Сыса 431
Дар 432
Антысвет 433
Ляцім да зор 434

**І СЛОВА РОБІЦЦА МАЛІТВАЙ…** 435

**Пераклады**

***З украінскай***

*Паўло Філіповіч*
Манамах 439
*Валадзімір Сасюра*
Макі 440
*Дзмітро Паўлычка*
***Я звар'яцеў ад ростані з табою... 443
Зямля з Тарасавай магілы 445
Дзве дзяржаўныя мовы 446
*Ліна Кастэнка*
Ван Гог 447
*Мікола Сом*
***Я дома. Раптам сярод ночы... 449
*Станіслаў Цяльнюк*
Галілей 450
*Іван Драч*
Мадонна з Хрэшчаціка 452
***Пахавайце мяне ў Цялежынцах... 453
*Мікола Вінграноўскі*
***Хадземце ў сад. Я пакажу вам сад. 455
***У сініх нябёсах я высеіў лёс... 456
*Васіль Стус*
***Гарыць сасна — ад нізу да гары... 457

*Пятро Засэнка*
***Прыйшлося Ўкраіне ляцець без крыла ........ 458
*Валадзімір Капусцін*
Шлях да мамы ........ 460
*Раман Лубкіўскі*
Паляванне ........ 461
*Надзея Кір'ян*
***Я штось забыла, я забыла штось ........ 463
Жаваранак дзяцінства ........ 465
*Валадзімір Забаштанскі*
Бітва з каменем ........ 466
*Тарас Мельнічук*
***іду... ........ 467
***вучуся ў лагеры ........ 468
*Алег Арач*
Слова ........ 469
*Барыс Чып*
Лось ........ 471
*Анатоль Кічынскі*
***Ціша. ........ 472
*Дзмітро Крэмінь*
Каменны скіф ........ 473
*Наталка Белацарковец*
***І жоўты клён, і камень у іржы... ........ 474
***Трымціць вада у шклянцы, і трымціць... ........ 475
*Васіль Асадчы*
***Па грудзі ў снягах мая маці... ........ 476
*Іван Малковіч*
Музыка, што пайшла ........ 477
Далёкае лета ........ 478
*Паўло Гірнік*
***Азяблым золкам, ліхой гадзінай ........ 479
*Вікторыя Кліментоўская*
***А, магчыма, мы — толькі пчолы? ........ 480
*Барыс Бунчук*
Колка дроў. Эпас ........ 481
*Наталка Поклад*
***Так мала любові ў сусвеце..., ........ 483

*Барыс Шчавурскі*
*** Нас забылі, быццам выслалі... 484
*Васіль Кажалянка*
Сярэдневечны зімовы пейзаж 485
*Раман Скіба*
Дараванне Каіна 486
Песня рыбака 487
*Аляксандр Яравы*
***...Шчэ пажывем у скрадзенай Айчыне 488
*Ігар Паўлюк*
***Ты не прыходзь, мой час доўгачаканы... 489
*Галіна Кірпа*
***Душа цяпер — як рэчка ў ледастоі... 490
*Пятро Развозчык*
Коні волі 491
*Валадзімір Кузьміч*
Палуботкаўскі крыж 493
*Аксана Кішко-Луцышына*
***Любыя плечы захутаны ў вечар... 495
*Мар'яна Саўка*
***І крылле спаліцьмем... 496
*Віктар Баранаў*
*** А як бы вам, цётка, з калгаса «Наказ Ільіча»... 497
*Ліля Залатаноша*
***Пра тое, што кахаю, я зманіла... 499
*Леся Моўчун*
***Абабраная забаронамі... 500
***Пасадзілі штандар на палю 501
*Алеся Мамчыч*
***Я па пяты ў расе 502
*Алеся Мудрак*
***Зазірнула ў сівую, як лён, даўніну... 503

***Са славенскай***
*Іван Добнік*
Летні накцюрн 504
*Анюша Белехар*
Вясельная 505
*Цветка Бейц*
Паляўнічы на аленяў 506

**З македонскай**

*Славе Георгі Дзімоскі*
Крыніца ..... 507
Цяжар ..... 509
Зноў зіма ..... 510

**З балгарскай**

*Элка Няголава*
Бацькоўскі кій ..... 511
Кажан ..... 513
Урок любові ..... 515
Сустрэча з сабой ..... 516

**З літоўскай**

*Аідас Марчэнас*
Паэт ..... 517
*Стасіс Іонаўскас*
Маляваў кветкі ..... 518
*Ёнас Зданіс*
Костка ..... 519
*Арнас Алішаўскас*
***Я сведчу што нічога больш няма... ..... 520
*Генрыкас Альгіс Чыгрэюс*
Вецер у дрэвах прымор'я ..... 521

**З польскай**

*Павел Шыдэль*
Бунт ..... 522
***Марэк граў на званах касцёльных ..... 523
*Марыя Магдалена Пацгай*
Стакротка ..... 524
*Вальдэмар Міхальскі*
Верш пра маці ..... 525
*Яцэк Любарт-Кшысіца*
Адкажы як Норвід ..... 526
Нашы размовы ..... 527
Уваскрэснем у музыцы ..... 528
Слова ..... 529

